

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

**BELARUSIAN DIGEST**

**ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(115) Сакавік 2004 March Год выд: 12.







## 25-га САКАВІКА 1918 – 2004



Віталі КАЖАН
адыйшоў у вечнасьць...
Вечная яму памяць!






За Бацькаўшчыну рваліся душа і сэрца неўміручага народнага Прарока Янкі Купалы, як і ў многіх-многіх яе слынных і невядомых, але адданых сыноў і дачок. Лічу, сёння якраз да месца нагадаць нестарэючыя і надзённыя Купалавы словы, напісаныя, здаецца, не чарнілам - уласнай Паэтавай крывёю. Напісаныя даўно, а быццам сёння...

**Прамова на 15-годдзі літаратурнай працы**

Дарагія грамадзянкі і грамадзяне зямлі беларускай! Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягонняшні дзень мне і маей пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай! Але толькі павінен я тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца, яна адносіцца да шмат каго з прысутных тут, адносіцца да ўсяго апошніх часаў руху ў беларускім адраджэнні. Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з падняволля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многаміл'ённага беларускага грамадзянства.

Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для сваё Бацькаўшчыны!

Але мы змагаліся і будзем змагацца. І наша змаганне не асталося без следу. Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты зарунеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.

Ні адно на свеце адраджэнне народа, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народа. І сапраўды. Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер? Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць. Адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення. Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна -- сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым падзяржаўнаму гавораць з намі як з народам, каторы заслужыў па людскому і Божаму праву гэту незалежнасць.

Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню -- брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе.

Хай Вас, браты-беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час. Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народная. Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народа.

Хай Вас не палохае, што рвуць нашу зямлю на часці, што хаты нашы спалосканы пажарам, што сяўбу нашу жне нехта іншы, -- зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён сам будзе жаць. Хай толькі асвеціць Вас адна вялікая думка -- аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыццё, калі яна Вас да гэтага пакліча.

На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ ў рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "Стануў Бог у зграмаджэнні багоў і паміж багамі суды судзіць". Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-Божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне праклящцямі ўспамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі, з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы цяпер святкуем.

Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворчай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё. У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духу -- наша пабеда, наша слава і шчасце -- цяпер і ў будучыні.

Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.

З кяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.

Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!

Янка Купала, 1920



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Аляксей РАГУЛЯ*

# Сваім ходам, часам ломкім...

**Беларускі час і прастора ў рамане Васіля Якавенкі "Надлом"**

У беларускай мастацкай культуры ў XX стагоддзі склалася спецыфічная сімволіка філасофскага спасціжэння эпохі. Асабліва значныя дасягненні ў азначванні гістарычнага часу і нацыянальнай культурнай прасторы належаць пейзажнаму жывапісу, медытатыўнай лірыцы, сацыяльна-філасофскай прозе. Менавіта гэтыя жанравыя формы стварылі дасканалую сістэму аксіялагічнага пазнання, адлюстраваную ў таксанаміі мастацкіх канструктаў, эквівалентных па сваіх інтэлектуальных ёмкасцях філасофскім канцэптам. Даследаванне і фарматызацыя стваранай сукупным нацыянальным суб'ектам мастацка-філасофскай канцэпталогіі – гэта тэма для спецыяльнай размовы. На разе ж адзначым, што працэс сэнсатворнай дзейнасці з'яўляецца атрыбутыўнай уласцівасцю нацыянальнай культуры сённяшняга дня, як і мінулых гадоў, і афармляецца ён у беларускай, а не ў іншанацыянальнай моўнай сімволіцы. Беларуская семантыка ідзе сваім ходам, у сваім рытме, няхай сабе і з пэўнымі збоямі.

Нямала падстаў для падобнага роду сцвярджэнняў дае і раман Васіля Якавенкі "Надлом" (Мн.: Беллітфонд, 2003) – першы зварот шырока вядомага публіцыста да эпічнай жанравай формы.

Можа паказацца, што папярэдняя гаворка пра праблемы нацыянальнага семіёзісу не адпавядае мэтам рэцэнзавання першага ў творчай біяграфіі пісьменніка рамана. Ці не лепш было б адзначыць дасягненні і пралікі, якія абавязкова ж павінны быць у першым эпічным творы аўтара, і па традыцыі параіць яму больш практыкавацца ў напісанні малых жанравых формаў?

Больш ці менш значныя недахопы ў кампаноўцы багатага гістарычнага матэрыялу, сюжэтабудове, у выкарыстанні выяўленчых сродкаў, зразумела, можна і трэба адзначыць. Чытачу хацелася б, напрыклад, атрымаць больш пераканаўчую сацыяльна-псіхалагічную матывацыю паводзін некаторых герояў. Рэтраспектыўны паказ даваеннага станаўлення такіх персанажаў, як Данік Плюнгер і Іллюк Дубовіч, мог бы стаць выдатным кантрастам да жыццяпісу Рамановічавага радаводу. Зрэшты,аўтару не заказана і сёння ўзмацніць гучанне гэтай тыповай для беларускага быцця паралелі, не позна выправіць і моўныя хібы (русізмы, неапраўданую падмену "цікавасці" "цікаўнасцю"), памылкі друку (камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння Чарнышоў на с. 395 стаў Чарнышэвічам). Недахопы, нават прыватныя, ёсць недахопы, але ў рамане "Надлом" увага чытача засяроджваецца ўсё ж на глыбіні мастацкай інтэрпрэтацыі, вобразнага ўвасаблення беларускага быцця. У творы разгортваюцца і забяспечваюцца чалавеказнаўчым зместам культурныя сэнсы, папярэдне выкладзеныя ў таких мастацкіх канструктах, як "забраны край", "вобразы мілыя роднага краю", "на шумнай цыркавой арэне", раскрываюцца новыя мадыфікацыі топасаў "бесы" (д'яблы), "свой чалавек". Дамінантай праходзіць знакавы матыў усходняй тыраніі – вобраз балю пераможцаў на дошках, якія пакладзены на звязаныя целы жывых палонных.

Семантычная повязь В. Якавенкі з даследчыцкім кірункам класікі і самастойнасць яго каштоўнасных установак заканамерна прыводзіць аўтара на канцэпталагічны ўзровень арыгінальнага мастацкага мыслення. В. Якавенка ў першым сваім рамане ўжо здолеў стварыць забяспечаныя чалавека – значным зместам ёмкссці, раўнавялікія філасофскім канструктам. Вось тут якраз і выяўляецца роля яго папярэдняй дзейнасці ў жанрах публіцыстыкі і нарыса. В. Якавенка заўсёды працуе з жывой гісторыяй. Яго персанажы – гэта вобразы існуючых людзей, і гэта абавязвае аўтара да тыпізацыі асобага роду – азначавання, канцэптуалізацыі самога факта. Дасягаецца гэта праз пашырэнне кантэкстуальнага кантыніуіму. У такой сітуацыі неабходнасць дамінуе над верагоднасцю, а семантыка вырастае з суаднесенасці і ўзаемасувязі рэаліяў, а не творчай, няхай сабе гіпатэтычна рэальнай фантазіі. Аўтар гістарычнай дакументалістыкі стаіць перад пагрозай застацца з фатаграфічнай копіяй рэальнасці, напісаць "яшчэ адну старонку, нічога не дабаўляючы да сэнсавага паглыблення. З В. Якавенкам гэтага не адбылося. В. Якевенка ўспрымае беларускі "знак бяды" і "чалавечы знак", зыходзячы з экзістэнцыяльнай патрэбы нацыянальнага самасцвярджэння.

У папярэдняй гісторыі беларускай літаратуры вёўся вельмі напружаны пошук адэкватнай знакавай сістэмы дзеля выказвання сутнаснага разумення краю – шыпшыны, "краю легенд, адвечных песень казак" – краю, "дзе магла б так поруч з смеццем гожасць пышная ўзрасці". Бадай, найбольш выразна патрэба ў канцэптуалісцкім адлюстраванні беларускага быцця, "уцяміць" гэты свой родны кут выказана ў слоўнай творчасці М. Багдановіча, М. Гарэцкага і К. Чорнага. Ранняя проза апошняга можа быць залічана з роўным правам і па ведамству псіхааналізу і філасофіі. Няздзейсненую, хоць гіпатэтычна вельмі верагодную "казку жыцця" ў сваіх Сумлічах (Цімкавічах) К. Чорны разглядаў на "вялікім скрыжаванні" крывавых гульняў еўрапейскай геапалітыкі. В. Якавенка ўбачыў быццё свайго Моталя на скрыжаванні крывяжэрных інтарэсаў прэтэндэнтаў на сусветнае панаванне. Іхнія сапраўдныя мэты падаюцца ў камуфляжы ідэалогіі "абранага Богам народа", "вышэйшай расы", пралетарскага гегемона. У сваёй аголенай і цынічнай сутнасці яна выказана ў Торы, Талмудзе, "Майн кампфе": "Ідзі і знішчы! З табою Бог!". І цімкаўцы, і маталяне не маглі нават і падумаць, што недзе на свеце ёсць "мудрацы", якім карціць збудаваць сваю будучыню на іхніх касцях ці праглынуць Беларусь "па абласцях".

Тым не менш з таго часу, як Беларусь, а разам з ёю і Моталь, страцілі сваю дзяржаўную годнасць, тут на працягу двух стагоддзяў дзяржаўнае кіраванне ажыццяўляюць чужынцы – біруць уладу метадам "накатаў". Гэтая хвароба яшчэ больш небяспечная за былыя наезды сарматысцкай мультытыраніі. В. Якавенка ўпершыню пасля кліскаў на пачатку дзяржаўнага адраджэння звярнуўся да матыву "забранага краю". Савецкі парадны партрэт Беларусі – гэта край фабрык і машын і абавязкова Беларусь "сінявокая"На працягу дзесяцігоддзяў гэты імідж засланяў "праўду веку". Яна – пад "накатамі" Суворава, Мураўёва-вешальніка, кайзераўцаў, пілсудчыкаў, бальшавіцкіх камісараў, гітлераўцаў. Беларускі сэнс (у рамане "Надлом" ён мае выгляд пчалінай "наасферы" – пчалінай гаспадаркі Пятра Пісарчука) не змог сябе пасапраўднаму сцвердзіць у беларускім горадзе навейшага часу пад цяжараў "накатаў" з чужыны. Накаты былі розныя, але апека з іхняга боку заставалася нязменнай: "турмамі песцілі, петлямі лашчылі" (Купала). Бальшавіцкі "накат" быў разлічаны на рэалізацыю праграмы, абвешчанай Мураўёвым: ліквідацыя культуры і мовы праз сістэму адукацыі і выхавання. Замест гаспадарскай парадыгмы – люмпенізацыя інтэлігенцыі, стаўка на "чалавека без багажа".Абгрунтаванне татальнаму расчалавечванню – "тэорыя" класавай нянавісці і практыка чырвонага тэрору. Першапачатковы мінімум гэтай праграмы – разбурэнне кроўнасваяцкай блізкасці і гістарычнай памяці. Кампенсацыяй павінна стаць адданасць партыйнай тыраніі. Энтузіязм – калі ласка, але ў форме працоўных арміяў.Хто думае інакш – той вораг народа.

У рамане "Надлом" раскрываецца спецыфічная для палескага рэгіёна пацяробаўшчына, характэрная з часоў калектывізацыі: "Мёртвых цел ляжаць пракосы, кроўю краскі зацвілі" (М. Зарэцкі). Найбольш актыўным прыхільнікам і практыкам бальшавіцкай санацыі стаў малады чалавек без роду-племені Данік Плюнгер. Статус партыйнага актывіста, зброя ў руках і ўлада партызанскага камандзіра, нянавісць і падазронасць поўнасцю кампенсавалі адсутнасць маральнай нормы. Дзяржаўна-партыйная тэорыя забяспечыла магчымасць спалучэння чалавеказабойчай практыкі з маральным камфортам. Даніку маглі б пазайздросціць пушкінскі Барыс Гадуноў, Раскольнікаў Вялікі інквізітар, Пятро Верхавенскі і нават Смердзякоў з д'ябаліяды Дастаеўскага: ім яшчэ трэба было прыстасаваць хрысціянства да апраўдання чалавеказабойчай практыкі. Даніку не сняцца крывавыя хлопчыкі начамі, не турбуюць нават цені знішчаных праз яго роднай сястры і маці. Кожны стрэл Плюнгера ў патыліцу ўсё адно каму: дзеячу нацыянальнага адраджэння Скірмунту, таварышу па партыі, суседу, які занадта шмат ведае пра Дагіка, сваяку, які ратаваў яго ад фашыстаў, – кожны стрэл апрыёрна апраўданы тэорыяй класавай нянавісці: "Між іншым, камуністычны ход падзей даў Плюнгеру і ўсяму ягонаму хаўрусу магчымасць адкрытых грамадзянскіх забойстваў у імя самаадчування сябе творчай асобай".

Плюнгераўшчына ў рамане "Надлом" мае свае вытокі ў прозе Ф. Дастаеўскага, на што паказвае і сам аўтар. Адначасова гэтая з'ява з'яўляецца і працягам беларускай традыцыі, якая зняла арэол трагічнасці з аблічча Вялікага інквізітара і паказала яго ў абліччы Вялікага злодзея ў прозе К. Чорнага. Проза В. Быкава яшчэ больш узмацніла паніжальную канатацыю ў адносінах да безаблічнага тутэйшага – "свайго", які брату ў магілку пасцеле яловыя галінкі перад тым, як стрэліць яму ў патыліцу за кусок каўбасы з рук чарговага "накатчыка". Семантыка вобраза "свайго" чалавека ў прозе В. Быкава адлюстроўвае памылку, зробленую падчас лёсавызначальнага выбару нацыяй ў пачатку XX стагоддзя. Васіль Якавенка падкрэслівае маштабнасць перманентнага катастрафізму, творанага плюнгераўшчынай на беларускай культурнай прасторы.

Найбольш адчувальнай і цяжкай духоўнай траўмай беларускай нацыі стала страта гаспадарскай парадыгмы. ? У рамане "Надлом" узноўлена карціна вынішчэння двух гаспадарскіх радаводаў Бедарусі. Плюнгер і яго хаўруснікі знішчылі ў 1939 г. Рамана Скірмунта, а ў гады вайны звялі са свету бацьку і сына Рамановічаў. Гаспадар Пятро Рамановіч, пчаляр і кніжнік, і дыпламат, фундатар беларускага адраджэння Раман Скірмунт былі аб'яднаны духоўна беларускай ідэяй. Гэтыя вобразы паўстаюць у творы як сімвалы тварэння беларускай нацыянальна-дэмакратычнай культуры. Сінтэз царкоўнай, рыцарскай, рамесніцкай і сялянскай субкультураў згодна з савецкім афіцыёзам быў немагчымы, дармо што гэтым шляхам пайшло ўсё чалавецтва. Р. Скірмунт выказаў сваю этнакансалідацыйную праграму ў шэрагу прац. Сярод іншых вылучаецца "Голас мінуўшчыны і патрэба часу" (1905).

В. Якавенка ў сваім гістарычным рамане надае дзейнасці Р. Скірмунта вялікае значэнне, маючы на гэта цвёрдыя падставы. Адраджэнская праграма Р. Скірмунта зрабіла вялікі ўплыў на пазіцыю "Нашай нівы", якую вульгарызатары якраз і ахайвалі за тое, што на яе старонкахвырашаліся актуальныя праблемы станаўлення беларускай нацыі як суб'екта культуры.Блізкім па сваіх поглядах да Р. Скірмунта быў і Вінцук Гадлеўскі, забіты немцамі ў час акупацыі.

Накаты XX стагоддзя пакінулі беларускую нацыю без сваіх палітычных лідэраў,але менавіта ў гэты час у нетрах сялянскага соцыуму сфарміравалася інтэлігенцыя, здольная да культуратворчай дзейнасці. Дваццатае стагоддзе ў гісторыі Беларусі пазначана фарміраваннем сялянскіх культурных кланаў. Гэтая з'ява знайшла сваё адлюстраванне і ў літаратуры, пра што сведчыць галерэя вобразаў сялянскіх філосафаў: "Льва Талстога" – мясцовага летапісца з "Язэпа Крушынскага" З. Бядулі, Галілея – сялянскага аналітыка ў "Вязьме" М. Зарэцкага, дзеда Талаша – антыпода бальшавіцкаму камісару ў "Дрыгве" Я. Коласа. Пераліку гэты, зразумела, няпоўны. В. Якавенка дапоўніў яго трагічнай і велічнай фігурай беларускага культурнага гаспадара – сучаснай разнавіднасцю традыцыйнай для Беларусі мадэлі культурнага героя. Пчаляр і сейбіт Пятро Рамановіч невыпадкова атрымаў у народзе прозвішча Пісарчук: сапраўдны беларус спрадвеку "бысть зело книжен". Невыпадкова таксама, што сюжэтная лінія Пісарчука сваімі сэнсамі пераплятаецца са слаўным гістарычным мінулым Моталя ў XVI ст., калі горад атрымаў правы на самакіраванне. Адчуванне духоўнай повязі пакаленняў, патрэба яе ўмацавання падштурхоўваюць пісьменніка да выкарыстання такіх жанравых формаў, як сказ, сон, відзеж, якія вяртаюць да жыцця дух вядомых на Палессі легендарных пракокаў, побач з Пісарчуком з мінуўшчыны паўстала постаць Мікіты Парыпы.

Аднак жа трагічны пафас нарастае з кожнай старонкай. Эпілог наогул нагадвае рэквіем. Уцалелыя рэшткі радзіны Рамановічаў раскіданы па ўсім свеце. Увасабленнем энергіі болю і нязломнай патрэбы ў адраджэнні бацькаўшчыны паўстае ў фінале вобраз беларускай жанчыны Мані – унучкі Пятра Рамановіча, дзіцячага ўрача, грамадзянкі ЗША...

І яшчэ адзін вобраз-сімвал заканчвае раман. Праз крывавы туман дзесяцігоддзяў Манін родны Моталь бачыцца як "чорная надмагільная груда", але ў памяці навекі застаўся і яе дзед – заснавальнік пчалінай наасферы.

В. Якавенка ў рамане не разменьваецца на маралізатарства, не выдае рэцэптаў удасканалення соцыуму. Ён вышэй за ўсё цэніць уменне ісці сваім ходам, уменне "застацца сабою, у сваіх берагах" – тварыць сваю будучыню. Раман "Надлом" стаў асэнсаваннем жыццятворнай сілы беларускай нацыі, якая насуперак усім "накатам" творыць суверэнную сваю дзяржаву.

Заснаваны на багатай фактуры, раман В. Якавенкі "Надлом" развейвае многія сацыяльныя міфы недалёкай мінуўшчыны і шмат у чым па-новаму раскрывае стваральны патэнцыял беларускай нацыі.

"ЛіМ" 12 снежня 2003 г.

********************************************

**НАШУ ГАЗЭТУ ЧЫТАЮЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЎМЕЮЦЬ І ХОЧУЦЬ ДУМАЦЬ...**

# Беларусы павінны падумаць пра сваю тоеснасьць!

Праф.Рышард Радзік: "Беларусы фармаваліся ў якасьці сучаснай супольнасьці ня столькі абапіраючыся на нацыянальную лучнасьць, як гэта пераважна было ў Эўропе, колькі абапіраючыся на лёзунгі савецкага тыпу".

**Як выглядае супрацоўніцтва паміж польскімі й беларускімі навукоўцамі-беларусістамі? Што зьменіцца пасля ўваходу Польшчы ў Эўразьвяз? Нашым суразмоўцам зьяўляецца беларусіст, сацыёляг народу, прафэсар Люблінскага Ўнівэрсытэту імя Мар'і Кюры-Складоўскай Рышард Радзік:**

- Гэтае супрацоўніцтва цяпер, можна сказаць, добрае. Мы некаторы час прыглядаліся да сваіх будучых партнэраў, пакуль ня трапілі на людзей, на якіх заўжды можна разьлічваць. І цяпер, калі казаць пра канкрэтныя навуковыя пляцоўкі, катэдры ці проста канкрэтных людзей, супрацоўніцтва ў нас добрае. Мы супольна больш як 10 гадоў запар арганізоўваем канфэрэнцыю „Шлях да ўзаемнасьці". Існуе міжнародная асацыяцыя беларусістаў. На чале польскага адпаведніка гэтай арганізацыі стаіць праф. Аляксандар Баршчэўскі. Гэта ён кіруе арганізацыяй канфэрэнцыяў з цыклю „Шлях да ўзаемнасьці". У 1993 годзе гэтая канфэрэнцыя была праведзеная ўпершыню ў мясцовасьці Белавежа. Цягам наступных 11 гадоў яна адбывалася раз па польскім, раз па беларускім баку. Тут у нас найбольш працы. Некалькі год мы выдаем часопіс „Acta Albaruthenica", які друкуецца таксама альбо па польскім, альбо па беларускім баку. Сутнасьць супрацоўніцтва таксама ў выдаваньні іншых часопісаў ці кніжак.

**Як вашае супрацоўніцтва можа зьмяніцца ў сувязі з уваходам Польшчы ў Эўрапейскі Зьвяз? Польшча будзе ўжо іншым партнэрам?**

- Я ня думаю, каб яна сталася іншым партнэрам, ці, ва ўсякім разе, яна ня станецца горшым партнэрам. Ёсьць пэўныя аб'ектыўныя абумоўленасьці. На жаль, уведзены візавы рэжым. Нядаўна я езьдзіў у Беларусь, і трэба было зрабіць візу. Тое самае датычыць нашых беларускіх калегаў. Я чуў, што асабліва ў Менску вялікія праблемы з атрыманьнем візы, так што гэта пэўная цяжкасьць, якая вынікае з будучага ўваходу Польшчы ў Эўразьвяз, але мне не здаецца, што на пэрспэктыву могуць паявіцца нейкія новыя перашкоды.

Думаю, што многае залежаць ад таго, якой будзе палітычная сытуацыя па беларускім баку, наколькі Беларусь будзе адкрытая на Польшчу, на Эўропу. Гэтае пытаньне важнае. Я спадзяюся, што польска-беларускія адносіны будуць настолькі добрымі, што нашае супрацоўніцтва атрымае працяг, што можна будзе езьдзіць адным да другіх, выдаваць часопісы, і, магчыма, чытаць лекцыі – як гэта робіцца сёньня.

**Беларусь і беларусы – частка вашых навуковых зацікаўленьняў. Апошнім часам у кнігарнях паявілася вашая кніга „Хто такія Беларусы?", перакладзеная таксама на беларускую мову. Хто яны, беларусы?**

- З трох частак кнігі, якая была выдадзеная ў Польшчы, у Беларусі пераклалі й выдалі дзьве першыя. Гэта называецца „Беларусы – погляд з Польшчы". На пытаньне „хто такія беларусы" нельга адказаць коратка і адразу. Можна было б казаць цэлымі гадзінамі, напісаць некалькі кніжак – і гэта добра пра беларусаў сьведчыць. Я ва ўступе да кнігі напісаў, што адказ на гэтае пытаньне немагчымы нават у адной кнізе. Беларусы – блізкая мне краіна, суседняя краіна. Гэта, з аднаго боку, блізкае, а з другога боку, выразна адрознае ад нас грамадзтва. Гэта грамадзтва, якое добрыя некалькі сотняў гадоў, у якасьці Літвы, дабраахвотна – я падкрэсьліваю гэтае слова – уваходзіла у склад Рэчы Паспалітай. Пазьней, пад канец XVIII ст. адбыліся істотныя зьмены: нашая супольная дзяржава была разьбітая трыма захопнікамі, і ад гэтага моманту беларусы пачалі выразна эвалюаваць у бок Расеі. Сёньня яны ў большасьці сваёй гавораць па-расейску, і, несумненна, адрозьненьні паміж польскай і беларускай культурамі сёньня непараўнальна большыя, чым калісьці.

**Гэта дрэнна?**

- Я да гэтага не падыходжу ў катэгорыях дабра альбо зла, а хутчэй у катэгорыях пэўнай аб'ектыўнай гістарычнай рэчаіснасьці. Беларусы перадусім адрозьніваюцца ад палякаў тым, што яны ў невялікай ступені маюць пачуцьцё ўласнай нацыянальнай тоеснасьці. Грамадзтвы сучаснай Эўропы разьвіваліся ў двух напрамках. Пераважная большасьць зь іх разьвівалася ў нацыянальным напрамку. Здаралася, што й нацыяналізмы паяўляліся. І беларусам ніколі не дазволілі набыць поўную нацыянальную сьвядомасьць. Нават не дазволілі выразна сфармавацца ў нацыянальным сэнсе.

Так было ў царскія часы, потым быў нашаніўскі пэрыяд, пасьля 1905 г. пачалі фармавацца беларускія эліты, потым была беларусізацыя дваццатых гадоў, а крыху пазьней – асабліва ў трыццатыя гады XX ст – забілі большасьць беларускіх інтэлектуалаў. І потым прыежджыя сялянскія масы – людзі зь беларускіх вёсак, пасьля Другой Усясьветнай вайны, сутыкаліся ў гарадох амаль выключна з Расейцы разумеюць, што Беларусь толькі тады будзе зьвязаная з Расеяй, калі на чале беларускай дзяржавы будзе стаяць чалавек, які кампрамітуе Беларусь у вачох заходніх грамадзтваў. Расейцы зацікаўленыя тым, каб Беларусь была бедная й недэмакратычная, каб яна не праводзіла рэформаў. Толькі тады Беларусь будзе імкнуцца да Расеі.

Думаю, што беларусы проста не ўсьведамляюць сабе таго, што Расея – якая прынамсі ў бліжэйшыя гады ня станецца чальцом Эўрапейскага Зьвязу ці NATO – мае вельмі канкрэтныя інтарэсы ў сувязі зь Беларусяй. Незалежна ад таго, хто Расеяй будзе кіраваць, яна будзе зацікаўленая тым, каб Беларусь была зьвязаная з Расеяй, а з Расеяй зьвяжацца толькі скампраметаваная на Захадзе, бедная, недэмакратычная і залежная ад Расеі Беларусь. Іншая Беларусь будзе імкнуцца на Захад!

Таму сёньня – я гэтага зноў не ацэньваю ў катэгорыях „добра" альбо „дрэнна" – Беларусь і ўсходняя Ўкраіна, а таксама значная частка цэнтральнай Украіны – гэта грамадзтвы, сфармаваныя паводле іншага прынцыпу, чым гэта адбывалася ў большасьці эўрапейскіх краінаў. Адсюль таксама крышку іншыя паводзіны гэтых людзей у штодзённым жыцьці, альбо на ўзроўні супольнасьці. Магчыма й таму Эўропу крыху зьдзіўляе сёньняшняя Беларусь і яе паводзіны, бо беларусы як сучаснае грамадзтва паўставалі, абапіраючыся на цалкам іншы тып каштоўнасьцяў. Мы занадта эўропацэнтрычна глядзім на іншых, у тым ліку на нашых суседзяў. Нам здаецца, што іншыя таксама мусяць думаць у тых самых катэгорыях, што й мы, але гэта ня так, і іншыя зусім не абавязкова бачаць сьвет у нашых катэгорыях.

**Польшча ўваходзіць у Эўрапейскі Зьвяз, і часам можна пачуць, што гэта такі цывілізацыйны выбар Польшчы. Беларусь – не прыхільніца такога выбару. Яна хутчэй схіляецца да лучнасьці з Расеяй. Як вы думаеце, гэта таксама яе цывілізацыйны выбар? Якая будучыня можа чакаць беларусаў?**

- Я не футурыст, і на гэтае пытаньне мне цяжка адказаць. Я магу сказаць, якія існуюць абумоўленасьці ў беларускіх рэаліях. Ведаеце, Польшча заўжды лічыла сябе часткай Эўропы. Здаралася, што яна была на памежжы Эўропы, ці эўрапейскай ускраінай – не абавязкова ў тэрытарыяльным, часам у якасным сэнсе – але пасьля 1989 г., калі Польшча вярнула сабе поўную незалежнасьць, не было ніякай праблемы выбару. Польшча заўжды хацела апынуцца ў заходніх структурах. Яна не з уласнай волі апынулася па-за заходнеэўрапейскім асяродзьдзем. Палякі зь вялізнай задаволенасьцю прывіталі распад сацыялістычнай сыстэмы, якая прыносіла нам вялікія страты. Гэта вынікае з гаспадарчай статыстыкі. Дастаткова параўнаць статыстычныя зьвесткі з перадваенных часоў, пасьляваенных і з 1989 г., каб пераканацца, колькі мы страцілі ў параўнаньні да Захаду цягам гэтых дзесяцігодзьдзяў.

**А што зь Беларусяй?**

- А зь Беларусяй усё ясна: усё залежыць ад таго, дзе беларусы захочуць апынуцца – у эўрапейскіх структурах, ці быць бліжэй да Расеі.

**А ці не ўсё адно, калі і Ўсход, і Захад больш дэмакратычныя?**

- Гэта можа толькі здавацца, што адно й другое – добра. Расейцам дагэтуль – ва ўсёй іхнай гісторыі – не ўдалося пабудаваць багатую дэмакратычную дзяржаву, дзяржаву вольных людзей. Я ад усяго сэрца жадаю расейцам – бо гэта таксама ў польскім інтарэсе – каб ім удалося пабудаваць такую дзяржаву, але пакуль што гэтага ніколі не было.

**Саюз Расеі й Беларусі – тасама дрэнная ідэя?**

Я б сказаў так: будучыня Беларусі залежыць ад таго, ці будуць яны нацыянальна сьвядомымі, ці не, і ці будуць яны здольныя думаць у катэгорыях нацыянальнага інтарэсу. Дасьледаваньні паказваюць, што ў сувязі зь вельмі нізкім узроўнем нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, яны кіруюцца эмоцыямі й нyздольныя кіравацца нацыянальнымі інтарэсамі. Чэрчыль некалі сказаў: Англія ня мае сталых сяброў, Англія мае сталыя інтарэсы. Гляньце: палякі не зусім любілі немцаў, але пасьля 1989 г. яны немцаў „палюбілі", бо шлях у Эўропу вядзе толькі праз Нямеччыну. Летувісы ня надта любілі палякаў, але пасьля вяртаньня сваёй незалежнасьці яны ведалі, што шлях у Эўропу вядзе праз Польшчу, і „палюбілі" палякаў. Беларусы любяць расейцаў. Гэта натуральна, бо яны з расейцамі зьвязаныя мовай і масавай культурай, аднак беларусы не бяруць пад увагу таго, што шчыльная залежнасьць Беларусі ад Расеі абумоўленая аб'ектыўным нацыянальным інтарэсам расейцаў. Расейцы разумеюць, што Беларусь толькі тады будзе зьвязаная з Расеяй, калі на чале беларускай дзяржавы будзе стаяць чалавек, які кампрамітуе Беларусь у вачох заходніх грамадзтваў. Расейцы зацікаўленыя тым, каб Беларусь была бедная й недэмакратычная, каб яна не праводзіла рэформаў. Толькі тады Беларусь будзе імкнуцца да Расеі.

**Як гэта магчыма?**

Калі б Беларусь была свабоднай, дэмакратычнай, заможнай дзяржавай, якая рэфармуе сваю гаспадарку, яна аўтаматычна была б празаходняй, хацела б увайсьці ў структуры Эўрапейскага Зьвязу. Дарэчы, калі б Беларусь правяла рэформы, яна магла б увайсьці ў Эўразьвяз, як хаця б тая ж Летува. У 1991 годзе узровень Летувы й Беларусі быў падобны. Таксама сёньня Беларусь магла б быць на пазыцыі Летувы, калі б беларусы кіраваліся сваімі, а не расейскімі нацыянальнымі інтарэсамі. Я думаю, што беларусы проста не ўсьведамляюць сабе таго, што Расея – якая прынамсі ў бліжэйшыя гады ня станецца чальцом Эўрапейскага Зьвязу ці NATO – мае вельмі канкрэтныя інтарэсы ў сувязі зь Беларусяй. Незалежна ад таго, хто Расеяй будзе кіраваць, яна будзе зацікаўленая тым, каб Беларусь была зьвязаная з Расеяй, а з Расейсй зьвяжацца толькі скампраматаваная на Захадзе, бедная, недэмакратычная і залежная ад Расеі Беларусь. Іншая Беларусь будзе імкнуцца на Захад! Дарэчы, незалежна ад таго, любяць палякі беларусаў, ці не – таксама аб'ектыўным інтарэсам нашай дзяржавы зьяўляецца, каб Беларусь адмяжоўвала Польшчу ад Расеі. Гэта вынікае з нашага цяжкога гістарычнага досьведу кантактаў з Расеяй. Нам трэба, каб паміж намі й Расеяй была беларуская дзяржава. Чым беларуская дзяржава будзе багацейшай, больш дэмакратычнай, чым больш свабоднай, чым далей пойдуць там рэформы, тым болей шанцаў, што Беларусь як дзяржава захаваецца, і што гэтая дзяржава будзе адмяжоўваць нас ад Расеі. Гэта будзе таксама гарантыяй таго, што Беларусь увойдзе ў Эўрапейскі Зьвяз. Польшча аб'ектыўна зацікаўленая тым, каб такая Беларусь існавала.

**Дык і беларусы гэтым павінны быць зацікаўленыя. Хто ж не хацеў бы жыць у багатай дэмакратычнай Беларусі? Гэта ж лягічна.**

- З маіх размоваў зь беларусамі (калі ня ўлічваць інтэлектуалаў) часта вынікае, што беларусы няздольныя думаць у катэгорыях халодных аб'ектыўных нацыянальных інтарэсаў, як гэта робяць палякі, летувісы, ангельцы ці немцы. Беларусы кіруюцца эмоцыямі й сымпатыямі. А трэба разьмежаваць інтарэсы дзяржавы – палітычныя ці эканамічныя – ад сымпатыяў ці антыпатыяў.

**Значыць, праэўрапейская й прадэмакратычная Беларусь магчымая толькі тады, калі яна будзе дзяржавай нацыянальна сьвядомага народу. А вядома, што ўзровень гэтай нацыянальнай сьвядомасьці ў беларусаў малы. Ці магчымы праэўрапейскі напрамак разьвіцьця Беларусі?**

- Я б гэтага настолькі моцна не разьмяжоўваў і не казаў, што толькі нацыянальна сьвядомая Беларусь зможа ўвайсьці ў Эўропу. Я б сказаў лагадней, што чым больш нацыянальна сьвядомымі будуць беларусы, тым больш іх будзе прыцягваць Эўропа. Зірнем на Ўкраіну: там найбольш нацыянальна сьвядомая заходняя частка краіны (адрозьненьне ад да ўсходняй часткі дзяржавы). Заходняя Ўкраіна вельмі хоча ў Эўропу, а ўсходняя – ня надта. Гляньце на Летуву: летувісы – нацыянальна сьвядомыя, і яны вельмі хочуць увайсьці ў Эўропу. Чаму так адбываецца? Бо народ будуе тоеснасьць. Вельмі спэцыфічную. Наступствы гэтага такія, што народы з моцна разьвітай нацыянальнай тоеснасьцю высока цэняць уласную адметнасьць, свой індывідуалізм, несупынна параўноўваюць сябе да іншых, і хочуць быць лепшыя, больш заможныя. Яны здольныя ахвяраваць сабой у імя будучага посьпеху народу. Дзеля гэтага патрэбныя нацыянальныя эмоцыі, нацыянальная лучнасьць, мысьленьне на пэрспэктыву.

**Што з будучыняй Беларусі?**

- Будучыня Беларусі залежыць ад саміх беларусаў. Сёньня народы будуюць сваю тоеснасьць, абапіраючыся на ўласную мову й культуру. Гэта такія народы, якія імкнуцца будаваць дэмакратыю, імкнуцца разбудоўваць сваю індывідуальную сфэру. Беларусы, зразумела, маюць шанец разьвіць усё гэта, але ў іх павінна паявіцца патрэба пачаць існаваць не як савецкае грамадзтва, не як грамадзтва, якое кіруецца клясавасьцю, не як грамадзтва, якое з сэнтымэнтам успрымае сваю савецкую мінуўшчыну, а як грамадзтва, якое абапіраецца на ўласную культуру, мову – як тыя ж летувісы, расейцы, палякі, ангельцы, французы... Зьвярніце ўвагу, што ў выпадку расейцаў мы маем дачыненьне з цалкам сфармаванымі расейскімі нацыянальнымі элітамі –у Маскве й Пецярбурзе. Расейская мова нясе ў Расеі зусім іншыя каштоўнасьці, чым у Беларусі.

**Як гэта магчыма?**

- У Расеі яна нясе пэўную глыбіню расейскай культуры, пэўныя нацыянальныя, часам нацыяналістычныя пачуцьці, схільнасьць ахвяраваць сабой у імя будучых нацыянальных посьпехаў Расеі, схільнасьць да несупыннага параўноўваньня сябе да іншых народаў, імкненьне выйграваць. У Беларусі расейская мова хутчэй саветызавала беларусаў, несла ім у першую чаргу ідэю клясавага мэсіянізму й давала магчымасьць кантакту зь іншымі народамі, але яна не давала ім расейскай нацыянальнай сьвядомасьці, усіх тых нацыянальных эмоцыяў, дзякуючы якім сёньня,

напрыклад, расейцы стараюцца рафармаваць сваю дзяржаву. А што ў Беларусі? Пра гэта беларусы самі найлепей ведаюць. Таму гэта ў вялікай ступені залежыць ад саміх беларусаў. Калі яны ня будуць здольныя стварыць магутную супольнасьць, падобную да польскай і часткова расейскай, тады яны будуць прадметам гульні на эўрапейскай арэне – недзе паміж Уралам і Атлянтыкай. Іншыя будуць вырашаць іхны лёс. І тады будучыня Беларусі ў вялікай ступені залежыць ад адносінаў паміж Масквой і Злучанымі Штатамі. Так што калі Захад дазволіць, а Расея ня будзе супраць, Беларусь можа стацца складовай часткай Расеі. Гэта і ад беларусаў залежыць, але сацыялягічныя дасьледаваньні паказваюць, што раз больш, раз менш, а часам і рашучая большасьць грамадзтва выказваецца ў Беларусі за аб'яднаньне з Расеяй. Беларусы маюць поўнае права аб'яднацца з Расеяй.

**У мяне такое ўражаньне, што Беларусь успрымае будучае аб'яднаньне з Расеяй на іншым узроўні. Ды й Расея таксама...**

- Беларусы, магчыма, прыймуць такое рашэньне ў выніку перапляценьня розных акалічнасьцяў на міжнароднай арэне і канчатковага рашэньня расейцаў. Расейцы дагэтуль не прынялі канчатковага рашэньня, бо неабходна было б упампаваць у беларускую гаспадарку й грамадзтва шмат мільярдаў даляраў. Расейцы баяцца, што трэба было б нейк прызнаць аўтаномію беларусаў, а тады такой самай аўтаноміі пачнуць дамагацца некаторыя іншыя народы Расеі, напрыклад, татары. Маглі б нарадзіцца сэпаратызмы. Расейцы баяцца таксама таго, што калі ім ня ўдасца задаволіць усе беларускія патрабаваньні (а, як вядома, сёньня расейская правінцыя даволі бедная, і на Расею нельга глядзець адно праз Маскву й Пецярбург), беларусы – прынамсі некаторыя – пачнуць задумоўвацца, ці слушна яны ўвайшлі ў склад расейскай дзяржавы. Могуць паўстаць беларускія сэпаратызмы, можа адрадзіцца беларускі нацыянальны рух. Таму расейцы так вагаюцца, і ня ведаюць, далучаць Беларусь, ці не. Зразумела, можа адбыцца нейкі паварот гісторыі, і тады расейцы хутка й аднабакова прыймуць такое рашэньне.

**Шмат было такіх народнасьцяў, якія зьніклі, так і не сфармаваўшы народу. Беларусы - у гэтым сэнсе - моцна спозьненыя. Як вы, навуковец, думаеце, ці не запозна беларусам ставацца народам? Ці ёсьць яшчэ такая магчымасьць? *Сёньня* існуе шмат канцэпцыяў Беларусі, і саміх Беларусаў, бадай, некалькі. Ці існуе яшчэ шанец, што менавіта нацыянальная вэрсія адбудовы беларускай тоеснасьці ўсё ж выйграе?**

- Сёньня значна цяжэй будаваць сваю нацыянальную адметнасьць. Значна цяжэй стварыць новы народ, нават калі ён у нейкай ступені сфармаваны ў якасьці сучаснага грамадзтва. Беларусы маюць сваю дзяржаву. Яны часта ўспрымаюць сваю Беларусь ў якасьці нейкага рэгіёну Расеі, аднак дзяржава існуе і ўзмацняецца. Паяўляюцца новыя групы-прыхільніцы захаваньня Беларусі ў якасьці незалежнай дзяржавы: бізнэс, моладзь, апарат улады. Беларусы не зьяўляюцца магутнай аб'яднанай супольнасьцю, якая ўспрымала б сама сябе ў катэгорыях дыстанцыі да іншых, і цьвёрда рэалізавала б свае інтарэсы – як гэта адбываецца ў Эўропе, ці хаця б у Расеі. Беларусы павінны гэта зразумець. Падумаць пра сваю тоеснасьць! Сёньня свабоду й дабрабыт бяруць менавіта з уласнай нацыянальнай тоеснасьці. З эгаізмаў таксама – такія рэаліі!

Аднак, я б сказаў, што ў Эўропе ўжо мінула мода на народы. Як сацыёляг, я скажу яшчэ адну важную рэч: народы паўставалі таму, што была такая неабходнасьць, бо інакш на іхным месцы вымушанае было б паўстаць нешта іншае. Народы паўставалі таму, што сяляне – некалі пераважная большасьць грамадзтва – раней былі замкнёныя ў малых лякальных вясковых супольнасьцях, і ім дастатковая была тутэйшасьць, аднак прыйшоў час, калі яны пакінулі свае малыя супольнасьці й пачалі урбанізавацца. Прыяжджалі ў гарады, пачыналі працаваць у фабрыках. Трэба было стварыць ідэалёгію, новую сыстэму каштоўнасьцяў, грамадзкія катэгорыі, якія апісвалі б людзям новы сьвет, у якім яны апынуліся. Ім трэба было растлумачыць, хто такія „нашыя", і хто такія „чужынцы", наколькі вялікі наш сьвет, што такое „добра", і што такое „дрэнна". Гэтыя катэгорыі, у прынцыпе, былі нечым новым. У XIX ст. і пазьней фармавалася таксама клясавая ідэалёгія. Рабочым у XIX ст. было вельмі цяжка, і таму ў 1848 г. у сваім „Камуністычным маніфэсьце" Маркс напісаў, што „рабочыя ня маюць айчыны", бо яны ня мелі ўласнасьці, а значыць, і не былі да канца вольнымі людзьмі. Маркс разьлічваў, што сучасныя грамадзтвы будуць арганізоўвацца вакол клясавай ідэалёгіі. Яна сапраўды па-свойму апісвала новым рабочым і былым сялянам штораз больш масавы сьвет. Аднак паўстала другая ідэалёгія – нацыянальная, і высьветлілася, што гэта яна перамагла на пераважнай тэрыторыі Эўропы.

**Іншымі словамі, пэрспэктывы перад беларусамі нецікавыя...**

- Вазьміце пад увагу мэханізм: калі нейкае грамадзтва прыняло нейкую ідэалёгію, сыстэму каштоўнасьцяў, і грамадзкую лучнасьць, якая апісвае ім новы сьвет, калі на падставе гэтага пабудавалі новае сучаснае грамадзтва, страта ўсяго гэтага на карысьць чагосьці хаця б і падобнага – ідэалёгіі, якая таксама суцэльна апісвае сьвет – нацыянальнай ідэалёгіі, вымагала б, каб быў нейкі мэханізм, а я яго ў Беларусі ня бачу. У XIX ст. гэты мэханізм быў выразны: сялянам трэба было растлумачыць, у якім сьвеце яны апынуліся, бо яны ўпершыню зь нечым падобным сутыкаліся, а калі насельніцтву сьвет даўно ўжо растлумачылі, калі людзі прынялі гэтую ідэалёгію й знайшлі сваё месца ў гэтым сьвеце, цяпер – тэарэтычна – павінен паўстаць мэханізм, які зьнішчыў бы гэтую ідэалёгію, каб потым на яе месцы паявілася новая – нацыянальная.

**Патрэбнае нешта, што апраўдала б радыкальны паварот? Адкуль мае паявіцца такі мэханізм? Ці ёсьць тут нейкі рэцэпт?**

- Таму беларусы й не вяртаюцца да сваёй нацыянальнай тоеснасьці. Я ня бачу раптоўнага працэсу вяртаньня да беларускай мовы, ня бачу, каб мову абапіралі на беларускія нацыянальныя каштоўнасьці. Больш за тое, я заўважаю, як беларусы лічаць сябе „талерантнымі", бо неталерантнасьць яны вельмі часта асацыююць з нацыянальным сьветаглядам, які яны – у сваю чаргу – асацыююць з нацыяналізмам. Бо сапраўды, і нацыянальная ідэалёгія, і нацыянальная лучнасьць і нацыянальны сьветагляд прынцыпова пярэчаць клясавай ідэалёгіі. Значыць, беларусы ў значнай сваёй колькасьці адмоўна ўспрымаюць беларускую нацыянальную ідэалёгію, прыпісваючы ёй нацыяналізм ці неталерантнасьць. Трэба было б задумацца, які мэханізм мог бы паявіцца ў сёньняшнім паўнавартасным, сучасным беларускім грамадзтве, пабудаваным паводле клясавых каштоўнасьцяў, каб ён зьнішчыў гэтыя савецкія, клясавыя каштоўнасьці й прымусіў людзей прыняць нацыянальныя каштоўнасьці. Я такога мэханізму ня бачу, хаця й выключыць нічога нельга.

**Значыць, беларусам трэба было б адкрыць нешта новае таксама для сьвету? Усё гэта гучыць даволі пэсымістычна, бо з вашых словаў вынікае, што Беларусь хутчэй за ўсё застанецца ў сфэры расейскіх уплываў, а значыць, беларусы ня змогуць адрадзіць сваю нацыянальную тоеснасьць, надалей будуць „нібы-народам"?**

- Ведаеце, каб не было так сумна, я б сказаў, што пэсыміст – гэта добра паінфармаваны аптыміст. Паўтаруся: я ня ведаю, якой будзе будучыня Беларусі, і лічу, што яна залежыць ад гульні сілаў паміж Усходам і Захадам. Скажу толькі, што мне, як паляку, вельмі хацелася б (дарэчы, як паказваюць мае кантакты зь беларусамі, часта менавіта мне найбольш гэтага хочацца, а не самім беларусам) каб Беларусь была дзяржавай трывалай, багатай, дэмакратычнай, праэўрапейскай, і каб яна апынулася разам з намі ў Эўрапейскім Зьвязе. Нямеччына была вельмі зацікаўленая тым, каб Польшча ўвайшла ў Эўразьвяз, бо ім не хацелася быць мяжой Зьвязу. Яны не хацелі, каб за іхнай усходняй мяжой была нейкая неакрэсленая дзяржава, якая не ўваходзіць у склад Зьвязу. Яны проста не хацелі праблемаў, і таму імкнуліся перасунуць мяжу Эўропы далей – на Буг. А Польшча зацікаўленая тым, каб перасунуць гэтую мяжу за Віцебск і Магілёў, каб Беларусь была часткай багатай і дэмакратычнай Эўропы. Гэта мой эгаістычны польскі нацыянальны пункт гледжаньня. Я ня ведаю, што будзе зь Беларусяй. Мне лягчэй сказаць, чаго б мне хацелася, і што з нашага пункту гледжання было б добрым. Дарэчы, тут нашыя і беларускія інтарэсы не разыходзяцца. Прычым я разумею, што глупствам было б заахвочваць беларусаў спыніць сваю лучнасьць з расейскай культурай. Гэта натуральна, што калі беларусы значна мацней зьвязаныя з Расеяй, чым з Эўропай, у культурніцкім, моўным сэнсе, дык гэтае пачуцьцё блізкасьці, культурная лучнасьць, сяброўскія, часта сямейныя кантакты трэба захоўваць. Але адначасова я ахвотна бачыў бы Беларусь на палітычным (у сэнсе ладу й пэўных дэмакратычных навыкаў) узроўні, і гаспадарчым (у сэнсе рынкавасьці гаспадаркі, заможнасьці грамадзтва) у Эўропе. Такі мой ідэал. Мой польскі ідэал. Наколькі мне вядома, беларускі ідэал моцна адрозьніваецца ад майго.

Беларусы не зьяўляюцца магутнай аб'яднанай супольнасьцю, якая ўспрымала б сама сябе ў катэгорыях дыстанцыі да іншых, і цьвёрда рэалізавала б свае інтарэсы – як гэта адбываецца ў Эўропе, ці хаця б Расеі. Беларусы павінны гэта зразумець. Падумаць пра сваю тоеснасьць! Сёньня свабоду й дабрабыт бяруць менавіта з уласнай нацыянальнай тоеснасьці. З эгаізмаў таксама – такія рэаліі! Мы, палякі, увахозім у Эўрапейскі Зьвяз, і мы бачым, што гэта яшчэ й супольнасьць эгаізмаў, гэта барацьба інтарэсаў розных народаў. Гэтыя народы вельмі рашуча змагаюцца за свае інтарэсы – гляньце на немцаў з французамі – і мы таксама гэтак робім. Калі б у Зьвяз увайшлі беларусы, яны таксама мусілі б у гэтую барацьбу ўключыцца... Я ня надта бачу ў сёньняшніх беларусах здольнасьць да барацьбы за ўласныя інтарэсы. Я жадаю ім, каб мае мары пра багатую, заможную й дэмакратычную Беларусь зьдзейсьніліся.

„Дзякуй вам за размову". Аляксандар Навіцкі

***********************************************

# "Дрэнны чалавек ніколі добрага каравая не спячэ", —

так лічыць Наталля Кніга з Касцянёў

Сяргей ЧЫГРЫН

За некалькі гадзін да нашага прыезду Наталля Кніга дастала з печы дзевяць прыгожых караваяў і расклала іх на стале ў невялічкім пакоі. Яшчэ ў сенцах прыемны водар літаральна разрываў насы, і здавалася, што больш смачнага паху, чым ад гэтых пірагоў, мы ніколі ў жыцці не чулі.

Калі мы прайшлі ў пакой і ўбачылі гэтыя прыгожыя выпечаныя хлебныя вырабы, то падумалася: якія ж залатыя рукі ў Наталлі — звычайнай вясковай жанчыны. Жыве яна са сваім мужам Аляксандрам у вёсцы Касцяні Слонімскага раёна. Гаспадар працуе леснікам, а Наталля ўвіхаецца дома. Бо яшчэ хапае сіл, каб трымаць вялікую гаспадарку: і конь ёсць, і кароўку маюць, і парсючка з курачкамі даглядаюць. Дзеці ўжо дарослыя, жывуць у розных месцах Гродзеншчыны. Але вельмі часта яны наведваюць бацькоў. І на калядныя сьвяты зноў усе збяруцца разам. І да іх прыезду Наталля абавязкова напячэ пірагоў і караваяў.

Прысеўшы каля стала з караваямі, гутарку з Наталляй мы пачалі з пытання: як наогул рыхтуецца цеста і выпякаецца такая прыгажосць?

— Цеста я вымешваю каля гадзіны. Бо, калі яго добра не вымесіш, яно не падыдзе. Потым цеста стаўлю ў цёплае месца, каб яно падышло. За гэты час раблю шышкі і палпальваю печку. Шышкі пасля саджаю на падрыхтаваныя булкі і ўсё стаўлю ў печ, — пачала расказваць жанчына...

Каму толькі не пякла караваяў Наталля Кніга: і калгасам на дні ўраджаю, і на розныя выставы і фестывалі, і прыватным асобам, бо людзі просяць спячы каравай і на дзень нараджэння, і на вяселле, і на сьвяты. І многія яе хлебныя вырабы на фестывалях і кірмашах атрымлівалі першыя прызы.

— Дрэнны чалавек ніколі добрага каравая не спячэ, — прызнаецца шчыра Наталля. — У пірагі і каравай трэба ўкладваць душу. І калі рашчыняю цеста, стаўлю яго ў печ, то заўсёды з Богам, Бог і дапамагае мне ў гэтым. У 2003 годзе я спякла 63 каравы. Пякла я каравай і свайму сыну на вяселле. Нікому не даверыла, а пякла сама. Казалі некаторыя вяскоўцы, што так нельга рабіць, але я пяку ад душы і спадзяюся, што мой каравай прыносіць толькі шчасце і смак.

Калі Наталля Кніга пайшла на пенсію, то вырашыла чымсьці заняцца, бо без працы ў вясковай хаце сядзець не змагла. Вось і пачала выпякаць каравы, якія навучылася рабіць самастойна.

Жыццёвы лёс гэтую жанчыну не песціў, бо хапала ў яе жыцці ўсяго. Разам з першым сваім мужам спадарыня Кніга ўсё жыццё працавала на чыгунцы на станцыі Грынкі. А калі муж трыццаць гадоў назад памёр, яна пераехала ў Касцяні і другі раз выйшла замуж. Наогул Наталля Кніга трыццаць сем гадоў адпрацавала рабочай на чыгунцы і аб·гэтым зусім не шкадуе.

А яшчэ Наталля прызналася, што з дзяцінства піша вершы. Аднойчы, калі вучылася ў трэцім класе, яна напісала верш пра свой хутар і лес. Але ў школе настаўнікі сказалі, што дзяўчынка спісала верш з нейкай кнігі. Тая крыўда не пакідае яе і цяпер. Хаця і сёння сяды-тады вясковая жанчына спрабуе пісаць. Найлепш за ўсё ў яе атрымліваюцца прыпеўкі. Гадоў дзесяць таму рэспубліканская газета "Звязда" праводзіла конкурс прыпевак пра нашае жыццё. Адной з пераможцаў была і наша зямлячка. Дзве яе прыпеўкі нават увайшлі ў кнігу "Народ спявае пра сябе", што выйшла ў 1994 годзе ў Мінску. • • •

*Кофту модную пашыла*
*І спаднічку вузкую.*
***Не чапайце маю мову,***
***Мову беларускую.***

**Некалі Наталля** Кніга часта выступала са сваімі **прыпеўкамі** на розных сцэнах. І людзі любілі яе слухаць **не менш,** чым смакаваць выпечаныя ёю каравы.

Цяпер такая мажлівасць надараецца радзей. Але каравы і пірагі пякуцца па-ранейшаму часта. І калі мы пакідалі хату Наталлі і Аляксандра, гаспадары пачаставалі нас караваем і пажадалі ў Новым годзе здароўя і шчасця. Гэтага хочацца пажадаць і ім таксама.

***********************************************

# Праваслаўны і каталіцкі вялікадні ў 2004 годзе супалі

Кар. БЕЛТА

Праваслаўны і каталіцкі вялікадні ў 2004 годзе супалі: хрысціяне ўсяго свету будуць адзначаць гэта вялікае свята ў адзін дзень — 11 красавіка. Гэта звязана, з розніцай у вылічэнні дня веснавога раўнадзенства ў юльянскім і грыгарыянскім календарах, паводле якіх святкуюць усходнія і заходнія хрысціяне.

***********************************************

# Малітва за Беларусь

**Рукой Купалы напісана...**

Пад музейным шклом у Купалавым доме - усе прыжыццёвыя і пазнейшыя выданні Вялікага Песняра. Усе, акрамя самага апошняга - толькі што завершанага. Дзесяць кніг поўнага, 9-томнага акадэмічнага Збору твораў класіка не змясціліся ў вітрыне, выстраіліся "плячо ў плячо" на асобным століку, і да іх, выпраменьваючых мяккае святло, так і карцела дакрануцца рукой. Дакрануцца - праз плынь дзесяцігоддзяў - да Яго рукі, агменю Яго сэрца, што падарылі беларусам, чалавецтву і вечнасці несмяротны і незаменны скарб.

- Пад гэтымі вокладкамі ўпершыню змешчана ўсё вядомае на сёння, што занатаваў пяром ці алоўкам сам Купала, - сказаў, адкрываючы ўрачыстую прэзентацыю, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Сяргей ВЕЧАР. - Тут - канчатковыя варыянты і чарнавыя накіды вершаў, п'ес, публіцыстычных артыкулаў, эпісталярная спадчына, пераклады, дарчыя надпісы, службовыя і асабістыя дакументы. Тут - летапіс яго жыцця, гісторыя імклівага ўзлёту магутнага таленту да класічных вышыняў. І - трагічныя часы, калі Муза паэта змаўкала...

Незвычайнай, знакавай падзеяй у нацыянальнай культуры і духоўным жыцці ўсяго грамадства назваў выданне Поўнага збору знаны навуковец, член-карэспандэнт НАН Беларусі прафесар Міхась МУШЫНСКІ, які ўклаў душу і апантанасць у "дырыжорства" вялікай калектыўнай працай, што доўжылася цягам дзесяці гадоў.

- Гэта шчасце і радасць - быць сярод цудоўных людзей - калег па акадэмічным Інстытуце літаратуры, супрацоўнікаў Купалавага музея, архівістаў, тэкстолагаў і многіх іншых, хто быў захоплены і цалкам аддадзены адказнейшай справе. Хто шчыраваў не па ўказанні зверху, бо гэта быў не дзяржаўны заказ, а па загадзе ўласнага сэрца. Іх любоў да паэта, да Беларусі, якой жыў і дзеля якой тварыў наш Прарок, часам пераадольвала немагчымае. Дакрананне да яго ўнутранага свету, яго велічы натхняла і ўзбагаціла, узняло наша самаўсведамленне ў адстойванні нацыянальнай ідэі, каб Бацькаўшчына заняла свой "пачэсны пасад між народамі"...

- І вось перад намі гэты цуд, гэтае свята, да якога прычашчаецца душа. Поўны, без цэнзарскіх уразанняў, Купала - неацэнны дар нашаму народу, сведчанне творчага патэнцыялу і патрыятычнага духу лепшай часткі сучаснай беларускай інтэлігенцыі. На такіх грунтоўных выданнях цывілізаваны свет ацэньвае інтэлектуальную сталасць нацыі. А ў нас жа ёсць яшчэ і Колас, і Гарэцкі, і выдатнейшы, але ўсё яшчэ малавядомы паэт, празаік і публіцыст Змітрок Бядуля, многа іншых талентаў, што чакаюць свайго часу, каб паўстаць перад чытачом на поўны свой рост. Перакананы: не сілай, не зброяй, а стваральнай любоўю, дасягненнямі ў навуцы і культуры адродзіцца і ўзнімецца ў свеце наша Радзіма!

Бліскучы майстар Купалаўскай сцэны Віктар МАНАЕЎ падзяліўся даўнім уражаннем ад знаёмства з тады яшчэ забароненай п'есай геніяльнага творцы - трагікамедыяй "Тутэйшыя". Тады нават не мог уявіць сабе, што яго запаветная мара сыграць ролю Мікіты Зносака спраўдзіцца з набыццём Беларуссю сваёй дзяржаўнасці. Але і зараз нестарэючы шэдэўр аб самым галоўным, хвалюючым - лёсе шматпакутнай Бацькаўшчыны - не ў міласці маючых уладу. Спектакль у Тэатры імя Купалы спрабавалі адлучыць ("адключыць") ад тых, каму ён прызначаны, каму адрасавана кожнае слова творцы.

Многія выдатныя яго творы, у савецкі час закратаваныя ў спецсховах, былі невядомыя шырокаму чытачу. А зараз вяртаюцца да яго ва ўсёй сваёй красе і чараўнічай сіле. Але... Гартаю 2-ю кнігу 9-га тома Збору і натыкаюся на цікавую звестку: калі ў 1908 годзе выйшаў у свет першы зборнік Купалавай паэзіі "Жалейка", газета "Минское слово" назвала яго творы ні больш ні менш як падпольнымі пракламацыямі, напоўненымі "самой бесшабашной ложью и неизбежными призывами к бунту". Маючыя ўладу і іх паслугачы ва ўсе часы ўкрыжоўваюць слова праўды і мужнасці. Яны баяцца яго і таму пераследуюць, не пускаюць да людзей. Ды яно прабіваецца праз усе засловы і набывае неўміручасць у сэрцах сучаснікаў і новых пакаленняў - як сама зямля, што спарадзіла Прарока.

...Кожны радок, кожны эпізод, кожная драбніца, датычныя да вялікага жыцця, поўняцца глыбокім сэнсам і бязмерна дарагія нам, сённяшнім і заўтрашнім. Ну вось хоць бы гэты - быццам бы звычайны, празаічны дакумент 1921 года, падчас прэзентацыі перададзены Купалаўскаму музею знаным навукоўцам, супрацоўнікам Нацыянальнага архіва Беларусі Віталем СКАЛАБАНАМ. З Наркам-асветы, дзе працаваў паэт, у тагачасны Савет гарадской гаспадаркі Мінска прыйшла заява з просьбай "...не отказать в выдаче сотруднику академич.центра Ивану Луцевичу (Янку Купале) двух сотен кирпича и двух возов глины для починки печи в его квартире по Захарьевской улице д.135, кв.1." Так і ўяўляеш сабе разруху пасля грамадзянскай вайны, прамёрзлы, з разваленай печчу дом (там цяпер - Музей І з'езда РСДРП) - і паэта, які, нягледзячы ні на што, не выпускае пяра з залядзянелых рук. І на паперу кладуцца радкі вершаў і публіцыстычных твораў, якім наканавана стаць класікай і не састарэць, узнімаць дух суайчыннікаў у змаганні за лёс незалежнай і шчаснай Бацькаўшчыны.

Усе, хто браў слова ў той урачысты дзень, - старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы прафесар Вячаслаў РАГОЙША, літаратуразнавец Тэрэза ГОЛУБ, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір ГІЛЕП і іншыя, як і ўсе прысутныя, успрымалі падзею, з нагоды якой сабраліся, як глыбока асабістае і разам з тым маштабнае свята, што павінна стацца агульнадзяржаўным. І сышліся на тым, што выхад акадэмічнага збору варта адзначыць куды больш шырока і галосна, чым у музейных сценах, - чаму б не ў Купалаўскім тэатры, не толькі для вузкага кола? Такое выданне - каштоўнасць для народа, якому зараз, у зломны момант сваёй гісторыі, калі "стаім мы перад будучыняй нашай", можа як ніколі патрэбен Купала з яго поклічным, палымяным словам любові да Беларусі. І гэты Збор - не апошні дар: трэба рупіцца аб новых выданнях і перавыданнях - успамінаў аб Песняру, кнігі вершаў і публіцыстыкі "Жыве Беларусь!", Купалавай энцыклапедыі...

Настрой прасветлены, узрушаны радасці панаваў у Купалавым доме, дзе ў той вечар у выкананні заслужанай артысткі Таццяны МАРХЕЛЬ гучала крынічная народная песня, з якой узяў выток талент генія, а ў выкананні кіраўніка тэатра "Зьніч" Галіны ДЗЯГІЛЕВАЙ і маладых артыстаў Тэатра беларускай драматургіі - творы Прарока, якія бяруць з сабой у жыццёвую дарогу ўжо не адно пакаленне. Стаіўшы дыханне, слухалі ўсе даляцеўшы да нас у запісе голас самога Купалы. І - голас другога незабыўнага песняра - Уладзіміра Мулявіна. Ён спяваў славутую паэтаву "Малітву", і чутно было, як у выдатнага артыста ад усхваляванасці перацінае дыханне:

*Я буду ... маліцца ... і сэрцам, і думамі,*
*Распетаю... буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі з мяцеліцай шумамі*
*Не вылі над роднай зямлёй, нада мной...*

Будзем маліцца і мы, паўтараючы выспеленыя ў трапяткой душы словы - і працаваць дзеля будучыні, да якой вялікі сын беларускай зямлі няўхільна вядзе свой народ.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА** (Нар. Воля)

********************************************************

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар

# ...А іншым не было чаго сказаць?

10-12 снежня мінулага года ў Мінску адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па праблеме "Міжкультурны дыялог у Беларусі: нацыянальна-культурнае і духоўнае развіццё ва ўмовах глабалізацыі". Ініцыятарам канферэнцыі выступіла ЮНЕСКА, а галоўны абавязак па яе правядзенні быў ускладзены на Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. Заслуга ў гэтым як колішняга яго кіраўніка Адама Мальдзіса, так і сучаснага - Любові Уладыкоўскай-Канаплянік.

Дарэчы, па ініцыятыве таго ж ЮНЕСКА ў 2002 годзе ў Мінску ладзіўся сімпозіум "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі" - вельмі блізкі сваёй тэматыкай да згаданай канферэнцыі. Варта парадавацца, што сусветная цывілізацыя, у тым ліку і народы-гіганты, нарэшце зразумелі найвялікшую трагедыю знікнення з аблічча зямлі не толькі малалікіх афрыканскіх, азіяцкіх, паўднёваамерыканскіх ці аўстралійскіх плямёнаў, але і некаторых народаў колькасцю ў некалькі мільёнаў чалавек.

Гэтыя шкодныя для ўсяго чалавецтва працэсы паглынання адных народаў іншымі асабліва інтэнсіўна праходзяць у краінах, палітычныя ўлады якіх не праяўляюць зацікаўленасці ў захаванні іх народамі сваёй культурна-моўнай адметнасці. Прагрэсіўныя арганізацыі свету бяруць на сябе дапамогу такім народам, бо не жадаюць, каб планета Зямля беззваротна губляла сваю культурна-моўную разнастайнасць, а значыцца - прывабнасць і прыгажосць.

Апошнім часам цывілізаваны свет усё больш пільную ўвагу скіроўвае да стану культурнага развіцця Беларусі. Як бы афіцыйныя ўлады ні стараліся пераканаць у адсутнасці ў нас праяў асіміляцыйнага характару ў дачыненні ды тытульнай нацыі, з гэтым мала хто можа пагадзіцца.

Як вядома, у маі 1995 года ўладныя структуры краіны пайшлі на небяспечны эксперымент у галіне моўнай палітыкі. Праз рэферэндум яны ўвялі юрыдычнае дзяржаўнае беларуска-рускае дзвюхмоўе. Такой заганнай практыкі не ведалі і не ведаюць у іншых краінах (за выключэннем каланіяльна-залежных) з адной карэннай, тытульнай нацыяй. Пры дзяржаўным дзвюх- ці шматмоўі, да прыкладу, у Бельгіі альбо Швецарыі, кожны з носьбітаў той ці іншай мовы мае тут сваю этнічную тэрыторыю, чаго нельга сказаць пра Беларусь. Аднак гэта не перашкодзіла яе моцна ўлюбёнаму ў філалогію кіраўніцтву заплюшчыць на гэта вочы. Настойлівыя патрабаванні нацыянальна свядомай грамадскасці спыніць дыскрымінацыю роднай мовы засталіся непачутымі ўладай. Яна, як у горшыя часы паланізацыі і мураўёўскай русіфікацыі, працягвае курс на далейшае паглыбленне культурна-моўнай асіміляцыі свайго народа.

Са сказанага лёгка зразумець, чаму на канферэнцыі моўная праблема была вынесена ў ранг самых актуальных. Многія з выступоўцаў грунтоўна, панавуковаму прааналізавалі прычыны заняпаду сацыяльнай ролі роднага слова карэнных жыхароў краіны, прапанавалі даволі эфектыўныя шляхі гарманізацыі выкарыстання беларускай і рускай моваў у грамадскім жыцці. Дасягнуць гэтага нельга інакш, як шляхам выкарыстання ўласнага і чужога вопыту дзяржаўнага рэгулявання моўных працэсаў.

Ва ўдзельнікаў канферэнцыі было зразумелае жаданне пачуць бачанне вострай праблемы не толькі з вуснаў заклапочаных навукоўцаў, але і самых дзяржаўных дзеячаў. Але, на жаль, прынцыпова важнага ад апошніх не ўдалося пачуць. Зразумела: пры колькаснай перавазе рускамоўных дзяржчыноўнікаў цяжка чакаць карэннай перабудовы палітыкі ў гэтым накірунку.

Цалкам апраўданым было абмеркаванне ролі інтэлігенцыі ва ўзмацненні кансалідацыйных працэсаў беларускай нацыі. Кідаецца ў вочы востры недахоп інтэлігентных людзей, здольных будаваць сваю дзейнасць у адпаведнасці са святымі для нас нацыянальнымі ідэаламі, рашуча адстойваць іх. У выніку мы не ў стане забяспечыць такімі кадрамі многія адказныя ўчасткі грамадскага жыцця, дзе нацыянальны фактар павінен адыгрываць вырашальную ролю.

Вельмі недарэчна, што, да прыкладу, нават беларускамоўныя драматычныя тэатры даводзіцца ўкамплектоўваць кадрамі, не здольнымі дасканала гаварыць па-беларуску. Ніводная вышэйшая ці сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова, за выключэннем беларускамоўнай, не дае спецыялістаў, якія былі б у стане працаваць у рэжыме рэальнага беларуска-рускага дзвюхмоўя. Калі ў бліжэйшыя гады большыня сучасных і новых пакаленняў не стане носьбітам беларускіх культурна-моўных традыцый, нам нічога добрага не абяцае далейшае паглыбленне працэсаў глабалізацыі. Яны аб'ектыўна бязлітасныя да народаў, якія не трымаюцца сваёй спрадвечнай духоўнай спадчыны.

Вялікая шкода грамадству - "уцечка мазгоў". За мяжой нашы таленты аплачваюцца куды лепш, чым дома. Але здаўна суровым пакараннем для сябе лічылі нашы продкі змушанае расстанне з родным домам (сярод іх былі ўдзельнікі паўстання Тадэвуша Касцюшкі, нацыянальна-вызвольных паўстанняў 1830-1831, 1863-1864 гадоў). У наш жа час па-за межамі Бацькаўшчыны апынулася нямала маладых людзей, бацькі якіх часам выдаюць сябе за шчырых прыхільнікаў беларускага Адраджэння.

Шкада, што на канферэнцыі ад сучаснай палітычнай эліты выступіў з дакладам толькі старшыня Камісіі па справах адукацыі, навукі, культуры і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Ігар Катляроў. Магчыма, іншым не было чаго сказаць?

...Канферэнцыя скончылася, але творчая дзейнасць яе ўдзельнікаў не спынілася. Ім належыць выпрацаваць "Асновы стратэгіі нацыянальна-культурнага і духоўнага развіцця Беларусі ва ўмовах глабалізацыі". У гэтых варунках было б пажаданым разгарнуць у дэмакратычнай прэсе сур'ёзную, узважаную гаворку па праблеме выратавання беларускага народа ад негатыўных наступстваў глабалізацыі - незалежнага ад таго, з якога боку яны ўрываюцца ў нашу краіну. Выказаныя ў прэсе каштоўныя прапановы з задавальненнем былі б прыняты ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф.Скарыны, калектыў якога выконвае асноўную ролю ў стварэнні вышэйназванай канцэпцыі. Зараз тут ідзе падрыхтоўка ды выдання матэрыялаў канферэнцыі, у якіх знайшло даволі глыбокае і аб'ектыўнае адлюстраванне сучасная нацыянальная жыцця. Трэба імкнуцца раскатурхаць, будзіць ад летаргічнага сну нашу інтэлігенцыю, якая нарэшце павінна сваім прыкладам паказаць, як трэба шанаваць і прымнажаць духоўныя скарбы Бацькаўшчыны.

*************************************************

## Ад выдаўца...

Дзеля спраўнейшае дзейнасьці выдавецтва, просім перасылаць чэкі-ахвяраваньі на выдавецкі фонд газэты толькі на імя Nikolas Prusky. Дзякуем!

пазбаўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі і некаторых іншых парламентарыяў, якія выступілі за скасаванне дзяржаўнасці Беларусі. Выпадак у парламенцкай практыцы неардынарны, але і выступ дэпутатаў супраць незалежнасці сваёй краіны - зьява унікальная.

Была яшчэ адна надзвычайная падзея: Васіль Быкаў, які вельмі рэдка рэагаваў на чыесьці выступы ў прэсе (а на маёй памяці дык ніколі не рэагаваў), адгукнуўся на інтэрв'ю дэпутата Лукашэнкі вялізнай публікацыяй у "Народнай газеце" (артыкул "Каб захаваць уладу" пазней увайшоў у кнігу Быкава "Крыжовы шлях", стар. 119-127). "Толькі знешні вораг ці ўнутраны здраднік можа ў наш час выступаць супроць права народа на самавызначэнне, на самастойнасць яго існавання", - пісаў Быкаў.

Гэта, між іншым, адказ тым, хто папракае БНФ, што нібыта "прамаргалі" Лукашэнку.

Шушкевіч - Пазьняку: "Вы мне кола выратавальнае кідаеце. А я вам кажу: не трэба!"

Станіслаў Шушкевіч прыйшоў у палітыку пры падтрымцы БНФ - менавіта з дапамогай Народнага Фронту ён быў абраны спачатку народным дэпутатам СССР, потым БССР. Пры падтрымцы дэпутатаў БНФ ён стаў спачатку першым намеснікам старшыні, а затым - і старшынёй Вярхоўнага Савета. Але чым далей - тым больш Шушкевіч адыходзіў ад БНФ, шукаючы згоды з пракамуністычнай большасцю. Магчыма, у адносінах да захавання ўлады ў гэтым была свая логіка: апазіцыя БНФ складала толькі дзесятую частку парламента, і пры любых умовах падтрымлівала б Шушкевіча - пракамуністычная ж большасць магла яго лёгка "зняць". Але надышоў час, калі пазіцыя "кампрамісаў" ды "згоды" пачала шкодзіць не толькі іміджу Шушкевіча, але і інтарэсам дэмакратыі. Найбольш выразны прыклад - выступ супраць прапанаванага ў 1992 годзе рэферэндуму аб датэрміновых выбарах. Калі ж узнікалі крытычныя сітуацыі - Станіслаў Станіслававіч спасылаўся на тое, што ён усяго толькі спікер і выконвае волю Вярхоўнага Савета.

І ўсё ж, крытыкуючы Шушкевіча за непаслядоўнасць, Апазіцыя БНФ у парламенце падтрымлівала яго ў крытычныя моманты. У ліпені 1993 года, калі пракебічаўская парламенцкая большасць (так званая група "Беларусь") распачала працэдуру адстаўкі Шушкевіча - дэпутаты БНФ сарвалі кворум.

Наогул, аналізуючы памылкі Шушкевіча, трэба памятаць пра ягоную ролю ў падпісанні гістарычных Віскулёўскіх пагадненняў - роўна як і аналіз дзеянняў Пазьняка павінен адбывацца з улікам узнятай ім хвалі нацыянальнага Адраджэння і, у выніку, аднаўлення беларускай незалежнасці. Усялякі іншы метад ацэнкі ролі гэтых асоб у гісторыі Беларусі будзе, самае меншае, неаб'ектыўны.

17 верасня Шушкевіч рэзка раскрытыкаваў Кебіча за антыбеларускі выступ, заявіўшы, што "калі Вячаслаў Францавіч лічыць гэта (Віскулі. - С.Н.) сваёй памылкай, дык, верагодна, яму варта было б саступіць сваё месца тым, хто гэтак не лічыць". Тагачасны прэс-сакратар Шушкевіча (а цяпер дэкан журфака) Васіль Вараб'ёў звярнуўся да мяне як да каардынатара парламенцкай Апазіцыі БНФ з просьбай падтрымаць Шушкевіча.

6 кастрычніка ў пакоі 408 будынка Вярхоўнага Савета па вул. К.Маркса адбылася сустрэча Шушкевіча з групай дэпутатаў (ад БНФ - Пазьняк, Голубеў, Трусаў, Холад, Навумчык, ад Партыі народнай згоды - Даўгалёў. Назіральнікам ад групы "Беларусь" быў Бамбіза, які ўсю сустрэчу прасядзеў моўчкі, а праз некалькі тыдняў быў абраны віцэ-спікерам. Прысутнічаў і супрацоўнік аховы старшыні ВС).

У той час Кебіч упарта вёў краіну да прэзідэнцтва. Увосень 1993 года з ідэяй прэзідэнцтва пагадзіўся і Шушкевіч. Прапанова ж апазіцыі была наступная: адстаўка Кебіча, фарміраванне пераходнага кааліцыйнага ўрада, які б гарантаваў умовы для аб'ектыўнасці СМІ падчас выбараў. Затым - прыняцце Закона аб выбарах па мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме і правядзенне парламенцкіх выбараў вясной (напрыклад, у траўні) 1994 года. І толькі новаабраны парламент мог бы прымаць новую Канстытуцыю. Менавіта такі план мы і прапанавалі Шушкевічу.

Але з моманту маёй размовы з Вараб'ёвым нешта адбылося. Як потым стала вядома, Станіслаў Станіслававіч правёў кансультацыі з прадстаўнікамі парламенцкай большасці, з самім Кебічам і - замірыўся (так яму, відаць, здавалася).

Вось фрагменты сустрэчы (спрацаваў журналісцкі рэфлекс - захапіў з сабой дыктафон). Прыводжу, як кажуць, з захаваннем лексікі.

"Пазьняк: - Тая работа, якую робіць Кебіч, - актыўная работа па развале дзяржавы - Рэспублікі Беларусь, па знішчэнні яе суверэнітэту, - яна цалкам падтрымліваецца Вашай пазіцыяй. Вашай пазіцыяй нічоганераблення, безыніцыятыўнасці. Больш таго. Няма ніякай розніцы - ці дзяржава Беларусь пойдзе ў пашчу Расіі хасбулатаўскай, ці яна пойдзе ў пашчу Расіі ельцынаўскай. Усё роўна вынік будзе адзін і той жа. І калі Ельцын расправіцца з камуністамі, - а ён расправіцца, гэта чалавек-танк, ён даказаў гэта не раз, - ён будзе праводзіць тую самую геапалітыку, якую праводзіў усе гэтыя два гады. Войны ў Грузіі, у Таджыкістане, у Прыднястроўі. Яны стварылі гэтую банду, яны пастваралі гэтых баевікоў, яны захлынуліся гэтай жа самай крывёю... Вось у чым справа. Таму Вашая пазіцыя зараз абсалютна неініцыятыўная. Вы не выкарыстоўваеце момант. Таму што заўтра будзе позна. "Хороша ложка к обеду". Вы працягваеце тую самую палітыку, якую намеціў Кебіч па ліквідацыі нашых магчымасцяў у фінансава-крэдытнай сістэме, тое, што Вы зараз падтрымліваеце аб'яднанне грашовых сістэм - гэта поўная ліквідацыя суверэнітэту, гэта зразумела. І ў гэтай сітуацыі, калі Вы не выкарыстаеце зараз - а з кожным днём Вашыя магчымасці падаюць - калі Вы не выкарыстаеце зараз мінімальных магчымасцяў - то 9 лістапада (мяркуемы пачатак чарговай сесіі ВС. - С.Н.) хутчэй за ўсё Вас не будзе. Вас не будзе каму падтрымліваць болей.

Шушкевіч: - Добра, дзякуй, у Вас усё? Значыць, я разумею, што Ваш зварот накіраваны на тое, каб, не дай Бог, я не страціў сваёй пазіцыі, не страціў падтрымкі, і Вы проста звярнуліся да мяне, каб мяне падтрымаць. Я Вам удзячны.

Пазьняк: - Не, не так. Прабачце, што Вы, што Кебіч - для нас адно і тое. І каб былі б гарантыі - вам трэба ісці абодвум. Таму што не можа быць дзяржава заложнікам двух пасрэдных людзей, якія паміж сабою як бараны сталі і талкуцца. Вось што: Вы несяце такую ж самую адказнасць, як Кебіч, за гэта ўсё, і Вы павінны пра гэта ведаць. Поўную адказнасць Вы несяце, і не думайце, што Вы...

Шушкевіч: - Зянон Станіслававіч, Вы зноў будзеце пачынаць некалькі разоў? Я Вас выслухаў...

Пазьняк: - Пра Вас размова не ідзе.

Шушкевіч: - Добра. Значыцца, калі растлумачыць Вашу пазіцыю, Вы мне кола гэтае выратавальнае кідаеце. А я Вам кажу: не трэба!..

Навумчык: - Шаноўны старшыня...

Шушкевіч: - Адну хвілінку! І нічога, акрамя лозунгаў, у вас на сённяшні дзень няма.

Навумчык: - У якой ступені была, выбачайце, падрыхтавана сесія 25 жніўня 91-га года? Акрамя таго, што падрыхтавала Апазіцыя, не было нічога. Але была ж палітычная сітуацыя, якая вымагала пэўных палітычных дзеянняў. Тое ж самае і цяпер, Станіслаў Станіслававіч...

Трусаў: - Вы цудоўна ведаеце: структура Савета міністраў нагадвае ЦК КПБ. Гэтых камітэтаў розных і служб больш, чым міністэрстваў. Калі міністры нават не сядзяць з Кебічам, а сядзяць, як хлопчыкі, ззаду, а тут сядзяць нейкія невядомыя нам людзі. Калі мы да канца года захаваем старую структуру Саўміна - нас нічога добрага не чакае, што б там ні было ў Расіі ці ў Вашынгтоне. Вы паглядзіце, што атрымліваецца, як раздзьмуўся гэты апарат.

Шушкевіч: - Спадар Трусаў, а як яго змяніць?

Трусаў: - Як змяніць? Вельмі проста - пачаць з кіраўніка.

Навумчык: - Выйдзіце з ініцыятывай!

Шушкевіч: - Вас падтрымае Вярхоўны Савет?

Навумчык: - Выйдзіце з ініцыятывай!

Шушкевіч: - Вас падтрымае Вярхоўны Савет?

Навумчык: - Народ падтрымае".

Некаторыя лічаць, што апошні шанц Беларусь згубіла ў кастрычніку 1992 года, калі быў забаронены ініцыяваны БНФ рэферэндум аб датэрміновых выбарах. Магчыма, і так. Але, на маю думку, такі шанц усё яшчэ заставаўся ўвосень 1993-га. І шмат што залежала ад пазіцыі Шушкевіча - які, нагадаю, меў самы высокі рэйтынг у грамадстве. У яго была магчымасць апеляваць да народа праз тэлебачанне і радыё, якога ў той момант ужо былі пазбаўленыя дэпутаты Апазіцыі БНФ. Але Станіслаў Станіслававіч той шанц не скарыстаў. І хутка (тут Пазьняк памыліўся на тры месяцы) сам стаў першай ахвярай палітыкі "кампрамісаў".

"Абсурдныя абвінавачанніне зусімздаровагачалавека"

На пачатку лістапада 1993 года кіраўніцтва Савета міністраў заявіла, што БНФ рыхтуе... "узброеныя правакацыі".

У дзень адкрыцця чарговай сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання ў будынак Дома ўрада былі ўведзеныя падраздзяленні ўнутраных войскаў, а ў двор - бронетранспарцёры.

Аднак на дэпутацкія запыты старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі і міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў заявілі, што ніякай інфармацыяй наконт "правакацый БНФ" не валодаюць. І больш таго - паводле пазнейшых слоў Шыркоўскага, менавіта ў той дзень і з'явілася ідэя стварэння адкрытага ліста, які 23 лістапада ў колькасці 200 асобнікаў і быў раздадзены дэпутатам Вярхоўнага Савета і меў эфект выбуху.

Генералы Шыркоўскі і Ягораў абвінавацілі Кебіча і ягонага бліжэйшага паплечніка - дзяржсакратара Генадзя Данілава - у неканстытуцыйных дзеяннях, а менавіта - у стварэнні непадкантрольных парламенту структур.

Адна справа - калі пра гэта кажуць дэпутаты БНФ, і зусім іншая - калі пра тое заяўляюць генерал-палкоўнікі. Прычым у канфлікце Кебіч-Шушкевіч, які ў лістападзе зноў абвастрыўся, Шыркоўскі і Ягораў занялі бок Шушкевіча. Я далёкі ад ідэалізацыі Ягорава і Шыркоўскага - яны не выказвалі дэмакратам адназначную падтрымку, а балансавалі паміж Шушкевічам і Кебічам. Але іншыя - адназначна былі на баку Кебіча.

14-15 снежня 1993 года ў Вярхоўным Савеце выступіў старшыня антыкарупцыйнай камісіі Аляксандр Лукашэнка. Лукашэнка свядома адвёў увагу насельніцтва (ішла прамая радыётрансляцыя) ад кіраўніцтва ўрада, прад'явіўшы галоўныя абвінавачванні Шушкевічу. Дасталося і дэпутатам Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце - за валоданне "іншамаркамі" - у Заблоцкага была 12-гадовая "Аўдзі", у мяне - 13-гадовая "Міцубісі" (цяпер я з жахам прыгадваю тую "Міцубісі", машыну ўвогуле неблагую, але вельмі ўжо старую, якая рассыпалася па дарозе - а здаралася ж падвозіць і Быкава, і Пазьняка). Мне яшчэ было інкрымінаванае пражыванне ў "прэстыжным раёне" (панельная двухпакаёўка ва "Уруччы-4"). Выступ Лукашэнкі ўяўляў сабой грымучую сумесь праўды, паўпраўды і заведамай хлусні. Спрачацца з ім было тым больш складана, што Лукашэнка пераступаў межы прыстойнасці - чаго мы дазволіць сабе не маглі. Скажам, у адказ на папрок у мой бок дзяцінствам у сям'і сакратара абкама я не мог запытацца ў Лукашэнкі: "Саша, ну а хто твой бацька?" Я дакладна ведаў, што такое пытанне выкліча ў яго слязлівую істэрыку, але... як кажуць, выхаванне не дазваляла... Магчыма - і шкада.

Прыкметна, што дапамагалі Лукашэнку ў падрыхтоўцы дакладу і выступаў журналісты газеты Савета міністраў "Советская Белоруссия". Відавочна, Кебіч разлічваў з дапамогай Лукашэнкі "заваліць" Шушкевіча.

У "маладых ваўкоў", якія аб'ядналіся вакол Лукашэнкі (Ганчар, Сініцын, Булахаў, Лябедзька), былі, верагодна, аналагічныя планы ў дачыненні і да Кебіча, але і сам Лукашэнка, пэўна, уяўляўся ім "часовай" фігурай.

Ва ўсялякім разе, інтарэсам Беларусі ў гэтых раскладах месца не было - Кебіч дамагаўся рублёвай зоны, Лукашэнка - скасавання незалежнасці і аднаўлення СССР.

16 снежня, пасля таго як Лукашэнка ў абразлівых выразах выказаўся супраць Шушкевіча, было вырашана правесці закрытае пасяджэнне Вярхоўнага Савета. І вось тут прагучала тое самае абвінавачванне, якое (а зусім не знакамітая міфічная "скрыня цвікоў") і адыграла пазней ключавую ролю ў палітычным лёсе Шушкевіча.

Лукашэнка працытаваў фрагмент выступу дэпутата Сяргея Антончыка на сесіі ад 8 красавіка 1993 года: "Выклікае трывогу дзейнасць расійскай разведкі, дакладней, агентуры расійскага КДБ ва ўрадавых і дыпламатычных установах Беларусі. Нядаўна амерыканскімі службамі бяспекі была выяўленая і раскрытая дзейнасць двух расійскіх агентаў у Беларускім прадстаўніцтве ААН у Нью-Йорку".

Але замест таго каб абурыцца кіраўніцтвам МЗС, дзе вольна пачуваюць расійскія агенты, ці, у рэшце рэшт, папракнуць Шушкевіча, што ён слаба кантралюе дзейнасць той жа дыпламатычнай службы (хаця гэта не была прамая функцыя спікера), Лукашэнка вылучыў Шушкевічу прэтэнзію, што старшыня Вярхоўнага Савета... не пярэчыў высылцы расійцаў з ЗША. Дзесяць гадоў мінула, а ў мяне і цяпер у вушах сіпаваты крык ад чацвёртага мікрафона: "Вы сдали наших людей, Станислав Станиславович, а ведь это были наши люди, честнейшие люди!" (Расійскія - значыць, "нашыя").

Шушкевіч заявіў, што не збіраецца адказваць на "абсурдныя абвінавачванні не зусім здаровага чалавека". Тут жа да мікрафона выйшаў Віктар Ганчар і прапанаваў разгледзець пытанне аб адстаўцы Шушкевіча. Але - без удзелу самога Шушкевіча, паколькі, на думку Ганчара, спікер страціў маральнае права кіраваць парламентам.

Па горкай іроніі, вечаровае пасяджэнне сапраўды адбывалася без Шушкевіча - ён быў шпіталізаваны з дыягназам "гіпертанічны крыз". Але праўрадавыя дэпутаты падтрымалі Ганчара ды запатрабавалі неадкладна ўключыць у парадак дня пытанне аб адстаўцы. Дэпутатам Апазіцыі БНФ з цяжкасцю ўдалася пераканаць парламенцкую большасць, што рабіць падобнае ў адсутнасць Шушкевіча - амаральна.

29 снежня 1993 года пад кіраўніцтвам першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслава Кузняцова прайшоў Прэзідыум ВС, дзе была спроба стварыць камісію ў справе Шыркоўскага. Адзін з членаў Прэзідыума пакінуў пасяджэнне, і план сарваўся. Не папіўшы крыві генерала, узяліся за паэта - вылучылі пытанне аб адстаўцы Генадзя Бураўкіна з пасады прадстаўніка Беларусі ў ААН. Але па прапанове Ніла Гілевіча пытанне адклалі. Да таго ж была больш блізкая мэта, чым Бураўкін у Нью-Йорку, - дамагчыся ад Шушкевіча падпісання Дамовы аб удзеле Беларусі ў сістэме Калектыўнай бяспекі краін СНД, што фактычна прывязвала Беларусь на гады да маскоўскага Генштаба і расійскага ВПК.

31 снежня 1993 года Станіслаў Шушкевіч усё ж падпісаў Дамову аб калектыўнай бяспецы СНД. Лідэры БНФ склікалі экстраную прэс-канферэнцыю - Пазьняк ацаніў учынак Шушкевіча як "здраду нацыянальным інтарэсам", а Валянцін Голубеў сказаў, што "ўмацаванне сістэмы Калектыўнай бяспекі - гэта фактычнае аднаўленне Варшаўскай дамовы, толькі ў меншай частцы Еўропы і Азіі".

**Візіт Біла Клінтана: падтрымка беларускай дэмакратыі**

15 студзеня 1994 года Мінск наведаў прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. На вуліцах Мінска былі тысячы людзей, якіх ніхто не "арганізоўваў" і якія шчыра віталі лідэра амерыканскага народа.

Падрыхтоўка да візіту распачалася значна раней - яшчэ ўлетку прадстаўнікі амерыканскай амбасады сказалі нам, што Клінтан хацеў бы наведаць Курапаты і спаткацца з прадстаўнікамі апазіцыі.

Між іншым, аўтару гэтых радкоў належыць ідэя выступу Клінтана ў Акадэміі навук - я прапанаваў амбасадару Дэвіду Суорцу не абмяжоўвацца выключна палітыкамі, а сабраць прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі, і найперш - моладзь. У памяці была нядаўняя сустрэча Міхаіла Гарбачова ў актавай зале АН, калі той бэсціў дэмакратаў - мне падалося, што сустрэча Клінтана выглядала б выразным кантрастам выступу Генеральнага сакратара. Былі і больш важкія аргументы - даць маладой беларускай інтэлігенцыі адчуванне ўключанасці ў сусветную супольнасць. Суорц пагадзіўся, Белы дом яго падтрымаў - і сустрэча сапраўды адбылася. Пазней спадар Суорц распавёў, што найбольш уразіла амерыканскі бок: падчас выступу Біла Клінтана палова прысутных (а запрасілі сапраўды пераважна моладзь) - не мелі патрэбы ў навушніках для сінхроннага перакладу. "У зале сапраўды сабралася будучыня Беларусі", - сказаў тады Клінтан. Перакананы, час тых людзей яшчэ надыдзе.

Канешне, не тая памятная мне сустрэча ў АН была галоўнай падзеяй візіту. Біл Клінтан правёў перамовы і з Шушкевічам, і з Кебічам. Ва ўрадавай рэзідэнцыі на Захарава адбылося спатканне са старшынёй Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянонам Пазьняком, прэм'ер-міністрам Ценявога кабінета БНФ Уладзімірам Заблоцкім (прысутнічалі і лідэры дэмакратычных партый, у тым ліку і Аляксандр Дабравольскі). У той дзень Клінтан сустракаўся з Пазьняком двойчы: нягледзячы на пратэсты ўрада - было нават заяўлена, што беларускі бок не гарантуе прэзідэнту бяспеку (!) - Клінтан Курапаты наведаў. Пазьняк падрабязна распавёў прэзідэнту пра трагедыю, што адбылася ў Курапатах, а на пытанне, чаму гэтае святое месца не ўшанаванае, адказаў: "Таму што сёння пры ўладзе духоўныя нашчадкі тых, хто расстрэльваў тут у 30-я гады".

Клінтан адкрыў мемарыяльны знак з надпісам "Ад народа Злучаных Штатаў народу Беларусі - дзеля памяці". Пазней гэты знак будзе шматразова зняважаны. Апошні раз - у студзені 2004 года. Натуральна ж, "невядомымі асобамі".

Для мяне, аднак, бясспрэчна, што адно толькі слова Лукашэнкі міністру ўнутраных спраў спыніла б вандалізм аднойчы і назаўсёды. Міліцыя ўсё ж здольная вылавіць тых, каго жадае знайсці (напрыклад, аўтараў надпісаў "Жыве Беларусь!"). Мяркую, аднак, што ў гэтай абыякавасці не толькі ідэалагічныя прычыны - непрыняцце дэмакратычных каштоўнасцяў, якія выспавядае амерыканскі народ, але найперш - знявага гістарычнай памяці ўласнага народа, але і элемент асабістай крыўды: у студзені 1994 года ні на адну сустрэчу з

Клінтанам ні Лукашэнка, ні ягоныя паплечнікі амерыканскім бокам запрошаныя не былі.

Беспрэцэдэнтны для кароткага візіту амерыканскага прэзідэнта выпадак - сустрэча з лідэрам апазіцыі двойчы на дзень - красамоўна сведчыў, якія сілы падтрымлівае Амерыка. Масква, аднак, мела іншыя планы.

Шлях да дыктатуры

15 студзеня 1994 года былыя кіраўнікі кампартыі Літвы Ермалавічус і Буракявічус былі дэпартаваныя ў Літву. 19 студзеня некаторыя дэпутаты палічылі акцыю незаконнай і запатрабавалі правесці закрытае пасяджэнне Вярхоўнага Савета.

Паводле міжнародных дамоў, Беларусь абавязана была выдаць асоб, супраць якіх была ўзбуджана крымінальная справа, - і гэта пацвердзіў на сесіі міністр замежных справ П.Краўчанка. Але - пасля выканання ўсіх працэдур. Праблема была ў тым, што да таго часу ў беларускім заканадаўстве не былі адпрацаваныя тыя самыя працэдуры. Зрэшты, галоўны элемент у падобнага кшталту выпадках - гэта дазвол пракурора (у некаторых краінах - суддзі). Дазвол Генеральнага пракурора Васіля Шаладонава на экстрадыцыю Буракявічуса і Ермалавічуса існаваў.

Шаладонаву, аднак, дэпутаты "даравалі". Увесь гнеў быў абрынуты на Ягорава і Шыркоўскага.

Між іншым, гэта быў не першы выпадак выдачы Літве асоб, якіх абвінавачвалі ў злачынстве, - але ранейшыя не мелі рэзанансу. Летам 1993 года расійскія міліцыянты з аўтаматамі захапілі на тэрыторыі Віцебскай вобласці двух беларускіх бізнесоўцаў і тыдзень пратрымалі іх у ізалятары ў Расіі, нават не праінфармаваўшы беларускі бок. Пра гэта гаварылася на сесіі ВС - але большасць дэпутатаў ніяк не зрэагавала на гвалт да сваіх жа суграмадзян: у іх свядомасці Беларусь і Расія ўсё яшчэ заставаліся адзінай дзяржавай са сталіцай, зразумела, у Маскве.

Зрэшты, мяркую, і лёсы літоўскіх камуністаў іх цікавілі не вельмі. Галоўным было іншае: з'явілася нагода расправіцца з тымі, хто, на думку кіраўніцтва СМ, мог перашкодзіць канчаткова замацаваць уладу.

На сесіі Апазіцыя БНФ абараняла Шыркоўскага і Ягорава (унікальны выпадак - дэмакраты абаранялі генерала КДБ). Шушкевіч - маўчаў. Рашэннем парламенцкай большасці Ягораў і Шыркоўскі былі адпраўленыя ў адстаўку; у выніку Шушкевіч страціў падтрымку ў сілавых структурах.

Зрэшты, некаторым здавалася, што і ў такой сітуацыі ў Шушкевіча застаецца значна больш важкая падтрымка - прэзідэнт Расіі. Дарадца Шушкевіча Іван Сцяпура неаднаразова мне казаў, што ў самы крытычны момант Ельцын патэлефануе Кебічу, загадае - "Не чапаць!" - і ўсё абыдзецца. Не сумняваюся, што калі б патэлефанаваў - так і было б. Але - не патэлефанаваў.

26 студзеня Шушкевіча ад-правілі ў адстаўку. Дэпутаты апазіцыі БНФ, як і ў ліпені 1993-га, зноў блакіравалі галасаванне, але супраць Шушкевіча выступілі ўжо і "цэнтрысты" на чале з Карпенкам ды Ганчаром, і нашых галасоў проста не хапіла.

Памятаю, што ў момант, калі ішоў падлік бюлетэняў, перадалі сумную вестку з Масквы пра смерць Алеся Адамовіча.

Шушкевіча знялі "за непрыняцце мер па барацьбе з карупцыяй, адсутнасць кантролю за дзейнасцю праваахоўных органаў і прааяву асабістай нясціплацсці". Старшынёй Вярхоўнага Савета быў абраны Мечаслаў Грыб - былы кіраўнік Камісіі ВС па справах абароны і барацьбы са злачыннасцю. Абсурднасць сітуацыі была ў тым, што ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Шушкевіч мог кантраляваць праваахоўныя органы менавіта і толькі праз Камісію Грыба.

"Скончылася блытаная кар'ера блытанага палітыка", - трыумфальна заявіў на прэс-канферэнцыі пасля адстаўкі Шушкевіча Віктар Ганчар.

Насамрэч - скончылася беларуская дэмакратыя. У сакавіку апазіцыя БНФ адмовілася галасаваць за Канстытуцыю - папярэдзіўшы, што ўвядзенне прэзідэнцтва непазбежна прывядзе да дыктатуры. Але Канстытуцыя была прынятая з грубымі парушэннямі Рэгламента Вярхоўнага Савета. Шлях да дыктатуры быў адчынены.

**Разуменне са спазненнем**

15 студзеня 1994 года ў "Народнай газеце" - тагачасным выданні Вярхоўнага Савета - быў змешчаны артыкул Зянона Пазьняка "О русском империализме и его опасности". Артыкул друкаваўся па-расійску, што было неўласціва Пазьняку - бо пісаўся для газеты "Советская Белоруссия". Рэдактар "СБ" Ігар Асінскі адмовіўся друкаваць артыкул - затое змясціў на старонках сваёй газеты гнеўную водпаведзь аўтару.

Галоўнаму рэдактару "Народной газеты" Іосіфу Сярэдзічу сапраўды спатрэбілася вывяць журналісцкую ды і проста чалавечую мужнасць - у тых выразах, у якіх Пазьняк напісаў пра ўсходняга суседа, пра Расію, на працягу апошніх дзесяцігоддзяў, здаецца, не пісаў ніхто.

І наўрад ці ў гісторыі беларускай публіцыстыкі знойдзецца яшчэ адзін артыкул, які б выклікаў такую колькасць рэзка негатыўных ацэнак. Парадокс, аднак, у тым, што сёння калі не ўсе, дык абсалютная большасць высноў таго артыкула ўспрымаюцца як набор аксіёмаў - на вялікі жаль, актуальных, як і кожная аксіёма.

Я не збіраюся аналізаваць гэты ўжо хрэстаматыйны артыкул - яго можна пачытаць у зборніку "Беларуская думка ХХ стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура" (склад. Юрый Гарбінскі. Варшава, Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук, 1998), куды ён уключаны нароўні з працамі М.Багдановіча, А.Луцкевіча, Ю.Хадыкі, У.Конана.

Але можна меркаваць, што калі б асноўныя тэзы яшчэ тады, у студзені 1994-га, былі прааналізаваныя і асэнсаваныя - дэмакратычныя сілы пазбавіліся б ілюзій адносна ўплыву ўсходняга суседа на падзеі ў Беларусі. Прыгадаем хаця б, якую ролю адыграў "маскоўскі дэсант" Чарнамырдзіна-Селязнёва ў лістападзе 1996 года, калі быў правалены зусім рэальны імпічмент Лукашэнку. Ці ілюзіі на падтрымку Масквы на выбарах 2001 года. Прыклады можна доўжыць аж да сёння.

Тое, што магло быць усвядомлена яшчэ дзесяць гадоў таму, усё больш каму робіцца відавочным цяпер. Страчаных гадоў, аднак, шкада.

Прага.

**************************************************

Хрыстос ПУРГУРЫДЭС:

# "Да тых, хто маўчыць, свабода сама па сабе не прыходзіць..."

**Еўропа падтрымала жорсткую рэзалюцыю па зніклым у Беларусі**

Юрыдычны камітэт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) аднагалосна прыняў праект справаздачы "Зніклыя людзі ў Беларусі", падрыхтаваны летась спецдакладчыкам ПАСЕ Хрыстосам Пургурыдэсам. Сама справаздача будзе цяпер прадстаўлена на вясеннім сесіі ПАСЕ ў красавіку гэтага года. Падчас пасяджэння ў Страсбургу таксама ўхвалена прапанова не пускаць дэпутатаў беларускага Нацыянальнага Сходу на пасяджэнні ПАСЕ, прычым не толькі ў афіцыйным, але і ў неафіцыйным статусе.

Нагадаем, што дэпутат з Кіпра Хрыстос Пургурыдэс двойчы наведваў Беларусь, сустракаўся са сваякамі зніклых і з афіцыйнымі асобамі. Потым ён падрыхтаваў дзве справаздачы - пра ўціск на сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі і пра зніклых палітыкаў і журналіста - Юрыя Захаранку, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Зміцера Завадскага. У праекце справаздачы Х. Пургурыдэса прыводзіўся змест яго гутарак з генеральным пракурорам Беларусі Віктарам Шэйманам, міністрамі Юрыем Сіваковым і Уладзімірам Навумавым, намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімірам Канаплёвым, іншымі адказнымі асабамі, зроблены шматлікія спасылкі на дакумент, які быў напісаны ад рукі генералам Лапацікам, на заявы, зробленыя былым кіраўніком турмы Алкаевым, на загад об прэвентыўным затрыманні палкоўніка Паўлічэнкі і г.д.

Сп. Пургурыдэс прыйшоў у сваёй справаздачы да высновы, што адказнымі беларускімі ўладамі не было праведзена незалежнае даследаванне знікненняў апазіцыянераў. Наадварот, перамовы, якія ён правёў у Мінску, прымусілі яго лічыць, што на вышэйшым дзяржаўным узроўні схавалі сапраўдную падаплёку знікненняў. Спецдакладчык ПАСЕ лічыць, што вышэйшыя дзяржаўныя чыны могуць быць самі замешаны ў гэтых знікненнях. Х.Пургурыдэс звяртаўся да Савета Еўропы з заклікам дамагчыся ад беларускіх улад незалежнага даследавання вышэйзгаданых знікненняў, а таксама патрабаваў адстаўкі генпракурора Беларусі Віктара Шэймана.

І вось нарэшце папярэдні мемарандум "Зніклыя асобы ў Беларусі" стаў канчатковай справаздачай і афіцыйным дакументам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

На страсбургскім пасяджэнні юрыдычнага камітэта ПАСЕ прысутнічаў і намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яраслаў Раманчук, які прадстаўляў там народную кааліцыю "5+". Сп. Раманчук лічыць вельмі важным рашэнне юрыдычнага камітэта, а таксама мяркуе, што "ўвага Савета Еўропы да Беларусі будзе ўсё больш павялічвацца", і адзначае, што ў прынятым мемарандуме даецца "рэкамендацыя Савету міністраў Савета Еўропы разгледзець санкцыі супраць Беларусі".

У інтэрв'ю БелаПАН Хрыстос Пургурыдэс адзначыў, што ўхваленне даклада ў камітэце стала "зразумелым і гучным пасланнем беларускім уладам". Паводле яго слоў, падчас знаходжання ў Мінску ён пастаянна адчуваў прысутнасць беларускіх спецслужбаў. "Беларускі народ заслугоўвае лепшага, але ўсё ў руках самога народа. Да тых, хто маўчыць, свабода сама па сабе не прыходзіць", - заявіў парламентарый.

Дарэчы, цікавую прапанову падчас пасяджэння ў Страсбургу зрабіў былы прэзідэнт Албаніі Салі Берыша. Ён прапанаваў увесці забарону на выдачу віз для А.Лукашэнкі і яго акружэння. Але гэтая прапанова не была прынята. Пакуль...

У выніковым мемарандуме юрыдычнага камітэта ПАСЕ прапануецца замарозіць усе кантакты з Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, у тым ліку нефармальныя, калі тая не створыць камісію па расследаванні выпадкаў знікнення людзей і не зробіць крокаў па адхіленні ад пасады чыноўнікаў, якія падазраюцца ў дачыненні да гэтых фактаў.

Як паведамляюць у прэс-службе АГП, у Страсбургу таксама адбыліся сустрэчы прадстаўніка "5+" Я. Раманчука са старшынямі групы сацыялістаў Тэры Дэвісам і групы еўрапейскай народнай партыі Рэнэ ван дэр Ліндэнам. Апошні адзначыў: "Добра, што вы працуеце ў кааліцыі, - гэта вельмі важны сігнал для Еўропы".

Алесь СІЛІЧ. /Н. В./

**************************************************

# Беларускі камплект моваў

«У вёсцы жывучы, беларус усё «якае»: «як тое, як гэта...», а ў горад перабраўшыся, «какаць» пачынае» – напісаў у сваёй кніжачцы ўнук Уладзіміра Содаля. Так яно найчасцей і здараецца. Але не заўсёды! Не ўсе тыя, што памянялі вясковую прастору на каменны гарадскі лабірынт, саромеюцца і адракаюцца сваіх каранёў. Ёсць тыя, што «якаюць», і робяць гэта свядома. Што ў нашым грамадстве адчувае той, хто свядома і прынцыпова ў паўсядзённым жыцці карыстаецца беларускай мовай? Менавіта гэта я маю на мэце праілюстраваць матэрыялам.

***

Многае залежыць ад таго, якую рэакцыю выклікае твая беларускамоўнасць. Напрыклад, зараз яна не ўспрымаецца так, як гадоў 20 назад. Тады сярод звычайнага люду загаварыць на ўзорнай літаратурнай мове не толькі ў абласным, а і ў раённым цэнтры значыла атрымаць адзіную характарыстыку – «калгаснік». Сёння ты – «інтэлегент», магчыма, «апазіцыянер». «Калі я загаварыў у вагоне па-беларуску, жанчына, што сядзела насупраць, адразу спытала «Вы, пэўна, філосаф?» – згадвае Уладзімер Арлоў. Зараз беларуская мова асацыіруецца з інтэлектуальнай працай яе гаспадара. Таму і рэакцыя найчасцей добразычлівая. Што казаць пра бібліятэкі, калі ў звычайнай краме бывае на «Дзякуй» адкажуць «Калі ласка». Тых жа, што ў адказ прынцыпова падкрэсліваюць сваю небеларускасць, застаецца пашкадаваць. Не варта забываць, што само грамадства і яго палітыка пазбавіла гэтых слабых людзей самадастатковасці, навязаўшы ідэю непаўнавартаснасці роднай мовы. Літаральна сёння пачула ад старога вахцёра: «Гаварыць на вашай беларускай мове, значыць усё жыццё пражыць у балоце. Трэба вам, дзяўчынка, на рускай гаварыць і англійскі учыць». Звычайна, я імкнуся аргументавана пераканаць чалавека. Некаторыя мае знаёмыя адказваюцца падтрымліваць размову з такімі людзьмі (і няхай сабе) «суразмоўца» разумее гэта як сваю інтэлектуальную перамогу, якая натхняе і ўзносіць яго), усё больш маўчаць. Некаторыя ж увогуле абмяжоўваюць сябе кантактам выключна з аднадумцамі. Іншыя шчырыя беларусы, наадварот, радуюцца магчымасці пагаварыць з такімі субяседнікамі. « Для мяне сустрэць беларуса, што не ведае роднай мовы, і калі ў дадатак да ўсяго гэта мой выкладчык, - свята! Я магу ўдосталь пасмяяцца з яго, загнуўшы нешта кшталту «З-за браку мажлівасці...» або з ангельскай на беларускую тэкст перакласці. Няхай адчуюць, як дрэнна ўсё ж не ведаць беларускай мовы. Папросту, я ў сваё задавальненне загружаю такіх людзей. Заўсёды цікава назіраць, як яны, абсалютна не разумеючы, бывае згаджаюцца са мною. Гэта весела, але псіхалагічна і складана».

Складана размаўляць па-беларуску з цікавым і разумным чалавекам, што ведае мову і бывае дасканала валодае ёй, але не размаўляе. З прычыны таго, што думае на іншай, на расейскай. Размаўляць жа на беларускай для яго – адчуваць унутраны дыскамфорт і штучнасць. Але, трапляючы за мяжу, каб нас зразумелі, мы мусім размаўляць на замежнай, думаючы на роднай. Спачатку гэта канешне цяжка. Але, калі настроішся і прывыкнеш, лягчэй. Шлях да вырашэння гэтай праблемы ляжыць праз уласныя высілкі. Было б жаданне.

Псіхалагічна цяжка вытрымліваць чысціню мовы і ў зносінах з роднымі, якія гавораць на трасянцы. Ты імкнешся да таго, каб быць адкрытым. Але падсвядомасць не заўсёды, з-за наяўнасці моўнага бар'ера, дазваляе табе гэта. Таму, здараецца, са свайго боку ты адчуваеш, што шчыры не да канца. Складана па-беларуску размаўляць і з тым, хто раней цябе ведаў як «звычайнага» беларуса. Падсвядомасць настройвае цябе на ўчарашні стыль і мову зносін, свядомасць кантралюе цябе сённяшняга і не пускае за межы вобраза.

***

Паводле карыстання мовай як сродкам зносінаў сёння наша грамадства можна падзяліць на некалькі груп. Актыўным носьбітам літаратурнай беларускай мовы з'яўляецца інтэлігенцыя (большая частка якой якраз і ёсць «сена на асфальце»), апазіцыянеры, моладзь, што заспела часы апошняга Адраджэння. Пасіўным - тыя ж, вышэй пералічаныя, сацыяльныя групы, але што ўжо карыстаюцца мовай у залежнасці ад сітуацыі. На трасянцы, у якой пераважае беларуская, гавораць вясковыя жыхары. Трасянкай, дзе больш расейскай, карыстаюцца вяскоўцы, што ўжо гараджане. Некаторыя называюць гарадскую трасянку «дземянцееўкай». «А ўсё начальства, малоцячы, як цяпер кажуць, на дземянцееўцы, думала, што гаворыць па-расійску» (Рыгор Барадулін).

Апошняй, самай нешматлікай (выкладчыкі і этніч-

ная расейская інтэліґенцыя) ёсць група тых, што выдатна размаўляюць па-расейску. Усяго ж пяць груп. Наша грамадства размаўляе на розных мовах. А што не мова, то свая філасофія, таму кожная група па-свойму адчувае гэты свет і сябе ў ім. Дык ці не будзе гэта адной з прычынаў нашага такога працяглага і стабільнага неразумення адно аднаго?...

А што ў нашым грамадстве адчувае той, хто свядома і прынцыпова ў паўсядзённым жыцці не карыстаецца беларускай мовай?

*Алеся Матусевіч*

---

# У Акадэміі навук агульны лёс з беларускім народам

**Анатоль МЯСНІКОЎ** (Звязда)

**Беларусь адзначыла слаўны юбілей — 75-годдзе з дня заснавання Нацыянальнай Акадэміі навук**

75 гадоў назад, у такія ж марозныя калядныя дні, на нашай Бацькаўшчыне з'явіўся адзіны навукова-даследчы цэнтр — Беларуская Акадэмія навук. Базавай асновай гэтай установы стаў Інстытут беларускай культуры, створаны напачатку 20-х гадоў.

Гэта быў час сапраўднага росквіту беларускай нацыянальнай навукі, культуры і самасвядомасці. Так-так, менавіта самасвядомасці, паколькі наша старонка зусім нядаўна вызваліўшыся ад шматгадовай акупацыі то нямецкай, то польскай інтэрвенцыі, уздыхнула ўрэшце свабодна, на поўныя грудзі — сваім, беларускім духам. Новая, сапраўдная беларуская культура, пайшла, што называецца, у народ, пачала рэальна авалодваць душамі, сэрцамі, памкненнямі і пачуццямі сваіх лепшых сыноў.

Нашы навукоўцы займалі ў тых шарэнгах самы перадавы і найлепшы фланг...

26 снежня 1928 года Саўнаркам БССР зацвердзіў састаў сапраўдных членаў будучай Беларускай Акадэміі навук. Сярод першых свяцілаў нашай нацыянальнай навукі — акадэмікаў былі глебазнаўца Я. Афанасьеў і геолаг М. Бліадуха, эканаміст-географ Г. Гарэцкі і аграхімік М. Малюшыцкі, эканаміст І. Пятровіч і філосаф С. Вальфсон, філолагі І. Замоцін, С. Некрашэвіч, Б. Тарашкевіч, гісторыкі У. Ігнатоўскі, С. Матулайціс, У. Пічэта, народныя паэты Беларусі Янка Купала і Якуб Колас, вядомы грамадскі і палітычны дзеяч З. Жылуновіч (Цішка Гартны)...

На жаль, час не паспрыяў іх дзейнасці, стanаўленню і развіццю навуковых знаходак, распрацовак і даследаванняў гэтых і многіх іншых вялікіх людзей таго часу. Ужо ў трыццатыя гады ХХ-га стагоддзя большасць з іх былі абвінавачаны сталінскім рэжымам у нацыянал-дэмакратызме, «шкодніцтве» і г. д. і знішчаны фізічна...

Беларусь спаўна аддала даніну павагі і шанавання ім — тым першым, самым праведным першапраходцам на ніве беларускай нацыянальнай навукі.

— У Акадэміі навук агульны лёс з беларускім народам, — сказаў, выступаючы на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 75-годдзю Нацыянальнай Акадэміі навук, яе прэзідэнт Міхаіл Мясніковіч. — Яна заўсёды займала пазіцыю вядучага навуковага цэнтра, які ўплываe на эканамічнае, тэхналагічнае, сацыяльнае і культурнае развіццё дзяржавы. Навуковая дзейнасць не спынялася нават у ваенны час... Сёння Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі — гэта сем аддзяленняў навук і каля 150 профільных падраздзяленняў. Вучоныя вядуць фундаментальныя і прыкладныя даследаванні па найважнейшых накірунках прыродазнаўчых, тэхнічных, гуманітарных, сацыяльных навук і мастацтваў. Гэтай штодзённай шчырай і карпатлівай працай заняты звыш 16 тысяч чалавек. Сярод іх 589 дактароў навук, 2171 кандыдат навук, з якіх 94 — акадэмікі і 101 — член-карэспандэнт.

Як зазначыў М. Мясніковіч, пра беларускую нацыянальную навуку ведаюць за мяжой, яе паважаюць і цэняць за ўнесены беларускімі вучонымі ўклад у развіццё тэарэтычнай і эксперыментальнай фізікі, мовазнаўства, матэматыкі, спектраскапіі і люмінесцэнцыі, лазернай фізікі, неарганічнай хіміі, глебазнаўства, неразбуральнага кантролю, радыёбіялогіі...

Шмат цёплых і задушэўных слоў сказалі ўчора навукоўцам Акадэміі навук госці ўрачыстага пасяджэння. Сярод іх — міністры, рэктары ВНУ... Ва ўрачыстым сходзе прынялі ўдзел дэлегацыі акадэмій навук Расіі, Украіны, Польшчы, Аўстрыі, Літвы, Латвіі, прадстаўнікі замежных пасольстваў і місій, акрэдытаваных у нашай дзяржаве.

А вечарам у канцэртнай зале «Мінск» урачыстае пасяджэнне было прадоўжана. Адбыўся і вялікі святочны канцэрт.

---

# Ці зменіцца закон аб мовах вясною?

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ (звязда)**

Праект змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» можа быць унесены ў парламент падчас веснавой сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, нават калі ён і не будзе ўключаны ў План падрыхтоўкі законапраектаў на 2004 год. Аб гэтым заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» намеснік старшыні Камісіі ПП НС па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Уладзімір Здановіч.

Гэта стала магчымым пасля рашэння Канстытуцыйнага суда «Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферы абслугоўвання, абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання». Сам жа Канстытуцыйны суд разглядаў запыт грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны».

У сваім рашэнні Канстытуцыйны суд адзначыў, што, згодна з артыкулам 13 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», на транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская або руская мова. Аднак пры фармальна-юрыдычным раўнапраўі дзяржаўных моў на практыцы баланс іх ужывання не захоўваецца, што выклікае справядлівую заклапочанасць у грамадскага аб'яднання. Апошняе, у прыватнасці, прыводзіць наступныя прыклады парушэння фактычнай роўнасці дзяржаўных моў. Па-першае, на чыгуначных вакзалах, станцыях, электрапаяздах аб'явы для пасажыраў робяцца пераважна на рускай мове, бланкі праязных дакументаў для праезду на чыгуначным транспарце, рэкламныя буклеты, афіцыйныя канверты Беларускай чыгункі таксама афармляюцца на рускай мове. Па-другое, выдача грамадзянам страхавых пасведчанняў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання і банкаўскіх пластыкавых картах ажыццяўляецца толькі на рускай мове, што абгрунтоўваецца пэўнымі тэхнічнымі прычынамі. Па-трэцяе, дзяржаўны стандарт СТБ 1100-98 «Прадукты харчовыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні» дае вытворцу (прадаўцу) прадукцыі магчымасць даводзіць да спажыўцоў інфармацыю на беларускай і (або) рускай мове. Тым не менш, на практыцы тавары маркіруюцца таксама пераважна на рускай мове. Ёсць і іншыя прыклады пераважнага ўжывання рускай мовы.

У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд прапанаваў «разгледзець пытанне аб унясенні ў Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і іншыя акты заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, якія здольны забяспечыць фактычную роўнасць дзяржаўных моў». Здаецца, што без змяненняў заканадаўства і сапраўды не абысціся. Напрыклад, Канстытуцыйны суд у пісьме Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце Міністраў адзначаў, што інфармацыя для спажыўцоў, якая ўтрымліваецца ў стандарце СТБ 1100-98 у мэтах гарантавання роўнага дзяржаўнага статуса рускай і беларускай моў і забеспячэння правоў спажыўцоў, павінна даводзіцца на беларускай і рускай мовах. У пісьме ў адказ Камітэт выказвае падтрымку ў стварэнні роўных магчымасцяў для грамадзян у пытаннях выкарыстання беларускай і рускай моў. Аднак тут жа агаворвае, што палажэнні Законаў «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і «Аб абароне правоў спажыўцоў» не абавязваюць вытворцу або прадаўца наносіць маркіроўку тавару на дзвюх мовах адначасова, таксама прапануецца выбар мовы маркіроўкі і дзяржаўнымі стандартамі. Таму ўвядзенне для вытворцаў або прадаўцоў прадукцыі абмежаванняў, якія не прадугледжаны заканадаўствам, выходзіць за рамкі кампетэнцыі Дзяржстандарта. У выніку ж большая частка прадукцыі маркіруецца менавіта на рускай мове.

Магчыма, пэўная частка пытанняў будзе знята пасля разгляду ў беларускім парламенце змяненняў у законапраект «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

Ва ўсякім разе, дэпутат ніжняй палаты парламента Уладзімір ЗДАНОВІЧ гэтага не выключыў:

— Чаму не? Рашэнне Канстытуцыйнага суда ў прынцыпе з'яўляецца законам для нашай дзейнасці. Калі ёсць нормы, што супярэчаць Канстытуцыі, то мы павінны ўнесці адпаведныя змяненні ў законы.

— Якія новыя палажэнні існуюць у законапраекце, што распрацоўваецца цяпер?

— Нейкіх істотных змяненняў няма. Але нам паступіла даволі значная колькасць прапаноў. Асобныя з іх дастаткова дзіўныя. Напрыклад, змяніць ужыванне імя «Здановіч Уладзімір Мацвеевіч» у пашпарце на «Уладзімір Здановіч, сын Мацвея». Астатнія, што датычацца найменняў дзяржаўных арганізацый, установаў на беларускай мове, у прынцыпе ўжо існуюць, але мы замацуем гэта заканадаўча.

Прапануецца таксама судавытворчасць весці не на рускай або беларускай мове, а на рускай і (або) беларускай мовах. Таксама прапануецца, каб дакументацыя дубліравалася на рускай і беларускай мовах.

— А што датычыцца прыняцця законаў на беларускай і рускай мовах адначасова?

— Я сам асабіста прапаноўваў варыянт, каб законапраекты ўносіліся і разглядаліся ў Палаце прадстаўнікоў на рускай і беларускай мовах.

Бо затым адбываецца іх публікацыя ў сродках масавай інфармацыі, у прыватнасці ў газеце «Звязда», на беларускай мове. Калі ж закон прыняты на рускай мове, а апублікаваны на беларускай, то пераклад не будзе афіцыйным. Аднак большасць дэпутатаў не пагадзіліся з гэтым варыянтам.

— У якой ступені падрыхтаванасці знаходзіцца цяпер дакумент?

— Пакуль што ў стадыі прапрацоўкі. Ён не ўзгоднены з органамі дзяржкіравання, таму ў лепшым выпадку яго разгляду можна чакаць недзе напрыканцы веснавой сесіі.

— Ці ўнесены закон у План падрыхтоўкі законапраектаў на 2004 год?

— Пакуль афіцыйна ён не ўнесены. Аднак, паколькі прыйшло рашэнне Канстытуцыйнага суда, мы можам унесці яго на разгляд у Авальную залу, мінуючы гэты план.

---

# А ўсё пачалося ў Рыме

Вось і адбылася прэзентацыя кнігі прафесара Захара Шыбекі "Нарыс гісторыі Беларусі 1795-2002".

Ва ўтульнай атмасферы ў Гістарычнай майстэрні ў Мінску ў двух пакойчыках сабралося больш за сотню неабыякавых людзей. Бо гэта першая такога кшталту кніга. Упершыню ў нашай гістарыяграфіі з'явіўся "несавецкі падручнік" - ні па часе, ні па змесце. Ды яшчэ і час, які разглядае аўтар! Спадзяюся, кожны пагодзіцца, што разгледжаны аўтарам перыяд, асабліва ХХ стагоддзе, - самы цяжкі для вывучэння. Ён звышпалітызаваны, ідэалагізаваны, падцэнзурны.

Але Захар Шыбека ўдала пераадолеў усе цяжкасці і са сваім калегам Генадзем Сагановічам, аўтарам "Нарыса гісторыі Беларусі са старажытнасці да 1795 года", ажыццявіў ідэю праекта, што ўзнікла ў Рыме.

Так-так, менавіта ў Рыме. Як распавёў прафесар Адам Мальдзіс, 13 год таму ў Вечным горадзе адбылася сустрэча гісторыкаў Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Тады і было вырашана выдаць чатыры гісторыі (на чатырох мовах удзельнікаў сустрэчы). А асноўная мэта гэтага - дасягнуць адсутнасці супярэчнасцяў і супрацьлеглых меркаванняў аб адных і тых жа падзеях паміж дзяржавамі.

Былі створаны рэдакцыйныя калегіі, вызначаны аўтары. З боку Беларусі Адам Мальдзіс прапанаваў Генадзя Сагановіча і Захара Шыбеку - не памыліўся.

Першы варыянт тэксту быў падрыхтаваны ўжо ў 1994 годзе, але ён атрымаў шмат заўваг з боку іншых удзельнікаў.

Адам Мальдзіс, прачытаўшы рукапіс кнігі Захара Шыбекі, палічыў, што яго лягчэй будзе выдаць напачатку ў Польшчы, а потым ужо тут. Так і адбылося. У 2002 годзе кніга была надрукавана на польскай мове і толькі зараз з'явілася на беларускай.

Шчырую падзяку хацелася б выказаць Захару Шыбеку за такую працу. Бо не даводзілася яшчэ трымаць у руках падручнік па гісторыі Беларусі, дзе б яна выкладалася так даступна, з дакладнай храналагічнасцю і паўнатой фактаў. Бо гісторыя ХХ стагоддзя раней выкладалася з "белымі плямамі" на яе старонках.

---

## Пачалася праца над першым беларускамоўным серыялам "Несцерка"

Беларуская студыя анімацыйных фільмаў пачала работу над першым мультсерыялам "Несцерка". 8-серыйны праект будзе створаны па матывах беларускіх народных казак і легенд аб прыгодах Несцеркі і яго сяброў.

Гэты праект сапраўды можна назваць усебеларускім. Гісторыя нашага Несцеркі ўжо зацікавіла расійскіх прадзюсераў, але мультсерыял ствараецца поўнасцю сіламі беларускіх майстроў і на беларускай мове.

Творчы працэс у поўным разгары. Кінарэжысёрам Ігарам Волчакам, драматургам Дзмітрыем Якутовічам, кампазітарам Леанідам Захлеўным і беларускімі мастакамі-аніматарамі кінастудыі "Беларусьфільм" ствараюцца вобразы народнага героя Несцеркі і яго сяброў.

А для таго, каб мультфільм быў прасякнуты беларускім гумарам і духам, майстры перыядычна перачытваюць беларускія народныя казкі, легенды, нават іграюць на глінянай свістульцы. Першая серыя мультсерыяла будзе завершана толькі ў маі.

---

*Да 190-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі*

**Цімафей Ліякумовіч**

# ВЕЧНЫ СЬВЕТ БРАТЭРСКІХ ПЕСЬНЯЎ

Тарас Шаўчэнка адыграў значную ролю ў творчым лёсе народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Вялікі Кабзар быў для яго прыкладам самаадданага служэння людзям працы, бясстрашнасці ў барацьбе з прыгнятальнікамі. Прарок беларускага адраджэння лічыў Шаўчэнку самым моцным духам з усіх пісьменнікаў свету, мужным, як сам народ.

Вершы Кабзара прыйшлі да Янкі Купалы з вуснаў беларускіх сялян як выяўленне народнага гора, пакут і пратэсту супраць няволі. Беларусы шанавалі паэзію Шаўчэнкі, лічылі яго паэтам і сваёй горкай долі, і сваіх светлых надзей. Гэта з удзячнасцю адзначыў пясняр Беларусі ў яркай прамове на Шостым пленуме саюза пісьменнікаў СССР, які адбыўся ў 1939 *годзе ў Кіеве і быў прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння Кабзара*: "Доля нашага народа была цесна звязана з доляй Украіны... Таксама, як і ўкраінскі народ, стагнаў наш народ пад ярмом польскіх паноў і царызму... І калі неймаверна цяжкая няволя гняла працоўнга беларуса да зямлі, ён спяваў журботную песню Тараса:

Раве ды стогне Днепр шырокі,
Сярдзіты вецер вые дзьме...

А калі гора на момант развейвалася і наступалі хвіліны радасці, беларус спяваў:

Ад сяла да сяла
Танцы і музыкі...

Калі ж у душы беларуса нараджалася вялікая вера ў будучыню, тады ён, як клятву, дадзеную на магілах бацькоў, паўтараў:

Пахавайце ды ўставайце,
Ланцугі парвіце,
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце!

Так, не праз кніжкі, а праз народ яшчэ дзецьмі пазнавалі мы творчасць Тараса Шаўчэнкі. Цёмныя, непісьменныя сяляне спявалі песні Тараса Шаўчэнкі, не ведаючы, хто іх склаў". Жывы боль выразніка народнага смутку, успрымаўся беларусамі, блізка да сэрца, як выяўленне ўласнай журбы.

Янка Купала лічыў Шаўчэнку "праслаўленым бацькам украінскай свабоды", "свабодалюбным паэтам", "геніем украінскай паэзіі". Яго вабіла бунтарскае слова Кабзара, заключаная ў ім суровая праўда жыцця, кінутыя смелыя абвінавачванні прама ў твар прыгоннікам і самадзяржаўнай уладзе.

Вобраз Кабзара натхніў Янку Купалу на напісанне вершаў "Памяці Т.Шаўчэнкі" і "Памяці Шаўчэнкі" (1909), *у якіх дадзена высокая ацэнка шматпакутнага жыцця і самаахвярнай творчасці ўкраінскага паэта*. Мужны песнятворца, які "у Бога правды и свободы всему живущему просил", вабіў выразніка беларускіх дум тым, што "Дух збудзіў свайму народу Сваім гучным словам, Навучыў любіць свабоду, родны край і мову". Створаная Янкам Купалам узнёслая паэма "Тарасова доля" (1939) зазяла сонечнай кветкай у вянку памяці бессмяротнаму песняру Украіны. Шаўчэнка прадстаў у ёй як выдатны паэт, як патрыёт роднай зямлі з яркім і трагічным лёсам.

Паэзія Шаўчэнкі зрабіла жыватворны ўплыў на ідэйнае і мастацкае станаўленне Янкі Купалы. Ён прызнаваўся, што не без уздзеяння Кабзара ўзнікла ў яго цікавасць да паэтычнга слова, любоў да роднай беларускай мовы. Творы Шаўчэнкі побач з кнігамі Горкага, Някрасава і Міцкевіча ён лічыў сваім універсітэтам.

Водгукі шаўчэнкаўскай музы, яе сацыяльных матываў і творчых прыёмаў, выразна адчуваюцца ў Купалавай паэзіі. Напрыклад, уплыў паэмы "Сон" можна адчуць у ягоных ранніх вершах "І як тут не смяяцца...", "Сон", "Разлад" і іншых. Перакладчык верша "Вёска" Т.Масэнка зазначыў, што Купалаў твор "*па сіле выразнасці, з якой выказваецца сацыяльны* прыгнёт беларускага сялянства пры царызме, вельмі падобны да песень вялікага ўкраінскага Кабзара Тараса Шаўчэнкі, у якіх ён з болем і гневам расказвае аб паднявольным жыцці ўкраінскай прыгоннай вёскі".

А ці не ўсплываюць адразу ў памяці славутыя шаўчэнкаўскія радкі з верша "Думы маі, думы", калі чытаем такія Купалавы творы, як "Да песень", "Да свіх думак", "Плачуць песні"?!

Песні мае, песні!
Смуткаў маіх дзеці,
Калі ж вам час прыйдзе
Весела запеці?
*"Да песень"*

Шмат сугучнага ў тэматыцы і вобразнай сістэме з шаўчэнкаўскім творамі ў такіх Купалавых вершах, як "Будзь смелым!...", "Гэй, наперад!", "Касцу", "Касцам", "Над ракою ў спакою...", "Не чапайся, панічок!", "Перад вісельняй", "Песня мая", "Там", "Цару неба і зямлі", "Я ад вас далёка...", "Я не для вас..." і інш., што тлумачыцца тыпалагічнымі гістарычнымі абставінамі, умовамі паднявольнага жыцця сялян, уздзеяннем фальклорнай паэтыцы. Дзеянне ж паэмы "Бандароўна" адбываецца на Ўкраіне. Яшчэ Якуб Колас заўважыў: "Паэма гэта характэрна з пункту гледжання зацікаўленасці Янкі Купалы да Ўкраіны. Несумненна, зацікаўленасць гэта выклікана паэзіяй Тараса Шаўчэнкі". Нават у назвах першых зборнікаў Янкі Купалы "Жалейка" і "Гусляр" адчуваецца пераклічка з шаўчэнкаўскім "Кабзаром", бо паэты аднолькава разумелі грамадзянскую ролю мастака ў грамадстве, а назвамі сваіх кніг падкрэслівалі тое, што цалкам прысвячаюць свой талент справе народнай. Шаўчэнкаўскі ўплыў на беларускага песняра быў настолькі арганічным, што ён неяк адзначыў: "Влиял ли Шевченко на мое творчество – затрудняюсь сказать. Возможно, в некоторых моих стихах и есть отзвуки его поэзии, но в каких именно – не знаю. Украинскую литературу я люблю больше, может быть, чем какую-либо другую. Объясняется это, я думаю, одинаковым социальным и национальным положением белорусского и украинского народов в прошлом и в настоящем. К тому же украинская литература, как никакая другая, сумела выразить думы и настроения своего народа. Из украинских поэтов больше всего, конечно, люблю Шевченко...» Янка Купала адзначаў, што не можа ўявіць сабе паэта, які б не вучыўся ў вялікага Кабзара. Ягонай паэзіі ўласціва такая цеплыня, мяккасць і шчырасць, як і творам Кабзара, такое ж багацце рытма і рыфмоўкі, такая ж інтанацыйная раскаванасць, такое ж надзвычай натуральнае выкарыстанне прыёмаў народнай паэтыкі. М.Рыльскі адзначаў: "Мы не раз адчувалі гукі непадкупнай музы Тараса ў журботных і гнеўных, радасных і светлых радках Купалы". Прарочы голас Шаўчэнкі непрыкметна ўліваўся ў Купалаў верш. Іскра, што вылецела з-пад шаўчэнкаўскага пяра, выбухнула маланкай ў Купалавых радках. Журботныя шаўчэнкаўскія напевы загучалі з новай сілай у ягоных творах. *Калі Кабзар узнімаў пытанне да якога часу суджана* народу скарацца, цярпець і пакутваць, дык Пясняр быў упэўнены, што надышоў час вызвалення і народ павінен рашуча вырашыць злабадзённыя праблемы свайго жыцця.

Янка Купала творча ставіўся да мастацкіх набыткаў Кабзара, абагачаў іх сваімі арыгінальнымі адкрыццямі, нацыянальнай самабытнасцю. Ягоная паэзія наватарская па зместу і форме, бо на ёй ляжыць адбітак і новых гістарычных умоў сацыяльнага і нацыянальнага жыцця з іх драматычнымі і трагічнымі падзеямі, і неабходнасць выяўляць свае ўласныя адносіны да іх, і атмасфера нацыянальнай беларускай культуры, і адметнае выкарыстанне беларускага фальклору, і праяўленне індывідуальнай творчай самабытнасці песняра, і вырашэнне своеасаблівых праблем стварэння новай беларускай літаратуры. Меў рацыю даследчык купалаўскага верша Мікола Грынчык, калі прыйшоў да высновы: "Купала, па сутнасці, не з'яўляецца стваральнікам *нейкіх незвычайных версіфікацыйных форм ці прыёмаў*. Наватарская сутнасць яго пошукаў заключаецца ва ўменні прыстасаваць вядомыя ў еўрапейскай паэзіі формы да новых патрабаванняў маладой нацыянальнай літаратуры, прывесці ў поўную суладнасць традыцыйныя прынцыпы і вымогі паэтычнай культуры іншых літаратур з асаблівасцямі прасодыі беларускай мовы і на яе (суладнасці) аснове стварыць непаўторныя ў мастацкіх адносінах паэтычныя шэдэўры". Пясняр валодаў такім магутным талентам, які дазволіў яму ўзняць беларускую паэзію і па зместу, і па культуры верша на сусветныя вяршыні паэтычнага майстэрства.

Янка Купала – першы перакладчык Шаўчэнкі на беларускую мову. Ужо ў "Жалейцы" (1908) побач з арыгінальнымі вершамі былі змешчаны пераклады вершаў "Думка"("Нашто мне чорныя бровы") і "Гогалю". З асаблівым натхненнем працаваў ён над перакладамі Шаўчэнкаўскіх радкоў у трыццатыя гады мінулага стагоддзя. Яму належаць пераклады 23 твораў Кабзара. *Сярод іх такія вядомыя вершы і паэмы, як* "Запаведзь", "Сон", "Кацярына", "Каўказ", "Перабендзя", "Тапаля", "Гайдамакі", "Тарасова ноч" і інш.

*Пры перакладзе Янка Купала ўважліва ставіўся да арыгінала*, улічваў лексічную блізкасць украінскай і беларускай моў, падабенства іх сінтаксічнга ладу. Ён дакладна выяўляў сэнсавую глыбіню і песенны лад шаўчэнкаўскіх вершаў, іх душэўны лірызм, рытмічнае багацце, арыгінальнасць рыфмоўкі. Ягоныя пераклады зроблены на высокім мастацкім узроўні. Вечнае шаўчэнкаўскае слова свабодна і пявуча загучала на беларускай мове. Гэта тлумачыцца не толькі майстэрствам перакладчыка, але і сугучнасцю талентаў паэтаў.

Пераклады Янкі Купалы з Шаўчэнкі атрымалі прызнанне шырокай чытацкай аўдыторыі, беларускіх і ўкраінскіх паэтаў. Мікола Нагнібеда ўспамінаў аб тым моцным уражанні, якое пакінула на яго чытанне беларускім песняром сваіх перакладаў з Шаўчэнкі, тая вялікая любоў, з якой класік беларускай літаратуры ставіўся да Кабзара: "Янка Купала не раз прыгадваў Тараса Шаўчэнку – з пяшчотнасцю і глыбокай пашанай, як удзячны вучань *найдаражэйшага свайго настаўніка. Госць прачытаў нам* некалькі сваіх перакладаў з "Кабзара". Яны ўразілі нас дакладнасцю карцін і палымянасцю Шаўчэнкаўскага слова, пераліўтага ў слова беларускае".

Янка Купала разам з Якубам Коласам рэдагаваў першае беларускае выданне "Кабзара" (1939), у падрыхтоўцы якога прымалі таксамка ўдзел Змітрок Бядуля, П.Броўка, П.Глебка, А.Куляшоў, К.Крапіва і М.Клімковіч. Пясняр Беларусі вучыў маладых паэтаў шанаваць літаратурную спадчыну Шаўчэнкі, патрабавальна ставіўся да якасці перакладаў, дамагаўся, каб кожны радок, кожнае слова былі выразнымі.

Сваімі вершамі, перакладамі, артыкуламі і прамовамі Янка Купала ўнёс дастойны ўклад у вянок памяці Кабзара, трывала праппісаў яго творы на беларускай зямлі, умацаваў творчыя сувязі паміж беларускай і ўкраінскай літаратурамі. Імёны Тараса Шаўчэнкі і Янкі Купалы – паэтаў, якія з годнасцю, з найбольшай прыгажосцю і сілай ўвасобілі ў слове дух сваіх народаў, – *успрымаюцца адзінай песняй, у якой па-братэрску зліліся іх* палымяныя сэрцы. Кабзар і Пясняр настолькі парадніліся, што навекі ўвайшлі ў летапіс беларуска-украінскага літаратурнага пабрацімства. Быццам зара на небасхіле, гэты вечны свет будзе асвятляць дружбу двух *народаў і плённае ўзаемадзеянне іх культур.*

---

## Што новага ў Чыкага?

Сапраўдных Беларусаў і па нацыянальнасці, і па веравызнанні, і па мове ў Чыкага, ЗША, вельмі мала. Большасць сяброў зямляцтва "Землякі" аб'ядноўвае з Беларусьсю памяць і любоў да былой Радзімы, хаця былой Радзімы не існуе..І хоць большасць з нас ужо з'яўляюцца грамадзянамі Амерыкі, усё роўна, Радзіма – гэта тая краіна, дзе нарадзіўся і прайшла асноўная частка жыцця, дзе засталіся магілы нашых бацькоў і продкаў...

*Наш хлопец у Багдадзе, калі стоміцца, слухае „Н.Р.М.", думае пра „Басовішча", Беласточчыну, бацькоў...*

# З мікрафонам у Іраку

**З Тамашом САЕВІЧАМ, карэспандэнтам Польскага Радыё у Іраку гутарыць Ганна Кандрацюк.**

***— Тамаш, як ты апынуўся на вайне?***

— Пазваніў тэлефон. Мяне выклікаў Міхал Малішэўскі, дырэктар Радыё Палёнія на размову і спытаў ці я зацікаўлены працаваць карэспандэнтам Польскага радыё ў Іраку (раней маю кандыдатуру разглядала кіраўніцтва Польскага радыё). Я згадзіўся цягам трох секунд.

У Ірак ехаў з вялікім хваляваннем — ці вытрымаю тыя ўмовы і ці змагу рабіць прынамсі два-тры матэрыялы ўдзень. Раней я зусім не меў сутыкнення з працай карэспандэнта ў небяспечнай арабскай краіне.

***— Першы шок?***

— Першы шок перажыў я на „Сільвестра". З нашай гасцініцы ў Багдадзе мы з маім сябрам, карэспандэнтам Польскага Радыё Міхалам Кукаўскім, ехалі на нашай машыне ў славуты гатэль „Палесціна", дзе ў час ваенных дзеянняў жылі журналісты. Была дзевятая вечара. Мы павярнулі ў цёмную вулачку. Удалечыні пачулі мы выстралы з калашнікава. Пасля тыдня чалавек прывыкае да стрэлаў — іракцы гэта такая нацыя, якая любіць сабе „пастраляць". Прасхалі мы нейкія 200 метраў і я пачуў вялікі гул каля машыны. У цемры, можа 50 метраў ад нас, стаяў мужчына з калашом і страляў. Скажу шчыра, я не хачу думаць — ці страляў ён у наш бок ці можа ў паветра на прывітанне Новага года. Але ніколі не забуду свісту куляў за шыбай машыны. Нам пашчасціла ўцячы.

***— Ці меў ты нагоду размаўляць са звычайнымі іракцамі?***

— Шмат разоў. Праз тры першыя тыдні майго прабывання ў Іраку я жыў выключна ў Багдадзе і, шчыра кажучы, найбольш задавальнення маю ад падарожжаў з мікрафонам па вуліцах Багдада. Сустрэўся я з вялікай ветлівасцю іракцаў, гэта вельмі ганарысты народ, для іх важныя прынцыпы. Адзін з іх пашана для гасцей. Хаця зараз „гасцямі" цяжка назваць сілы кааліцыі. Таму шмат іракцаў лічыць, што гэта краіна пад акупацыяй, а палякі — часам і польскія журналісты — гэта акупанты.

***— Менавіта, як успрымаюць вайну самі іракцы?***




*— Ад некалькіх гадоў „непапраўны аптыміст". Беларус ад пачатку да канца. Меў вялікае шчасце вучыцца ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Пасля, як паступіў у Варшаўскі універсітэт, пачаў працаваць журналістам, найперш у часопісе „Cogito", далей у Беларускай рэдакцыі Польскага радыё і Радыё Рацыя. У Другой праграме Польскага радыё вёў выпуск „Культурныя навіны". Да выезду ў Ірак працаваў замежным карэспандэнтам Радыё Палёнія — рэалізаваў праграмы Польскага радыё для замежжа, дзе абслугоўваў замежныя падарожжы польскіх палітыкаў. Дзякуючы гэтаму спалучыў дзве найбольшыя жарсці жыцця — падарожжы і журналістыку...*

— Як не дзіўна гэта гучыць, але сам я неаднаразова чуў ад іх, што вайну яны ўспрымаюць „нармальна". Да ваенных дзеянняў яны паспелі прывыкнуць. Аднак не прывыклі і пэўна не прывыкнуць да таго, каб пра іх лёс вырашалі іншыя нацыі. Вялікае, бо аж 70-працэнтнае беспрацоўе, праблемы з пастаўкамі вады і электраэнергіі, праблемы з купляй паліва на аўтазаправачных станцыях у краіне, якая перад вайной была другім у свеце экспарцёрам нафты.

***— Ці маеш магчымасць пабываць у цэнтры здарэнняў, у агні?***

— Па-першае, ва ўмовах небяспекі трэба мець галаву на сваім месцы. І калі прабываючы ў Багдадзе чую ўзрыў, бягу разам з іншымі журналістамі ў машыну, каб адшукаць месца правядзення тэракта. Некалькі разоў мне ўдалося быць пару хвілін пасля выбуху бомбы ў месцы здарэння. Гэта жахлівыя сцэны, пра якія цяжка расказваць і пісаць. Ідзеш па вуліцы і бачыш целы забітых, або паразрываныя людскія часткі цела.

Не хачу каб склалася ўражанне, што гэта нейкі гераізм з аднаго боку, або дурніца — з другога. Такая наша журналісцкая праца.

***— Праблемы з вайсковай цэнзурай?***

— Калі хачу зрабіць матэрыял пра жыццё жаўнераў, пра армію — якраз студыя Польскага радыё ў Вавілоне знаходзіцца на тэрыторыі вайсковага лагера, у якім жыву — такая сітуацыя крыху „звязвае рукі". Тады розныя дылемы. Адно, што магу сказаць, стараюся падкапаць міф створаны польскімі СМІ — міф польскай зоны ў Іраку. У жартах чуў я нават пра „Ірацкае ваяводства". Па-першае — гэта сектар адказнасці шматнацыянальнай дывізіі пад польскім кіраўніцтвам, дзе служаць салдаты 25 нацый. Па-другое, на ніводных прапагандысцкіх матэрялах пра сілы кааліцыі, апрача амерыканскага і брытанскага сцягаў, я нідзе не бачыў польскага сцяга. Мне здаецца, што ў гэтай сітуацыі трэба ўсё ж такі параўнаць Польшчу і ЗША.

***— Ці сярод жаўнераў сустрэў беларусаў? Праваслаўных?***

— Беларусаў я не сустрэў (зразумела тых з Польшчы). Кантактуюся з жаўнерамі ўкраінскага кантыгента, якія дыслацыруюцца ў Вавілоне і Аль-Кут. Ёсць праваслаўныя румыны, балгары, зразумела — некаторыя ўкраінцы. Пакуль сустрэў аднаго хлопца з Беласточчыны — татарына, які працуе перакладчыкам у арміі.

***— Як ва ўмовах вайны дзейнічае моц беларуса з Гайнаўкі?***

— Шчыра кажучы — моц для мяне самая важная. Калі я стомлены — а зараз пастаянна стомлены, бо працую за трох — хопіць, што паслухаю гурт „Н.Р.М." — асабліва песню „Тры чарапахі" — ды прыгадаю сабе як гуляў з Табой пры ёй на „Басовішчы" ці на „Купаллі" — і адразу мне лепш. Хачу прыгадаць маіх цудоўных бацькоў — частку гэтай пазітыўнай моцы, якую дае сям'я, што пастаянна хвалюецца за маё жыццё. Стараюся ісці ў жыцці ў напрамку, які вызначыў Рышард Капусцінскі — толькі добры чалавек можа быць добрым рэпарцёрам.

Гутарыла Ганна КАНДРАЦЮК

## "З цэлым народам гутарку весьці"

Словы гэтыя, знаёмыя, думаю, з дзяцінства кожнаму, у каго Беларусь глыбока жыве ў сэрцы, каму і ў далечыні ад яе блізка і дорага беларускае слова, вынесены ў загаловак майго невялічкага артыкула таму, што яны па сутнасці вызначаюць яго ўнутраны лейтматыў. У якім сэнсе, будзе зразумела чытачу далей.

Перш за ўсё хачу паведаміць, што мінулым годзе ў выдавецтве *"Беларуская навука"* выйшоў цікавы зборнік *"Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце славянскіх літаратур"*, падрыхтаваны Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навукБеларусі.Зборнік уключае даклады і паведамленні, зробленыя шырокім колам навукоўцаў, як вядомых, так і зусім маладых, на Міжнароднай Навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, арганізаванай Інстытутам з нагоды 120-годдзя народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа што адзначалася, як вядома, у 2002 годзе.

Натуральна, што паколькі ў Зборніку змешчаны артыкулы living рознага характару і ўзроўню, можна было-б выказаць пэўныя меркаваньні па тых ці іншых канкрэтных пытаннях, але нам важна ў дадзеным выпадку падкрэсліць галоўнае.Зборнік сведчыць,што надышоў новы этап у асэнсаваньні літаратурна-мастацкай спадчыны волатаў нацыянальнай літаратуры, што беларуская літаратурная навука вызваляецца ад ранейшых вульгарна-сацыялагічных схем і штампаў. Янка Купала і Якуб Колас паўстаюць цяпер у новым святле, значна бліжэй да гістарычнай праўды, як сапраўдныя носьбіты нацыянальнай культуры, якія сваім талентам здолелі узняць народнае мысленне беларусаў на вяршыню мастацкага і такім чынам упісаць беларускую літаратуру ў сусветны кантэкст.

У артыкулах вядомых беларускіх літаратуразнаўцаў І.Навуменкі,У.Гніламёдава, М.Мушынскага, А.Лойкі, В.Жураўлёва, М.Тычыны, А. Яскевіча, Т.Шамякінай, Л.Гараніна і іншых даецца новае, сучаснае прачытанне твораў класікаў беларускай літаратуры. Яно, на маю думку, выспявала ўжо даўно ў тых даследчыкаў, якія адчувалі, што творчасьць паэтаў ніяк не ўкладваецца ў схему –*"дакастрычніцкі"*перыяд і перыяд *"савецкі"*– і не паддаецца аднамернаму сацыялагічнаму тлумачэнню.

Новы час, адкрытыя для доступу архівы,новыя пошукі, падключэнне даследчыкаў розных галін навукі -- мовазнаўцаў, гісторыкаў, філосафаў, сацыёлагаў, архіўных і музейных работнікаў--далі магчымасць навукоўцам выйсці на інтэграцыйны ўзровень і перагледзець устарэлыя погляды, наблізіцца нейкім чынам да разгадкі некаторых аўтарскіх загадак, разгадваць якія яшчэ надоўга хопіць іх наступнікам.

Найбольш яскрава, на мой погляд, агульныя навуковыя напрацоўкі і магчымасці новага часу раскрыліся ў новым, Поўным Зборы твораў Янкі Купалы ў 9 тамах, пра што сведчаць даклады і паведамленні тэкстолагаў у зборніку (*Т.Голуб, Э.Золавай, Т.Строевай, В.Дэконскай, С.Забродскай, А.Шамякінай, К.Казыры*).Гэтае купалаўскае выданне -- частка агульнага грандыёзнага праекту, у які ўваходзіць і 18-томны ( або 20-том- ны) Збор твораў Якуба Коласа, але яго выданне толькі распачынаецца, у той час як купалаўскае завяршаецца ( 9-ты том ужо на выхадзе).

Поўны 9-ці томны Збор твораў Янкі Купалы бачыцца мне як з'ява ўнікальная ў літаратурным жыцці Беларусі, бо такога выдання яшчэ не было. Гэта выпакутаваная і нарэшце здзейсненая мара, якая здавалася недасягальнай для тых, хто волею лёсу рыхтаваў папярэднія Зборы твораў песняра. Тады, я ведаю гэта дакладна, было абсалютна неверагодным уключэнне ў Збор твораў такіх вершаў, напрыклад, як *"Над Нёманам"*, *"Папросту"*, *"Чужым"*, *"Забраны край"* і інш.; паэм *"На Куцьцю"* і *"На Дзяды"*; п'есы *"Тутэйшыя"* і г.д.

Цяпер зняты ўсе ранейшыя абмежаванні, уключана ўсё, напісанае аўтарам. Мала таго, даюцца ўсе варыянты, прычым, не ў раздзеле *"Каментарыяў"*, а ў асноўным тэксце, прыраўноўваючыся такім чынам да мастацкіх твораў - арыгіналаў. І гэта яшчэ не усё. У асобны раздзел эпісталярнай спадчыны паэта вылучаны яго дарчыя надпісы, так званыя "інскрыпты" -- "раскоша", якая ранейшым укладальнікам і рэдактарам адпаведных выданьняў не магла нават і прысніцца. Між тым, "інскрыпты" гэтыя значна пашыраюць літаратурны і мастацкі кантэкст. Друкуюцца таксама калектыўныя творы, у якіх прымаў удзел Янка Купала. Навізна выдання тут навідавоку.

Больш схаваны ад чытацкага зроку змены, унесеныя ў раздзел *"Каментары"*, але і яны, як вынікае з асобных артыкулаў зборніка, не менш важныя: у многіх выпадках прыняты новыя рашэнні ў выбары асноўнага тэксту, у датаванні асобных твораў, значна ўзбагачаны рэальны каментарый.

Новы характар каментарыяў, з аднаго боку, вынік новага ўзроўню купалазнаўства і, значыць, беларускага літаратуразнаўства наогул, бо ўсе дарогі яго так ці інакш вядуць да Купалы і Коласа, з другога,-- вынік новых патрабаваньняў да выдання, абумоўленых новым часам. Тут сышліся, як гаворыцца, усе зоркі. Да гэтага трэба дадаць яшчэ высокі ўзровень навуковага кіраўніцтва,памножаны на энтузіязм, руплівасць, адданасць непасрэдных выканаўцаў.

Можна не сумнявацца, што Поўны 9-ці томны Збор твораў Янкі Купалы дасьць даследчыкам штуршок для далейшых росшукаў, знаходак і абагульненняў, але значэнне яго выходзіць за рамкі вузка акадэмічных праблем, бо новае выданне значна змяняе і ўзбагачвае ўяўленьне шырокага чытача аб Купалу -- мастаку і мысліцелю. Усё гэта дае сур'ёзную падставу спадзявацца, што гутарка, якую меўся весці вялікі пясняр з народам, адбудзецца цяпер на новай хвалі, больш шчыра і плённа, на іншай ступені разумення

Эсфір Гурэвіч

Кліўленд

# Паляванне на ТБМ

Вольга ІПАТАВА /Народная Воля/

На адной з сустрэч з чытачамі мне задалі пытанне - як жывуць зараз беларускія пісьменнікі, якія не славяць уладу, а кіруюцца законамі сумлення? "Як стронга", - адказала я. Удакладняць было не трэба: гэтая аўдыторыя ведала, што фарэль жыве ў чыстай вадзе і кіруе супраць плыні. На самай справе гэта быў занадта паэтычны вобраз. Сённяшняй стронзе трэба выжываць у вадзе бруднай і ядавітай, яе бесперастанку труцяць хімікаліямі і нястомна спрабуюць "выціснуць" з рэчак нашага беларускага жыцця.

Пацвярджэнне гэтаму - чарговая спроба "наезду" на Таварыства беларускай мовы.

У сенняшнім грамадскім жыцці гэта - самая актыўная, жыццяздольная і энергічная структура, якая мае падтрымку ў самых далёкіх мястэчках і вёсачках Беларусі. Яе адрозненне ад іншых, у тым ліку палітычных арганізацый, на мой погляд, у тым, што пратэстнага ў ёй меней, чым у іх, а вось любові, таго сакральна-патаемнага, што жывіць нацыю, - найболей. Сёння той, хто на пачатку Адраджэння 90-х біў сябе ў грудзі і спадзяваўся на нейкія дывідэнты ад беларускасці, сядзіць сабе ціха, а ў горшым выпадку зноў стаў "інтэрнацыяналістам." Тыя ж, хто не па загадзе, не па нейкай выгадзе для сябе прапагандавалі нацыянальную літаратуру, любілі беларускае слова, засталіся тымі ж. Больш таго - яны смела ішлі насуперак таму адкату ад нацыянальнага, які імкліва распачаўся з 1994 года. Варта ўзгадаць адну Марыю Мацюкевіч з Салігорска, чыя сумная гадавіна смерці прыйшлася на сёлетнія Каляды. Гадамі яна, простая настаўніца, ладзіла ў сваім горадзе цэлыя фестывалі беларускай паэзіі, знаходзіла спонсараў, угаворвала пісьменнікаў, у якіх заўсёды няма часу, прыехаць і выступіць у школах і тэхнікумах. Згарэла яна, як знічка, пасля таго як быў забіты яе сын, а забойцаў не знайшлі, паколькі, як гаварылі ў горадзе, і не асабліва шукалі...

А ці ж яна адна гарэла любоўю да роднага слова? Такіх людзей, хто гатовы на актыўнае дзеянне, а не толькі на размовы ды енкі, калі і не так шмат, як хацелася б, то ўсё ж яны ёсць. Менавіта іх і актывізуе, і арганізоўвае сёння для канкрэтных спраў Таварыства беларускай мовы. У каго яшчэ шукаць ім падтрымкі, разумення ды ацэнкі сваёй працы? У аддзелаў адукацыі, якія, хочуць яны таго ці не, змушаны выконваць дырэктывы зверху ды скасоўваць беларускія школы? У аддзелаў культуры, якія не ў стане забяспечыць бібліятэкам сродкі на набыццё кніг сучасных беларускіх аўтараў? У райвыканкамаў, якія б'юцца за надоі ды кармы для згалелых калгасаў і пасылаюць на буракі і бульбу тых, хто фінансава цалкам залежыць ад іх, - настаўнікаў ды бібліятэкараў, якія не ўдасканальваюць свае веды за сучаснымі часопісамі, а з калгасных палёў бягуць на ўласныя соткі, каб дашчэнту не змізарнець на сваіх нікчэмных заробкахі

Ідуць і едуць энтузіясты беларускай нацыянальнай ідэі ды беларускага слова на сядзібу ТБМ - там ладзяць семінары, заўсёды прапануюць новае і вучаць на ўласным прыкладзе, як умудрыцца выпускаць газету ( а цяпер - не толькі "Наша слова", але і "Новы час") не на дзяржаўныя, а на грамадскія, на нашы з вамі грошы. Тут раскажуць пра новыя кнігі, што выйшлі ў недзяржаўных выданнях, і іх можна пагартаць тут жа, на пастаяннай выставе самых апошніх па часе выдання кніг і часопісаў.

Канешне, вялікая заслуга ў тым самога старшыні ТБМ Алега Анатольевіча Трусава, які здолеў стварыць зладжаны ды працаздольны калектыў там, дзе не раз ужо рабіліся спробы яго нага руйнавання.

Так, гэтае дзікунства - інакш яго не назавеш - ужо не раз адбывалася ў нашай найноўшай, дзесяцігадовай "ледніковай эпосе". Ужо вывозілі адсюль, з сядзібы ТБМ, на трактарах бясцэнныя кнігі, выкідалі з такой цяжкасцю знойдзеную ды прывезеную мэблю, закідвалі штрафамі. За што? За любоў да таго, што за тысячагоддзі гісторыі назапасілі продкі, і найперш, канешне, за мову, "якой азваўся беларус". Без мовы яго даўно ўжо не было б, як няма эрзя, меры, чудзі і іншых народаў, ад якіх засталося толькі паўзнясважлівае блокаўскае "чудь начудила да меря намерила" і якія растварыліся ў вялізным рускім этнасе.

У любові ёсць свае законы, непадуладныя ніякім высілкам мэтазгоднасці і нават уласнай бяспекі. І ў гэтым - трывушчасць мовы, нягледзячы ні на што. Хто з тых, "прадзвінутых" настолькі, што яны грэбуюць родным, адкажа на простыя пытанні - чаму ты не хочаш знікаць, беларус? Чаму ты, беларускі інтэлігент, ледзь утварыўся продых у задушлівым цяжары імперыі, з такой самааддданасцю ўзяўся аднаўляць гераічныя ўчынкі продкаў, якія адчайна, ад стагоддзя да стагоддзя, баранілі свой лад жыцця, сваю зямлю? Няўжо ты не бачыш, з якім імпэтам палююць на кожнага твайго суродзіча, які не хоча аддаваць сваіх дзяцей на згубу за чужыя нам геапалітычныя і эканамічныя інтарэсы?

І - няўжо ж ты не падтрымаеш, не абароніш гэтага свайго суродзіча, калі ўжо сам не хочаш выходзіць з-пад цёплай страхі, каб нешта канкрэтнае зрабіць для агульнай нашай справы - захавання Беларусі?

Паляванне ідзе, як кажуць, амаль на "ўсіх франтах". Пазалетась так палявалі на Саюз пісьменнікаў. Загналі яго ў даўгі, прытрымліваючы ад рашучых дзеянняў абяцанкамі на розных, самых высокіх дзяржаўных узроўнях, стварылі гвалтоўны холдынг, спрабавалі раздзяляць, каб лягчэй было вылучыць самых непакорлівых і накінуць на іх удаўку. Не ўдалося. Саюз працуе, праводзяцца вечарыны, прымаюць у сябры нашай творчай арганізацыі новых маладых сяброў. Нягледзячы на тое, што сучаснай беларускай кнізе неверагодна цяжка дабрацца да чытача ў глыбінку, апроч таго, на друкаваныя выданні простай сям'і падпісацца таксама праблематычна, усё ж , як парасткі скрозь асфальт, прабіваюцца ў мястэчкі ды гарады і сучасныя аўтары. І для любога, хто хаця трохі разбіраецца ў літаратуры, відавочна - яна жыве, нягледзячы на тое, што па тэлебачанні нядаўна зноў прагучала, што беларускай літаратуры нібыта няма.

Я стараюся пазбягаць пераліку прозвішчаў, бо абавязкова не назавеш некага, хто варты таго, каб яго ная праца была хаця б абазначаная. Але як не сказаць пра нядаўна выдадзеныя ( канешне, не ў дзяржаўным выдавецтве) кнігі "Сучасная беларуская проза" і анталогію вершаў "Краса і сіла", складзеную Міхасём Скоблам, якія далі шырокую панараму пісьменнікаў, што актыўна і плённа працуюць у айчыннай літаратуры? Дарэчы, кнігі тыя купляюць даволі актыўна, што таксама гаворыць пра цікавасць чытача да роднай літаратуры. Як не сказаць, напрыклад, пра новы раман Эрнеста Ялугіна "Афганская пастка"? Вострасюжэтны палітычны дэтэктыў з сумнымі рэаліямі нашага жыцця захоплівае з першай старонкі. Аўтар жа, які не адносіцца да ліку "прабіўных", шукае магчымасці яго выдаць. Вось бы нашым палітычным партыям зацікавіцца раманам і дапамагчы аўтару! Не сакрэт, што жорсткае паляванне апошніх гадоў і на самыя гэтыя партыі неяк абасобіла іх ад творцаў, ад літаратуры, жывапісу і музыкі, і на выставах ці паэтычных вечарынах амаль не ўбачыш палітыкаў. А дарэмна!

Некалі наша палітычная пасляваенная эміграцыя, выдаючы газеты і часопісы, давала на іхніх старонках шмат (нават, на думку некаторых, зашмат) вершаў, паэм ды апавяданняў беларускіх літаратараў. Але менавіта мова, паэтычнае слова не далі беларусам раствáрыцца і знікнуць у іншых, больш магутных нацыях. Узгадваю, як, будучы ў гасцях у адной з нашых цудоўных беларускіх жанчын Нямеччыны Надзеі Мікалаеўны Барт (Юрэвіч), я пачула ад яе мноства вершаў, у тым ліку невядомага мне тады Х.Ільяшэвіча, а пасля і рамансы на музыку А.Карповіча. У гутарцы пра ролю літаратуры ў захаванні нацыянальнай свядомасці яна ўзгадала пра сваю сяброўку Надзею Касмовіч са Штутгарта, тут жа патэлефанавала. "А ведаеш, хто ў мяне ў гасцях?" Я ўзяла слухаўку і была ашаломленая: спадарыня Касмовіч напамяць працытавала мне верш з маёй першай кніжкі "Раніца"! А пасля стала чытаць і іншых сучасных аўтараў. Адкуль жа такое веданне нават маладых аўтараў, не кажучы ўжо пра мэтраў літаратуры? "Да беларускай літаратуры заўсёды звярталіся ў сваіх артыкулах і перадачах і С.Станкевіч, і Ю.Віцьбіч, і Я.Запруднік, - адказала яна. - Ды і мой муж заўсёды цікавіўся, што ж адбываецца ў савецкай Беларусі, ці жыве там яшчэ нашае слова"...

Слова, нягледзячы на няспынную русіфікацыю, якая ўзмацняецца з кожным годам, усё ж яшчэ жыве. Яно не толькі ў творах пісьменнікаў, якія цяпер, каб дабрацца да чытача, праходзяць ледзь не паласу з перашкодамі, з мінамі і акопамі, нібыта лазутчыкі ў ваенныя часы. Не сакрэт, што ёсць пэўныя спісы тых, каго не падпускаюць ні да дзяржаўнага тэлебачання, ні да радыё, нібыта яны і сапраўды лазутчыкі чужой дзяржавы - чужой на сваёй зямлі! Ёсць і іншыя грамадскія арганізацыі, якія моцна занепакоены становішчам, якое склалася на сёння, калі зноў, як і ў савецкія часы, у гарадах амаль няма беларускіх школ, - такія, як Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Але Таварыства беларускай мовы шчырые найбольш, яно не дае спатолі чыноўнікам, нястомна нагадваючы ім аб законах, якія не працуюць, аб іхнім абавязку перад дзяржавай, якая дэ-юрэ існуе як незалежная і называецца пакуль што, дзякуй Богу, не "Северо-Западный край" (у якім, дарэчы, не былі б яны ўжо ні міністрамі, ні кіраўнікамі дэпартаментаў, ні ўвогуле кім-небудзь значным, а толькі тымі запраданцамі, якімі грэбуюць і самі пакупнікі).

Ганебна чуць сёння ад нашых міністраў суцэльную рускую мову, непрыемна бачыць, як кіраўнікі беларускіх тэатраў, артысты, музыкі, што носяць званне народных і заслужаных, дэманструюць сваю непавагу да тытульнай нацыі (ні разу апошнім разам не чула беларускай мовы ў інтэрв'ю Я.Паплаўскай ды А.Ціхановіча, Г.Давыдзькі ці каго-небудзь з "Песняроў"(за выключэннем тых, у якіх Л. Барткевіч). Дарэчы, заўсёды пабеларуску выступае хіба што толькі **М. Фінберг**, дзякуй яму і за нястомную прапаганду нацыянальнай песні! Колькі разоў бывае і такое: артысты спяюць песню, прачытаюць верш па-беларуску і тут жа кланяюцца публіцы: "Спасибо!", так што адразу бачыш, што ім нацыянальнае - толькі служба)... Але ўдвая больш ганебна чуць, як нават некаторыя беларускія пісьменнікі, угодліва схіляючыся перад якім-небудзь журналістам СТБ, якое найбольш агрэсіўна рускамоўнае, таксама загаворваюць на іншаземнай мове, нібыта іх тут, у сваёй краіне, нехта не зразумее, нібыта іх не запішуць, калі яны стануць гаварыць на той мове, на якой пішуць, вучачы грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці тых жа самых журналістаў, а не патураючы ім у нігілізме...Тады ўзгадваецца даўняе, але вельмі сучаснае сёння слова Максіма Багдановіча:

*Біце ў сэрца іх, біце мячамі, Не давайце чужынцамі быць!*

У Алеся Жука ёсць цудоўнае апавяданне "Паляванне на апошняга жураўля". Яно таксама ўзгадваецца, калі ў нашай краіне пачынаецца чарговае паляванне - на дзяцей з беларускага ліцэя імя Коласа, на творцаў, на грамадзянскую супольнасць, якая ва ўмовах татальнага алкагалізму, росту злачынстваў ды духоўнай дэградацыі грамадства магла б зрабіць непапраўнаўча болей, чым сёння, калі яна адбіваецца ад "паляўнічых", што абкладваюць чырвонымі сцяжкамі кожнае смелае, жывое слова, думку, дзеянне.

У кожнай газеце рэгулярна з'яўляецца зводка злачынстваў, ад якіх кроў стыне ў жылах. Блізкія людзі звярэюць і забіваюць адзін аднаго з неверагоднай жорсткасцю, выганяюць на вуліцу старых і нямоглых, рабуюць сяброў. І на гэтым фоне зусім бяскрыўдным бачыцца адзін, здаецца, зусім дробны выпадак, які, аднак, глыбока мяне закрануў.

У Доме літаратара ішла прэзентацыя кнігі "Чарнобыльскія матылі", якую напісалі і аздобілі дзеці, што некалі перажылі Чарнобыль і яго наступствы на забруджанай зямлі. (Дарэчы, за той час, пакуль выходзіла кніга, трое юных мастакоў памерлі.) Але калі тэлебачанне папрасіла сказаць колькі слоў адну з дзяўчат, ужо студэнтку, тая адмовілася.

Я бачыла, што ёй хацелася выступіць. Чаму ж адмаўляецца? І яна нарэшце сказала шчыра: не хацела, каб яе сябры ведалі, што яна з чарнобыльскай зоны! "Хлопцы са мною не стануць сустракацца, а сяброўкі таксама будуць баяцца што я - радыеактыўная!"

Грамадства, якое настолькі бязлітаснае да нямоглых, якое не шкадуе, не дапамагае слабым - такое грамадства сапраўды трэба лячыць, і мастацкае слова - светлае, чыстае, добразычлівае - займае ў такім псіхалагічным "лячэнні" не апошняе месца. Гэта добра ведалі ў старажытнасці і на тое зусім забываюцца сёння ў свеце, дзе класічная літаратура ўжо даўно падаецца ў адаптаваным выглядзе і дзе героі Гамера гавораць вестэрнавым слэнгам. Ну, але гэта ўжо - тэма іншай гаворкі...

А пакуль што неадкладна трэба дапамагаць ТБМ. Пісаць пратэсты, заявы, збіраць ахвяраванні...

Таварыства беларускай мовы не павінна стаць тым апошнім жураўлём, які яшчэ лятае над краінай і тужліва-настойліва нагадвае - пра прыроду, у якой зніштаваны чалавек, яго побыт і ягонае Слова, пра душу, якой мулка ў чужым эгрэгары, пра многае іншае, без чаго мы будзем проста тутэйшымі, проста насельніцтвам, крывёй і мускуламі якога будуць, як і спрадвечна, расплачвацца чужыя народы.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# На Беларусі ўсе Багі жывуць мірна

Карэспандэнт сустрэўся з намеснікам старшыні Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Ламекам.

**— Уладзімір Барысавіч, ахарактарызуйце, калі ласка, рэлігійную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь на пачатак 2004 года.**

— Я магу з упэўненасцю сказаць, што рэлігійная сітуацыя ў рэспубліцы застаецца стабільнай і бесканфліктнай. Захаванне гэтага спакою з'яўляецца адной з найгалоўнейшых задач дзяржавы, бо ўстойлівы этнаканфесійны мір — адзін з важнейшых фактараў сацыяльна-палітычнай стабільнасці ў краіне. Рэлігійныя арганізацыі ў нашай краіне, акрамя культавай практыкі, маюць магчымасць актыўна займацца дабрачыннасцю, супрацоўнічаць з органамі ўлады, усталёўваць і падтрымліваць сувязі і кантакты з замежнымі рэлігійнымі арганізацыямі. Сёння ў Беларусі дзейнічае каля трох тысяч рэлігійных абшчын. Змен ў канфесійнай структуры не адбылося. Як і ў папярэднія гады, рэлігійныя абшчыны прадстаўляюць 26 канфесій і рэлігійных напрамкаў. У адпаведнасці ,са сваімі статутамі функцыянуюць 147 рэлігійных арганізацый, якія маюць агульнаканфесійнае значэнне, — гэта рэлігійныя аб'яднанні, манастыры, брацтвы, сястрыцтвы, місіянерскія таварыствы, духоўныя навучальныя ўстановы. Бясспрэчна, найбольшая вага ў рэлігійным жыцці належыць Беларускай праваслаўнай царкве, якая аб'ядноўвае больш як 80 працэнтаў вернікаў у рэспубліцы і мае больш чым 1280 прыходаў, 1003 храмы, якія ўжо дзейнічаюць і яшчэ 157, якія будуюцца. Канструктыўныя адносіны склаліся ў дзяржавы з Рыма-каталіцкай царквой. Сёння яна аб'ядноўвае больш як 430 прыходаў. Плённа працуе дзяржава з іудзейскімі, мусульманскімі, лютэранскімі рэлігійнымі арганізацыямі. Пратэстантызм у рэспубліцы прадстаўлены, як і раней, 15 напрамкамі.

**— На чым трымаецца міжканфесійны і міжрэлігійны мір у нашай краіне?**

— Падмурак гэтай стабільнасці складаюць тыя канфесіі, якія ўнеслі істотны ўклад у гістарычнае станаўленне і развіццё духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа. Асаблівая роля традыцыйных рэлігій і канфесій адзначана і ў прэамбуле Закона аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях. Сёння кожны народ, кожная нацыя імкнуцца абараняць сваю духоўную спадчыну і на гэтым падмурку развіваць сваю кулыуру.

Верацярпімасць, павагу да чалавечай годнасці фарміравалі ў беларускага народа праваслаўе, каталіцызм, іудаізм, іслам. Людзі стагоддзямі тут жылі разам, і, дзякуючы іх узаемадзеянню склаўся непаўторны беларускі менталітэт.

**— Былі апасенні, што новы Закон, падкрэсліваючы асаблівую ролю пяці канфесій, справакуе абвастрэнне міжрэлігійнага жыцця...**

— Гэтага не было і не будзе. Бо новы закон дазваляе ўзаемадзейнічаць дзяржаве з гэтымі гістарычна-традыцыйнымі канфесіямі, каб не толькі захаваць набытае, але і выкарыстаць патэнцыял гэтых канфесій для духоўнага адраджэння народа. Для развіцця трэба абапірацца на трывалае, на тое, што мае глыбокія карані. Так робіць увесь цывілізаваны свет. Ніводная з тых канфесій, якія з'явіліся параўнальна нядаўна, не маюць тут гістарычных каранёў. Важна і тое, што ніхто з традыцыйных канфесій нікому не навязвае сваю волю. Дзеля чаго падкрэслена ў прэамбуле вызначальная роля праваслаўя? Ды яго нельга аддзяліць ад жыцця беларускага народа вось ужо больш за тысячу гадоў. Побыт, менталітэт беларусаў непарыўна звязаны з хрысціянскімі традыцыямі. Больш за сем стагоддзяў налічвае на гэтай зямлі і гісторыя Рыма-каталіцкай царквы. Шэсць стагоддзяў тут існуе і ўносіць свой уклад у нашу гісторыю іудаізм. З часоў Вітаўта жывуць на гэтым зямлі і служаць ёй мусульмане. Нядаўна мы адзначалі 600-годдзе першых татарскіх паселішчаў на землях Беларусі. Грамадскасць летась узгадвала 450-годдзе рэфармацыйнага руху на Беларусі, прамымі духоўнымі на-шчадкамі якога з'яўляюцца лютэране. У артыкуле 15 Канстытуцыі адзначана, што дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны беларускага народа. Гэтая спадчына якраз грунтуецца на традыцыях, якія напрацавалі вышэйназваныя канфесіі. Разам з тым перад законам усе канфесіі роўныя. Канфесіі роўныя, але не роўнавялікія. Новы закон быў прыняты, каб улічыць нашу айчынную канфесійную спецыфіку, улічыць ролю тых канфесій, якія стагоддзямі прысутнічалі тут, і адначасова ўлічыць еўрапейскі вопыт царкоўна-дзяржаўных адносінаў. Закон адпавядае ўсім нормам міжнароднага права ў сферы свабоды рэлігій і дазваляе гарманізаваць адносіны дзяржавы і царквы.

**— 2003 год — першы год дзеяння новага закона. пацвярджае гэтыя словы?**

— Так, за гэты год не ўзнікла нават прычын для канфліктных сітуацый на рэлігійнай глебе. Закон ні ў якім разе не абмяжоўвае правы вернікаў. Ён дазваляе ў роўных умовах усім развівацца. Іншая справа, што ў сваім супрацоўніцтве дзяржава мае праеа выбару і аддае прыярытэт тым канфесіям, якія ўнеслі найбольшы ўклад у станаўленне і развіццё духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый.

**— Паводле новага Закона ўсе рэлігійныя арганізацыі павінны прайсці перарэгістрацыю. Як адбываецца гэты працэс?**

— На сённяшні дзень перарэгістрацыю прайшлі Беларуская праваслаўная царква і ўсе 10 яе епархій. Перарэгістраваныя Канферэнцыя каталіцкіх епіскапаў і ўсе 4 епархіі Рыма-каталіцкай царквы. Прайшлі перарэгістрацыю тры іудзейскія рэлігійныя аб'яднанні, стараверская і новаапостальская цэрквы, рэспубліканскае і шэсць мясцовых аб'яднанняў хрысціян веры евангельскай, адвентысты сёмага дня, Сведкі Іеговы, рыхтуюцца дакументы для перарэгістрацыі двух аб'яднанняў мусульман і двух евангелісцка-лютэранскіх аб'яднанняў. Да новага года перарэгістрацыю прайшлі больш чым 25 працэнтаў усіх абшчын. Тут узнікаюць некаторыя пытанні, напрыклад, з юрыдычнымі адрасамі, якія былі зарэгістраваныя на кватэрах па месцы жыхарства, з колькасным складам некаторых абшчын, але мы сумеснымі намаганнямі вырашаем гэтыя пытанні — гэта не больш чым рабочыя моманты.

**— Мінулы год адзначаны яшчэ і новай для нас формай супрацоўніцтва дзяржавы і Царквы — Пагадненнем з Беларускай праваслаўнай царквой.**

— Так, у адпаведнасці з тым, што мы ў супрацоўніцтве аддаём прыярытэты праваслаўю, па даручэнню (на сустрэчы з Сінодам у снежні 2002 года) кіраўніка дзяржавы было распрацавана і 12 чэрвеня 2003 года заключана Пагадненне аб супрацоўніцтве дзяржавы з Беларускай праваслаўнай царквой. Гэта падзея цалкам адпавядае Канстытуцыі нашай дзяржавы, яе заканадаўству, у прыватнасці, у артыкуле 8 Закона аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях адзначана, што дзяржава можа заключаць па-добныя пагадненні. Сёння ў адпаведнасці з гэтым Пагадненнем больш як 10 міністэрстваў і ведамстваў распрацоўваюць праграмы супрацоўніцтва. Па даручэнню ўрада нам да 30 сакавіка трэба гэтыя ўсе праграмы падрыхтаваць і ўключыць ў дзеянне. За Камітэтам пакінута каардынуючая функцыя. У верасні адбылося пасяджэнне Каардынацыйнага савета па выкананню гэтых праграм, які ўзначальвае старшыня нашага Камітэта Станіслаў Буко.

**— Якія змены ў жыццё грамадства павінна прынесці гэтае Пагадненне?**

— Прыярытэтнымі напрамкамі з'яўляюцца грамадская мараль, выхаванне, адукацыя, культура і творчая дзейнасць, ахова, аднаўленне і развіццё гісторыка-культурнай спадчыны. Па гэтых накірунках Беларускі Экзархат у першую чаргу будзе супрацоўнічаць з міністэрствам адукацыі, міністэрствам культуры, дэпартаментам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, аблвыканкамамі, з Мінгарвыканкамам. У нас зараз многія храмы рэстаўрuюцца, многія будуюцца з нуля, аднаўляюцца, усё гэта — наша гісторыка-культурная спадчына, і гэта клопат не толькі Царквы, але і ў першую чаргу дзяржавы. Тут намечаны сур'ёзныя мерапрыемствы на перспектыву, і нешта ўжо робіцца.

**— Што датычыцца адукацыі, то ці не прадугледжвае Пагадненне вывучэнне праваслаўя ў школах?**

— Згодна з артыкулам 9 Закона аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях, нацыянальная сістэма адукацыі носіць свецкі характар і не мае на мэце фарміравання тых ці іншых адносінаў да рэлігіі. Гэта значыць, што грамадзяне маюць права на роўны доступ да нацыянальнай сістэмы адукацыі незалежна ад іх веравызнання. Не дапускаецца ў сістэму адукацыі ананімная ці якая-небудзь іншая дзейнасць рэлігійных арганізацый. Адзінае, што могуць рэлігійныя арганізацыі — гэта супрацоўнічаць з нашымі навучальнымі ўстановамі ў пытаннях выхавання. У пазаўрочныя гадзіны, на падставе пісьмовых заяў бацькоў, так, як гэта прапісана ў заканадаўстве. Рэлігійныя арганізацыі таксама могуць адкрываць свае школы, групы, летнікі, але толькі не на базе школы. Вопыт супрацоўніцтва Царквы з сістэмай адукацыі мы ўжо маем: Свята-Ефрасіннеўскія, Кірыла-Мефодзіеўскія чытанні... Ёсць вопыт і сумеснай працы з праваахоўнымі органамі. У нас створана першае ў СНД турэмнае брацтва, дзе святары працуюць з асуджанымі і іх сем'ямі. Пагадненне дазваляе сістэматызаваць увесь гэты вопыт і адкрыць патэнцыял і Царквы, і адпаведных міністэрстваў. Калі мы кажам пра духоўнае адраджэнне беларускага народа, трэба стварыць мэгчымасць для гэтага. Пагадненне не накіравана супраць іншых канфесій, не ўшчамляе правы іншых вернікаў альбо людзей, якія не падзяляюць рэлігійныя погляды.

**— Наколькі цяжка тут пераадольваць шматгадовы атэістычны вопыт грамадства?**

— Сітуацыя мяняецца, і народ вяртаецца да сваіх вытокаў, і дзяржава разумее, наколькі важнае сёння духоўнае выхаванне. Грамадства, страціўшы духоўна-маральныя арыенціры, фактычна можа апынуцца на мяжы свайго знікнення. І калі XXI стагоддзе не стане стагоддзем духоўнага росквггу, то і перспектывы на выжыванне таксама вельмі праблематычныя. Таму мы і ідзём на супрацоўніцтва з гістарычна-традыцыйнымі канфесіямі. Усе структуры і органы дзяржаўнага кіравання таксама добра разумеюць неабходнасць гэтэга. Галоўнае тут — рабіць усё ў рамках заканадаўства і не нашкодзіць, усё дакладна выверыць. Дзеля гэтага па кожнаму накірунку, акрэсленым у Пагадненні, працуюць адпаведныя камісіі, у якія ўключаны людзі дасведчаныя — навукоўцы, практыкі. Я думаю, што гэта дасць вялікі плён. Добра і тое, што ніхто не фарсіруе працу над гэтымі праграмамі. Тэрмін на іх распрацоўку быў дадзены каля года. Само Пагадненне з'яўляецца бестэрміновым.

**— Дзяржава падтрымлівае сацыяльную дзейнасць і іншых канфесій?**

— Дзяржава вітае ўсё, што на карысць грамадству. Вядома ў рэспубліцы дзейнасць дабрачыннай каталіцкай арганізацыі "Карытас", якая мае свае аддзяленні ва ўсіх чатырох епархіях, яны актыўна займаюцца аздараўленнем дзяцей, аказаннем дапамогі дамам састарэлых, інтэрнатам. Усяго ў рэспубліцы 32 місіі, якія належаць самым розным канфесіям і непасрэдна займаюцца сацыяльнай дзейнасцю.

**Размаўляла Вольга Мядзведзева**

****************************************

Алесь ПАШКЕВІЧ

# У беларускай нацыі - адна мова

Вось і дажыліся... Вось і дагаварыліся...
Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень!
Што за дзень, спытаеце?

Ды быў такі на старадаўняй нашай зямлі, калі сяляне маглі пераходзіць ад аднаго памешчыка да другога, шукаючы лепшай долі. І што знаходзілі? Тую ж працу і той жа бізун. І пачалі казаць пра Юр'еў дзень як пра нечаканa страчаную надзею, як пра расчараванне ў пошуку лепшага і свабоднага. Думаецца, пара ўжо нам так гаварыць і пра той рэферэндумны дзень 95-га, пасля якога ў Беларусі было ўведзена дзвюхмоўе...

Мы, як заўсёды, - самыя разумныя і дальнабачныя. Мы і багацейшыя за ўсіх, да прыкладу, за "старэйшых" усходніх братоў, бо яны ж, бачыце, маюць толькі адну рускую мову, а мы - і рускую, і сваю, родную. І гэта давялося пачуць з самых высокіх вуснаў! Так, бедны брат... Толькі ж ці вядома нам, колькі моў мае яго імперыя? Хай хто пройдзецца - да Сахаліна - ды палічыць!

Аднак што нам да іх, што, скажам, да татараў, якія - і ў Маскве жывучы (да прыкладу, старшыня Саюза пісьменнікаў Татарстана) - гавораць у сваіх сем'ях па-татарску? І не да таго нам, што расіяне гавораць

"Беларусь" і "Василь", бо мы ж - правільней за ўсіх: "Белоруссия", "Василий"...

Мы ж - мудрэй. У нас вось і асноўныя тэлеканалы загаварылі ўраз "на нашем и великом", ды і так упэўнена, што старшыня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі ўжо не чуе ні голасу пісьменніка-ветэрана Пятра Прыходзькі ў абарону мовы на нацыянальным тэлебачанні, ні агульнай заявы пратэсту Рады Саюза пісьменнікаў, як і пратэстаў Таварыства беларускай мовы ды іншых грамадзян. Ён, старшыня, упэўнена ў "Звяздзе" прызнаўся, што, маўляў, было праведзена апытанне і што большасць грамадзян хочуць слухаць навіны па-руску! А што было б, калі па нейкім апытанні большасць захацела б замест навін глядзець порнафільмы? Зрэшты, АНТ на той шлях і выходзіць: закупіла за дзяржаўныя грошы скандальна-матныя "Окна"... А беларускамоўны глядач на колішнім "БТ" цяпер прыроўнены да глуханямога: у інфармацыйных перадачах толькі "цітры" бягуць па-беларуску!

А радыё - асабліва FM-станцыі? А беларускамоўныя маладзёжныя газеты - дзе? Дзе колішняя "Чырвоная змена"? Затое ёсць і "Знамя юности", і "Переходный возраст". І чаго толькі няма, бо мы ж - багатыя!

А Юр'еў дзень до-о-оўгі! Два гады таму адменены абавязковы выпускны экзамен па роднай літаратуры, чаго не было і ў часы Беларусі савецкай. А роднае, як разумееце, не можа быць на іншай мове, хоць і самай брацкай. А нядаўна набыў юрыдычную сілу тыповы вучэбны план за курс базавай агульнаадукацыйнай школы, паводле якога гадзіны на вывучэнне беларускай мовы (і літаратуры) зноў скарачаюцца. Беларускамоўныя школы і класы ў Мінску можна пералічыць на пальцах. У маім родным Слуцку з 13 школ беларускамоўная толькі адна (ды і ці не толькі таму, што дырэктар у ёй - рускі).

І мы не задумваемся ўжо, што на апошнім перапісе роднай мовай беларускую назвалі больш за 80% жыхароў Беларусі. І не гаворым пра тое, што беларуская мова - мова тытульнай нацыі...

Мы чакаем свайго Юр'ева (чытай: Ленінага, Хрушчовага і г.д.) дня. Вось і на білінгвізм згадзіліся, яго просім. Хоць - без дыпламатыі - які ў нас білінгвізм?! Якія "два основных языка нации"?! Нацыя - не змяя з дзвюма языкамі-мовамі! У беларускай нацыі - адна мова! Мова, якую беларусы праз стагоддзі ўзбагачалі і развівалі, на якой стагоддзямі ствараліся песні і казкі, на якой яны вяселіліся і гаравалі, якая, урэшце, і з'яднала наш народ, адасобіла яго ад Захаду і Усходу, ад Поўначы і Поўдня! Калі сёння Беларусь з розных прычын і гаворыць на дзвюх мовах, дык гэтыя мовы - беларуская і трасянка. Так! Славутая трасянка, якая - як бы ні хацелася - не становіцца рускай (расійскай). Гэта мінулыя стагоддзі, гэта сотні мільёнаў нашых продкаў адклікаюцца ў нашых вуснах невынішчальным крывіцка-дрыгавіцкім акцэнтам, з якога смяюцца нашы ўсходнія браты і сёстры. І, калі пашчырасці, па-руску-расійску ў Беларусі гавораць менш, чым па-беларуску. Проста многім здаецца, што яны гавораць па-руску.

І нікуды мы ад гэтага не дзенемся. І павінны змірыцца з тым, што моўны Юр'еў дзень нічога новага не прынясе. Што гэта, урэшце, непрыгожа і няправільна, каб Беларусь і сёння жыла па крылатым выслоўі Дземянцея: "Кто как хаціт, так і гаварыт"... Але мы - цярплівыя. Ды - наймудрыя! І што нам сёння да Скарыны, які прынёс першую кнігу ва ўсёй усходняй славяншчыне - кнігу на мове сваёй роднай Полаччыны, бо яго "міласцівы Бог з таго языка на свет пусціў".

І што нам сёння да класіка-першапачынальніка Багушэвіча, які мову называў адзежай душы народу, які і нас папярэджваў: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!"

І што нам сёння да прарока Купалы, які і ў нас пытае:

Чаго вам хочацца, панове?<br>
Які вас выклікаў прымус<br>
Забіць трывогу аб той мове,<br>
Якой азваўся беларус?<br>
Чаго вам дзіка яго мова?<br>
Паверце, вашай ён не ўкраў...

* * *

Свабоднае слова ты, роднае слова!<br>
Зайграй жа смялей, весялей!<br>
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,<br>
Жывеш ты на хвалу людзей.

І што нам да Багдановіча і да соцень іншых народных і нацыянальных, я ўжо не кажу пра сучасных, бо ў нас, як чуеце з першых вуснаў, ужо, аказваецца, і сучаснай беларускай літаратуры не існуе! І хто з нас прыслухаецца да горычнай трывогі беларускай паэтэсы з сучаснай Полаччыны Леры Сом:

Кожны мае свой страх, як атрутную кветку,<br>
Колькі ўласную волю не дакарай.<br>
Я баюся прачнуцца рускамоўнай паэткай,<br>
Опевающей Северо-Западный край...

Няма прадмета - няма пытання. І праблемы. Ды - наперад дружным крокам!

І каму сказаць, што без беларускай мовы не было б і сённяшняй Беларусі? Не было б і нацыі нашай, і, адпаведна, эканомікі беларускай. Я не пра далёкія часы Вялікага княства Літоўскага, у якім яшчэ не ведалі слова білінгвізм і ў якім Статут-канстытуцыя быў пісаны на адной мове - старабеларускай. Я - пра часы БНР-БССР. Толькі таму, што народ на захадзе колішняй царскай імперыі гаварыў па-свойму, думаў па-свойму, а яго роднамоўная інтэлігенцыя ўсвядоміла агульную адметнасць, - і паўстаў паміж Польшчай і Расіяй "клочок земли" - дзяржава Беларусь. І не далёкасяжная ленінская нацыянальная палітыка прывяла да таго. Сотням тысяч нашых суайчыннікаў беларускамоўныя языкі ў 30-я адрываліся, колькі людзей знішчана! Колькі сапраўдных беларусаў закатавана! Але тое, да чаго яны імкнуліся, да чаго сваімі жыццямі ішлі, - нас не цікавіць.

А тут ужо і "аднамоўныя" браты старую песню зацягнулі. "Я вообще считаю, что мы один народ, разница между русскими и белорусами гораздо меньше, чем разница между восточными и западными немцами или северными и южными японцами, - упэўнена сцвярджае прэзідэнт расійскага фонда "Палітыка" Вячаслаў Ніканаў ("АиФ", 2003, №38). - И было бы нелепо разойтись из-за каких-то политических или экономических разногласий. А они, к сожалению, неизбежны. Мне кажется, что у Александра Лукашенко просто нет желания идти на более тесный союз".

А мы маўчым. А маўчанне - як згода. Бо мы - самыя мудрыя, хоць, праўда, і забыліся, як Хрушчоў на прыступках нашага БДУ гарантаваў: беларусы першымі ўступяць у камунізм, бо... адмаўляюцца ад сваёй мовы і гавораць па-руску.

І мы нібыта не ведаем, што можна памяняць памешчыка, можна цяпер нават і пол змяніць... Аднак нам - як і цяляткам - той "лысінкі", з якой нараджаемся і выходзім у свет, не пазбавіцца. І мовы, і акцэнта. Хіба толькі разам з галавой?

Але пра гэта яшчэ ў XIX стагоддзі папярэджваў хрэстаматыйны Багушэвіч...

А ў беларускай нацыі - адна мова. Калі яна пакуль яшчэ - нацыя.

****************************************************

# Беларуская эміграцыя: зьмена пакаленьняў

Беларускія асяродкі дзейнічалі найбольш актыўна ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі. Паваенная эміграцыя ў гэтых краінах зрабіла найбольш для захавання беларускай ідэі. Менавіта там сучасны працэс змены пакаленняў найбольш адчувальны. Тут, можа, не столькі гаворка пра змену пакаленняў, колькі пра змену характару той хвалі эміграцыі, якая прыехала пасля Другой сусветнай вайны і характару той хвалі, якая цяпер наплывае ў Амерыку з Беларусі.

Першая хваля дзякуючы сваёй нацыянальнай свядомасці здолела стварыць у Амерыцы арганізацыйную і матэрыяльную базу. Былі заснаваныя свае арганізацыі, пабудаваныя грамадскія цэнтры, заснаваныя перыядычныя выданні.

Да гэтай арганізацыйна-матэрыяльнай базы апошнімі гадамі пачалі далучацца новыя эмігранты з Беларусі. Гэта ўжо людзі іншага крою. Гэта людзі пераважна маладога веку, з добрай асветаю, але ў шмат якіх выпадках без вялікай нацыянальнай свядомасці і без навыкаў грамадскай працы. Частка з іх далучаецца да беларускіх арганізацый. Сёння можна пабачыць у беларускіх асяродках у Клііўлендзе, у Чыкага, Нью-Ёрку, Саўт-Рыверы, Нью-Брансвіку людзей з новай хвалі беларускай эміграцыі, якія актыўна ўдзельнічаюць у працы беларускіх арганізацый. Яны забяспечаць будучыню, працяг беларускай прысутнасці ў Амерыцы. Але ў Чыкага некаторыя падаюць галасы, што навошта нам беларуская мова. Вось гэты зрусіфікаваны элемент, які прыбывае з Беларусі, недаацэнвае вартасці нацыянальнае мовы. Паўстае адразу праблема, можа, нават канфлікт. Тым не менш, традыцыя беларускай нацыянальнай справы захаваецца. Паводле тых з'яў, якія назіраюцца цяпер, беларуская эміграцыя ў Амерыцы арганізацыйна выжыве. Беларусы ў Амерыцы будуць працягваць сваю дзейнасць.

У беларускай эміграцыі Амерыкі існуе, як, магчыма, і ва ўсёй беларускай дыяспары, пэўны перарыў пакаленняў. Людзі, якія выехалі пасля вайны і людзі, якія пачалі прыязджаць у 90-я гады, а паміж імі ёсць недахоп эмігрантаў сярэдняга ўзросту. Гэта адчувальна. Людзі старэйшыя ўжо маюць менш сілаў, людзі маладзейшыя маюць менш ведаў. І гэтую праблему адчуваюць не толькі беларускія арганізацыі ў ЗША, але і ў іншых краінах.

У Канадзе таксама адсутнічае пакаленне людзей сярэдняга веку, таму даводзіцца маладым, якія прыязджаюць, вучыцца не ў бацькоў па ўзросту, а ў дзядоў. Зараз для тых, хто цяпер прыязджае, рэлігійныя ідэалы, царква – гэта зусім іншае. Даводзіцца ім тлумачыць, што гэта павінна быць, што гэта наша царква – прыходзьце. Беларуская прысутнасць у Канадзе захаваецца. У людзей ёсць патрэба ў самаідэнтыфікацыі. У Беларусі ўсе беларусы, а тут гэта даволі востра адчуваецца. Адзінае, што перашкаджае, – у маладога пакалення на першым часе ёсць больш важныя справы, чым грамадскія. Людзі прыязджаюць, пачынаюць жыццё спачатку, і таму да грамадскай працы ім далучыцца цяжка. Але з часам гэта зменіцца.

Ёсць людзі, якія прыехалі некалькі гадоў таму, якія стаяць на нагах, – гэта якраз тыя людзі, якія пераймаюць зараз традыцыі, робяць грамадскую працу. Зараз даволі актыўна працуе Атаўскі аддзел Згуртавання беларусаў Канады. Таксама Згуртаванне беларусаў у Квебеку, яны выдаюць часопіс "Прамень". Гэта перыяд перадачы справы ад адной генерацыі да другой, і гэты працэс пайшоў.

Менш аптымістычна пачуваецца старшыня Федэральнай Рады беларусаў Аўстраліі сп. Яўген Груша: "Аўстралія амаль не бярэ новых эмігрантаў, няма наплыву новай эміграцыі. Нашыя дзеці таксама адышлі, яны ажаніліся з чужымі, памяшаліся і асіміляваліся. Замала нас было тут. Прыязджаюць, некалькі чалавек прыйшлі, але іх не цікавіць Беларусь, яны ў пагоні за далярамі. Зрусіфікаваныя, для іх без Расіі не можа быць Беларусі. У нас у Мельбурне няма новых. Памёр, напрыклад, Павал Гуз – сакратар Федэральнай Рады, няма каму замяніць. У Адэлаідзе 4 сям'і далучылася, Віктар Кавалеўскі ўзяўся за працу. У Сіднеі таксама далучыліся новыя эмігранты. Мы прыехалі голыя ў 1949 годзе, але ўсё роўна збіраліся разам і святкавалі нацыянальныя святы, было больш актыўнасці. Я заўважыў, што прыезджыя абсалютна не вераць у Бога".

Трывожная сітуацыя назіраецца таксама і ў Вялікабрытаніі, дзе раней беларускае жыццё вiравала амаль ва ўсіх буйных гарадах. На сённяшні дзень трымаецца толькі Лондан. Дамы ў Брадфордзе і Манчэстэры мусілі прадаць. Гады зрабілі сваё, адышлі нашыя людзі, мала засталося. Але ў Лондане яшчэ працуе Беларускі дом, працягвае працу да сённяшняга дня, самае галоўнае там – Бібліятэка імя Скарыны.

*Паводле інтэрв'ю Янкам Запруднікам, Віталям Зайкам, Русланам Качатковым, Яўгенам Грушам, Аленай Міхалюк*<br>
*Радыё "Свабода". 30 снеж. 2003*

****************************************************

# Беларусь у сусветнай культуры

У адрозненні ад гісторыі Украіны, Літвы, Польшчы і Расіі, гісторыя Беларусі прадстаўлена ў бібліятэках свету надзвычай мізэрна. Больш за тое, замежныя навукоўцы і нават гісторыкі вельмі мала ведаюць пра беларускую гісторыю і адпаведна на такім жа ўзроўні яе выкладаюць. У выніку прэстыж нашай краіны вельмі моцна церпіць, і мы застаемся чорнай правалінай на інтэлектуальнай мапе свету.

Адна з галоўных прычын такога становішча -- адсутнасць канцэптуальнай інфармацыі пра нашую краіну, даступнай у сусветных бібліятэках і выкладзенай на адной з агульнасусветных моў (англійскай). Амбасадары і ўдзельнікі іншаземных дэлегацый з цяжкасцю знаходзяць даступную літаратуру па гісторыі Беларусі. Польскія навукоўцы на канферэнцыях не разумеюць, чаму беларусы пры даследванні сваёй гісторыі спасылаюцца на раскопкі ў Вільні, некаторыя нямецкія даследчыкі перыяду Адраджэння не ведаюць пра Францыска Скарыну. І з падобнай недасведчанасцю замежных навукоўцаў можна сустрэцца на кожнай міжнароднай канферэнцыі. Прычына ў тым, што мы не папулярызуем сваю гісторыю ў свеце.

Справай гонару для ўсіх беларусаў стала прадставіць сваю вельмі багатую гісторыю і культуру на сусветнай арэне. Нам ёсць чым ганарыцца.

Найбольш даступны і неабходны крок – навукова-папулярнае выданне гісторыі Беларусі на англійскай мове, папулярызацыя і распаўсюджанне гэтай кнігі па бібліятэках і навуковых цэнтрах Еўропы і Амерыкі.

Мы прапануем выдаць на англійскай мове кнігу па гісторыі Беларусі, аўтарам якой бачыцца слынны беларускі навуковец, гісторык, аўтар вялікай колькасці выданняў па гісторыі Беларусі Генадзь Сагановіч.

**Згуртаванне "Бацькаўшчына" будзе ўдзячна ўсім, хто далучыцца да нас і падтрымае гэты патрэбны для Беларусі праект.**

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

****************************************************



# Салдат Монтэ-Касіна

Кажуць, каб варта пражыць жыццё, трэба выгадаваць сына, пасадзіць дрэва і пабудаваць дом. Якуб Конан выгадаваў сына, пасадзіў не адзін дзесятак дрэў і пабудаваў тры дамы.

**Бацькаўшчына**

Мой зямляк Якуб нарадзіўся ў сакавіку 1913 года ў сям'і, дзе было шасцёра дзяцей. Маленькая вёсачка Міхалова, у якой было 10 двароў, так шчыльна прытулілася да вёскі Сакольнікі, што нават вуліца агульная. Калі 1 верасня Гітлер распачаў другую сусветную вайну, то першай пад ударамі фашыстаў апынулася Польшча. Польскі ўрад аб'явіў мабілізацыю, якая распаўсюджвалася і на заходнія раёны Беларусі. Так Якуб Канстанцінавіч апынуўся сярод салдат Войска Польскага, якое першым паглядзела ў вочы вайне. Польская дзяржава апынулася ў даволі цяжкім становішчы. Як толькі Гітлер пачаў акупацыю Польшчы, з Усходу пайшлі савецкія войскі з мэтай вызвалення раёнаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Частка польскага войска з раёна Усходняй Прусіі была перакінута на абарону Львова. Там апынуўся і Якуб. А ў хуткім часе з часткай сваіх саслужыўцаў быў узяты ў палон савецкімі войскамі.

**Жыццё пад канвоем**

Першым лагерам, у якім апынуўся Якуб Канстанцінавіч, быў лагер у горадзе Шапятоўка на Украіне. Праўда, там затрымалі вязняў усяго толькі на некалькі тыдняў. Потым пагрузілі ў таварныя вагоны і павезлі ў бок Крывога Рога, дзе іх чакалі руднікі імя Арджанікідзе, імя Леніна. З гэтага часу з імі абыходзіліся як з "ворагамі народа". Вязням не давялося доўга затрымацца ў цёплых мясцінах Украіны. Не ведалі яны, што чакае іх наперадзе. Больш таго, спадзяваліся нават на вызваленне. Але ў маі 1940 года іх прывезлі на чыгуначную станцыю; дзе чакаў звычайны "таварняк", ці "цялятнік", як гаварылі ў народзе. З абодвух канцоў саставу стаяў узброены канвой. Закрыўшы вагоны, везлі чыгункай, потым везлі машынамі. Спыніліся ў Комі ССР на беразе аднаго з прытокаў Пячоры. "Высадзілі на адкрытым месцы пры 70-градусным марозе, — расказвае мой субяседнік. — Зрабілі баракі, якія не ацяпляліся. Яды не было. З першых дзён людзі сталі паміраць ад голаду і нясцерпнага холаду. Той, хто стаяў яшчэ на нагах і мог нешта рабіць, быў падобны на шкілет. Пазней сталі карміць: раніцай паўлітра супу, вечарам удвая больш. Але і гэта не паправіла становішча. Людзей апанавалі вошы. Па загаду Сталіна, працавалі на будаўніцтве чыгункі. Кожны дзень закопвалі памерлых. Ямы капалі тыя, хто яшчэ рухаўся, але гэта доўга працягвацца не магло: знясіленыя вязні не маглі падняць лом, каб разбіць вечную мерзлату, і людзей проста засыпалі снегам. Працавалі па 12-14 гадзін у суткі, а калі надыходзіла ноч – спаць не клаліся, каб не замерзнуць. Бегалі адзін за другім па бараках, каб хоць як-небудзь сагрэцца. Праз некалькі месяцаў нас засталося ў жывых толькі палавіна. Але нас зноў пагрузілі ў "таварняк". Як ні цяжка было пераносіць голад, усё ж мы хацелі толькі аднаго: каб перавезлі нас у больш цёплае месца... Перавезлі ў Котлас.»

**Вайна. 1941 год**

"Як ні парадаксальна, але выратавала нас ад смерці вайна, распачатая супраць Савецкага Саюза ў чэрвені 1941 года, — расказвае далей Якуб Канстанцінавіч. – Сталін пагадзіўся перадаць нас зноў польскаму войску. Перад выездам з Котласа нас прымусілі распранулца да апошняй кашулі. Агледзелі. Потым дазволілі апранулца, але фуфайкі, якія выдалі ў Комі, у нас забралі. Я застаўся ў кашулі і польскім мундзіры. На гэты раз нас павезлі ў бок Масквы. Там нас сустрэў генерал Войска Польскага і сказаў: "Вы свабодныя, вы будзеце цяпер у Войску Польскім".

**На Блізкім Усходзе**

Праз Саратаў, Кіргізію, Краснаводск мы апынуліся на ўзбярэжжы Каспійскага мора. На параходзе "Жданаў" прыехалі ў іранскі порт Пахлеў, адтуль у Ірак. У цёплых краінах мы праходзілі курс рэабілітацыі. Пасля сталінскіх лагераў у Расіі нас адкормлівалі і папраўлялі наша здароўе. Як адчулі сябе лепш, пачалі падрыхтоўку да баёў. Не магу забыць тых часін, калі мы былі ў Палесціне. Іерусалім упрыгожаны дзесяткамі храмаў розных канфесій, вежы якіх ўзносяцца высока над панарамай горада. Я прайшоў па вуліцы, па якой крочыў у свой час Ісус Хрыстос, несучы на плячах цяжкі крыж. Памаліўся, папрасіў міласці Божай...

**У Італіі**

Праз Егіпет з горада Порт-Саід па Міжземным моры прыплылі ў італьянскі горад Таронта. Там і пачаліся баі. Быў 1942 год. З баямі мы прайшлі амаль усю Італію...

**Чырвоныя макі Монтэ-Касіна**

Мушу заўважыць, што кожны, хто ведае гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, не можа не ведаць, што такое Монтэ-Касіна. У Расіі Сталінград, Курская Дуга, у Італіі – Монтэ-Касіна. Па сутнасці сваёй, гэта невялікі бальнеалагічны курортны горад на паўночны захад ад Фларэнцыі. У баях у раёне гэтага італьянскага гарадка палегла амаль уся 5-я польская дывізія. У гэтым вогненным пекле апынуўся і мой субяседнік. Глытаючы камяк, які распіраў горла, Якуб Канстанцінавіч успамінае: "Забыць такое немагчыма. Я быў у палку лёгкай артылерыі. Перад намі выступіў англійскі генерал і сказаў: "Салдаты, вы не ведаеце, што чакае вас у гэтую ноч... У многіх дамах не дачакаюцца сыноў, братоў... З богам!". Гэта была ноч на 10 мая 1944 года, калі ў ваколіцах горада цвілі чырвоныя макі. Гітлераўцы ўмацаваліся ў гарах, іх пазіцыя была больш зручная. Мы ж знаходзіліся на раўніне. Артпадрыхтоўку праводзілі толькі ноччу, пушкі закопвалі ў зямлю. У гэтую ноч я выпусціў з пушкі каля 800 снарадаў. Стваль награваліся так, што на іх лілі халодную ваду, каб астудзіць. Горад быў поўнасцю спалены. Пасля таго, як нашыя танкі абышлі ворага з тылу і пайшлі на варожыя пазіцыі, наступіў карэнны пералом у баі. Нам удалося захапіць у палон камандуючага фронтам. Хоць і з вялізнымі стратамі і ахвярамі, перамогу мы ўсё ж вырвалі. Там мы і сустрэлі перамогу. Званілі ўсе касцёлы! Чуліся крыкі радасці, гучалі мірныя стрэлы.

**Пасля вайны**

У Італіі Якуб Канстанцінавіч быў да 1947 года. На маё пытанне, што там рабіў, адказаў: "Нічога! Мы адпачывалі. Нам сказалі, што мы заслужылі адпачынак, і мы адпачывалі. Нас кармілі, мы былі апранутыя, мелі грошы ў кішэні. Я часта заходзіў у буфет, дзе працавала італьянская дзяўчына Марыя. Мы пазнаёміліся, а ў хуткім часе адчулі, што кахаем адзін аднаго. Да таго часу я ўжо нядрэнна валодаў італьянскай моваи. Быў запрошаны ў сям'ю маёй каханай, дзе нам далі згоду на наш шлюб. У корпусе згоду далі і мне. Але... лёс распарадзіўся зусім інакш. Праз тыдзень наш полк перасдалі ў Англію, а мы да гэтага часу не паспелі ўзяць шлюб. Бюракратычныя парогі пасольстваў так і не дазволілі нам злучыць лёсы.

У Англіі амаль два гады мы таксама адпачывалі. Я меў ваенную форму, цывільную выдалі таксама: паліто, шляпу. Як і ў Італіі, мы маглі застацца там жыць. Час ад часу я ўстаўляю ў расповяд былога воіна і пакутніка пытанні:

— Вы былі ў многіх краінах, дзе больш за ўсё вам падабалася?

— У Англіі. Там мы не ведалі ні злодзеяў, ні бандытаў. Адчыненыя магазіны ноччу ніхто не рабаваў. Народ вельмі добры, высокая культура.

— Тады чаму вы там не засталіся?

Спужаўся англійскага надвор'я з бясконцым туманам і вадой. Тым больш, пасля цёплай і ласкавай Італіі. Увогуле, глупства дапусціў. У далейшым аб гэтым пашкадаваў.

**У далейшым**

Кожны тыдзень з Ліверпуля адыходзіў параход у Гданьск. Нам сказалі, што, хто хоча, можа выехаць у іншую краіну. Спачатку я і не думаў выязджаць, але, калі быў аб'яўлены апошні параход, – я рашыўся. У Гданьску нас сустрэлі савецкія таварышы ў ваеннай форме. Праўда, на Бацькаўшчыну, у роднае Міхалова, я вярнуўся. Ажаніўся, пабудаваў дом. А 1 красавіка 1951 года як "вораг народа" з жонкай і 5-месячным сынам Колем на руках быў вывезены ў Іркуцкую губерню. Там прабыў 8 гадоў, будаваў абаронныя заводы... Былі там і палякі, якія ваявалі, як і Якуб, супраць фашыстаў. У далейшым палякаў забрала Польшча, а беларусаў і ўкраінцаў не адпусцілі.

За працавітасць майго земляка ў Сібіры паважалі, ён даслужыўся нават да прараба на будаўніцтве. Пасля некалькіх лістоў у Маскву і Мінск пакутніку дазволілі выехаць на Радзіму. Цяпер Якуб Конан жыве ў пасёлку Беразінскае з сынам Мікалаем, нявесткай і ўнучкай. Тут ён пабудаваў яшчэ адзін (у сваім жыцці ўжо трэці) дом, і, як ён сам зазначыў, усе тры дамы вокнамі на Усход. Пра мужнага змагара ў Польшчы не забыліся: выплачваюць пенсію, а ў 1994 годзе атрымаў запрашэнне ў Італію на 50-гадовы юбілей бітвы пад Монтэ-Касіна. Не паехаў па стану здароўя, хаця вельмі хацелася.

— Вы лічыце сябе шчаслівым чалавекам? — пытаюся напрыканцы размовы.

— Я шмат разоў глядзеў смерці ў вочы. І калі я думаю пра тыя жахі, якія давялося перажыць падчас сталінскіх лагераў, мне здаецца, што няшчасце было на кожным кроку. І ўсё ж... побач ішло шчасце. Мяркуйце самі, я ж не быў нават паранены ў той час, калі таварышы падалі мёртвымі. Я выжыў у лагерах, калі іншыя паміралі на хаду. Калі нас везлі ў бок Масквы, я быў чуць жывы ад страшэннай смагі, а потым напіўся вады ў нейкім возеры і атруціўся. Я ўпаў. У такіх стралялі. Падышлі і да мяне, каб зрабіць тое самае, але гасподзь адвеў іх рукі ад выстралу, і я застаўся жыць...

**Кашчунства**

Я трымаю ў руках ваенны білет, які выдалі Якубу Канстанцінавічу ва Усольскім райваенкамаце Іркуцкай вобласці.

У графе "Звесткі аб удзеле ў Вялікай Айчыннай і іншай войнах", дзе трэба было адзначыць, у складзе якой часці, пасады і іншае, напісана: "Не участвовал" (!). І гэта дзікае кашчунства.

Калі я ўслых прачытала запіс Усольскага ваенкамата "не участвовал" (у вайне), Якуб Канстанцінавіч глядзеў пытліва на мяне запаўшымі вачыма і плакаў. Было зразумела: як пасля фізічных здзекаў цяжка яму цярпець вось такі маральны здзек – "не участвовал". Гэта пасля ўсяго перажытага і перанесенага!

*Люба. КАРПОВІЧ.*

## Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" на 2003 — 2004 г.

| | |
|---|---|
| Натальля і Анатоль Лук'янчык | $500.oo |
| Таня і Др. Міхась Жылік | $200.oo |
| Славік Шабовіч | $180.oo |
| Міхась Каленік | $100.oo |
| Мікола Сагановіч | $100.oo |
| Арсені Монід (Канада) | $100.oo |
| Уладзімір Ракуць | $100.oo |
| Ірэна Ільчук | $80.oo |
| Др. Барыс Рагуля (Канада) | $76.84 |
| Галіна Руднік (Нямеччына) | $75.oo |
| Івонка Сурвілла (Канада) | $60.oo |
| Анатоль Тальянскі | $60.oo |
| Васіль Плескач | $50.oo |
| Элеонора Пітушка (Канада) | $50.oo |
| Аўген Кабяко | $50.oo |
| М. В. | $50.oo |
| Аўген Завістовіч | $50.oo |
| Мікола Латушкін | $50.oo |
| Ірэна Цупрык | $50.oo |
| Марыя Гаўрылюк (Канада) | $50.oo |
| Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |
| Бэрніс і Георг Касьцюкевіч | $50.oo |
| Мікола і Валя Сьнежко | $50.oo |
| Багдан Паук | $50.oo |
| Жорж Наумчык | $40.oo |
| Алексы Кузьміч | $30.oo |
| Фёдар Паўлавец | $30.oo |
| Анатоль Пранцэвіч | $30.oo |
| Сьцяпан Махакей | $30.oo |
| Георг Рэпэцкі (Канада) | $30.oo |
| Элеонора Норык | $30.oo |
| Віталі Церпіцкі | $30.oo |
| А. Маркевіч (Канада) | $20.oo |

# Помнік Я. Коласу й Я. Купалу ў Варшаве

У Варшаве адбылася сустрэча ініцыятыўнай групы па ўзьвядзеньню помніка Якубу Коласу й Янку Купалу ў польскай сталіцы.

У склад ініцыятыўнай групы па ўзьвядзеньню помніка беларускім пісьменьнікам уваходзяць вядомыя асобы, заслужаныя для беларускай і польскай культуры. Чальцамі групы зьяўляюцца, у прыватнасьці, кіраўнік Катэдры Беларускай Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту, прафэсар Аляксандар Баршчэўскі, і пісьменьнік, аўтар перакладу на польскую мову паэмы Якуба Коласа "Новая Зямля" Часлаў Чэнюх.

У ходзе сустрэчы прадстаўнікі ініцыятыўнай групы й Амбасадар Беларусі ў Польшчы Павал Латушка зьдзейсьнілі паездку па Варшаве з мэтай падбору адпаведнага месца для ўстаноўкі помніка ў Варшаве. Як паведаміў Беларускай Службе Радыё Паленія прэсаташэ пасольства РБ у Варшаве Ўсевалад Глушкоў, з разьмяшчэньнем выбраных месцаў будзе азнаёмлены Галоўны Архітэктар Варшавы, які й прыме канчатковае рашэньне.

У размове з журналістам БС РП прафэсар Аляксандар Баршчэўскі зазначыў, што ўсе месцы, зь якімі азнаёміліся чальцы ініцыятыўнай групы па ўзьвядзеньню помніка, разьмешчаны ў культурных і гістарычных зонах польскай сталіцы, у самым цэнтры горада.

Дата ўстаноўкі помніка Якубу Коласу й Янку Купалу ў Варшаве залежыць ад уладаў польскай сталіцы й ад фінансаваньня праекту, хоць, як неафіцыйна ўдалося даведацца БС РП, зь фінансавым бокам мерапрыемства праблем быць не павінна.

Валера Саўко, БС РП, Варшава

*СВАБОДУ НЕ ВЫМОЛЬВАЮЦЬ ці ВЫПРОШВАЮЦЬ, а СІЛАЮ ЗАВАЁЎВАЮЦЬ!!!*

IN MEMORIAM

*Сьв. Памяці*

## Даніла ШФЭФЕЛЬ

18-га каст. 1920 — 14-га каст. 2003

Пасьля доўгай хваробы адыйшоў у вечнасьць адзін з актыўных арганізатараў Беларускай Праваслаўнай парафіі "Сьв. Юрыя" ў Чыкага, ЗША, якая належала па ініцыятыве св. п. протапрасьвіцера Мікалая Лапіцкага да Грэцкай Праваслаўнай Архдыяцэзіі ў Амэрыцы.

Паніхіду па памершаму ў царкве "Сьв. Юрыя" адправіў настаяцель прыхода а. Дзімітры Башко, разам з а. А. Мірановічам.

Пакойнік нарадзіўся ў ваколіцах Кобрыня, пахаронены на магільніку "Эльмвуд" у Чыкага.

У вялікім смутку заставіў жонку Ліду, дачку Лізавету і ўнукаў. *Мікола Латушкін*

IN MEMORIAM

*Сьв. Памяці*

## Ірэна КАСАТЫ і Пятро КАСАТЫ

Ірэна Касаты адыйшла ў вечнасьць у 2002 годзе, а яе муж Паўло Касаты памёр у 2003 годзе, — абодва ў Каліфорніі, ЗША.

Пакойнікі паходзілі з Беларусі, з цяперашняе Віцебшчыны.

Пакінулі ў смутку родных і сваякоў у ЗША і ў Беларусі.

**Вечная Памяць!**

*************************************

# *Нам Пішуць...*

### ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ САВЕТ ДЭПУТАТАЎ

Аб аднаўленні помніка гісторыі і архітэктуры Свята-Успенскага сабора ў Віцебску

Шаноўныя сябры!

Яскравай праявай духоўнага і маральнага адраджэння грамадства з'яўляецца актыўнае аднаўленне помнікаў гісторыі і культуры(... ) На вялікі жаль, пад час бяздумнага і злачыннага па сваёй сутнасьці ваяўнічага атэізму Успенскі сабор быў зруйнаваны, а на яго месцы ўзведзены корпус станкабудаўнічага завода(...)

Цяпер тут узводзяцца сцены, фінансаванне работ ажыццяўляецца за кошт абласнога і гарадзкога бюджэтаў. Гэтае будаўніцтва ўспрымаецца людзьмі як святая справа, жыхыры горада і вобласці горача адгукнуліся на заклік ахвяраваць на ўзвядзенне храма грашовыя сродкі.

І ўсё-ж адчуваецца недахоп фінансавых рэсурсаў. Магчымасці абласнога бюджэту таксама абмежаваныя. У сувязі з гэтым звяртаемся да вас, шаноўныя землякі, з просьбай падключыцца да высокароднай справы і аказаць фінансавую дапамогу ў аднаўленні Свята-Успенскага кафедральнага сабо ра(...)

Карыстаючыся выпадкам, запрашаю наведаць горад Віцебск, культурную сталіцу Беларусі.

З павагай, старшыня абласнога савета дэпутатаў — Л. Ацясаў.

* * *

### ФЭДЭРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У АЎСТРАЛІІ

10-га лютага 2004 г.
Мэльбурн, Аўстралія.

Паважаныя дэпутаты гораду Віцебска!

Шчыра дзякую за Ваш ліст, пісаны 14.1.2004 г., які я перадаў настаяцелю мясцовай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы а. Аляксандру Кулакоўскаму.

Ня ведаю, ці ён будзе адпісваць на Ваш ліст, я вырашыў даць Вам адказ ад Фэдэральнай Рады БАА.

Быўшая БССР не была самастойнай і сувэрэннай дзяржавай, а была паслухмянай калоніяй Маскоўскай імпэрыі, якая сьлепа выконвала ўсе загады, якія паступалі з Масквы.

У сваім лісьце Вы пішаце, "пад час бездумнага і злачыннага па сваёй сутнасьці ваяўнічага атэізму Успенскі сабор быў зруйнаваны".

Дык гэтаж быў загад з Масквы — зруйноўваць і нішчыць усё беларускае, каб не было нават і сьледу беларускай культуры і гістарычных помнікаў. Масква хацела яшчэ раз даказаць беларусам, што толькі ў Маскве могуць быць такія слаўныя саборы, а беларусам гэта не патрэбна, каб быў сапраўдны "шэдэўр беларускага дойлідства"

Дык калі Масква зруйнавала Усьпенскі сабор, то няхай цяпер Масква і адбудоўвае яго. Трэба падаць іск на Маскоўскі камуністычны рэжым у інтэрнацыянальны суд у Гаагу, каб Масква пакрыла ўсе кошты адбудовы Усьпенскага сабору.

Беларусы па ўсім сьвеце стараюцца адрадзіць сваю Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву (БАПЦ).

Бо цяпер у Беларусі дзейнічае Руская Праваслаўная Царква, якая наносіць вялікую шкоду беларускаму народу, распаўсюджваючы русыфікацыю па ўсёй Беларусі. Ня так як нашая БАПЦ, дзе мы славім Усявышняга Бога на беларускай мове. Вось-жа, каб вы там на Беларусі адбудоўвалі нашую Беларускую БАПЦ, мы-б тут не пашкадавалі-б ахвяраваць нашага апошняга даляра.

На вялікі жаль для Рускай Праваслаўнай Царквы, у нас тут не знайшлося ні аднаго ахвотніка ахвяраваць грошы, каб і далей Масква праводзіла русыфікацыю нашага народу.

Ветліва просім Вас, калі ласка, прачытайце гэты ліст на вашым паседжаньні гарадзкіх Дэпутатаў. Ваш зварот і наш адказ на яго мы пасылаем у беларускую прэсу.

З пашанай, Аўген Груша —
Старшыня Фэдэральнай Рады БАА.

*****************************************************************

# Прыязджайце ў Беларусь, каб палюбавацца яе прыгажосьцю!

У Залесьсі, там дзе жыў аўтар чароўнага палянэза "Разьвітаньне з радзімай" Міхась Клеафанс Агінскі, у верасьні 2003 г. пад эгідай ЮНЭСКА адбылася Міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя, прысьвечаная адраджэньню і разьвіцьцю гістарычных сядзіб. У Беларусі іх, па няпоўных падліках, каля дзьвюх тысяч. І многія могуць стаць і ўжо становяцца, як Залесьсе, значнымі культурнымі асяродкамі, прываблівающь айчынных і замежных турыстаў.

На канфэрэнцыі гаварылася, што беларусы, акрамя школьнікаў, мала падарожнічаюць па сваёй краіне. Той, хто мае грошы, імкнецца пры пасрэдніцтве прыватных фірмаў выехаць за граніцу, адпачываць у Турцыі або на Канарскіх астравах. Гэтыя фірмы, як правіла, не займаюцца зарубежнымі турыстамі, не рэклямуюць Беларусь у замежных краінах, у тым ліку і сярод дыяспары, пакідаючы "ўязных" падарожнікаў "Белінтурысту". Мы робім усё, што можам, маем у сваёй сферы 48-гадовую практыку. Але, як гаварылася на канфэрэнцыі ў Залесьсі, далёка не ва ўсіх краінах ведаюць, які сэрвіс мы можам прапанаваць і што сабой уяўляе Беларусь увогуле.

У адказ на заўвагі і пажаданьні, якія прагучалі ў Залесьсі, нарадзіўся гэты артыкул. Спадзяемся, што яго ў інфармацыйных мэтах перадрукуюць перыядычныя выданьні нашай дыяспары.

Беларусі, безумоўна, неўласьцівыя яскравыя фарбы Паўднёвай Эўропы, экзатычнасьць Афрыкі, шматаблічнасьць Азіі. Затое яе сьціплая прыгажосьць прываблівае сваёй пяшчотнасьцю, мяккасьцю, пастэльнасьцю. Яна разлічана на чалавека, духоўна багатага, настроенага рамантычна або сэнтыментальна-настальгічна.

Беларусь — краіна лясоў і дуброў, пушчаў і балот, тысячы рэк і азёр, бяскрайніх палёў і лугоў, адкрытых цёпламу сонцу або зімнім завеям. Прывабнасьць яе — у мяккіх пералівах ранішняга неба над размытай лініяй гарызонту, ап'яняючым паветры сасновага бору, журлівым крыку жураўлёў і сытым рыканьні кароў, якія ідуць з пашы. Апусьціце стомленыя рукі ў сьцюдзёную крыніцу, схаваўшыся ў аксамітнай зеляніне лугавых траваў, углядзьцеся ў імклівы лясны струмень, схавайцеся ад грыбнога дажджу пад навесам сялянскай хаты, удыхаючы водар сена і смаленых паленьняў. І вы не пашкадуеце, што прыехалі ў Беларусь. Каб адпачыць, паглядзець навокал, павандраваць, папаляваць, парыбачыць. Каб успрыняць яе людзей і яе зямлю як адзінае цэлае.

На нашай зямлі жывуць каля 10 мільёнаў чалавек. У Беларусі прадстаўлены праваслаўная, каталіцкая, пратэстанцкая галіны хрысьціянства, ёсьць вызнаўцы ісламу і іудаізму. Беларусь заваёўвалася неаднойчы, але яна сама нікога не заваёвала. Край прымаў чужую культуру і мову, мяняў веру, але ніколі не губляў сваёй нацыянальнай самабытнасьці. Беларусь схілялася, як трава пры націску варожага ўрагану, але хутка распрамлялася і зноў квітнела. Таму садзейнічалі асноўныя рысы беларусаў — працавітасьць, талерантнасьць у дачыненьні да іншых, адсутнасьць агрэсіўнасьці. Тыя-ж рысы ўласьцівыя слаўным сынам і дочкам зямлі беларускай — як тым, хто тварыў на карысьць свайго народу (Еўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, Франьцішак Скарына, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў), так і тым, хто стаў гордасьцю іншых культураў (Сімяон Полацкі, Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Марк Шагал і многія іншыя). Памятныя мясьціны, зьвязаныя з іх жыцьцём і дзейнасьцю, вы зможаце агледзець у час падарожжа.

Беларусь — гэта яшчэ і краіна замкаў, храмаў, палацаў, сядзібаў, паркаў. Тут, відаць, хаваюцца легендарныя скарбы — у тым ліку 12 радзівілаўскіх апосталаў і маскоўская здабыча Напалеона. На нашай зямлі знаходзяцца Полацак — сталіца адной са старажытнейшых у Эўропе дзяржаваў, Полацкага княства, Навагрудак (Навагарадок), які стаў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага (750 гадоў назад тут каранавалі Міндоўга). Гэтыя і іншыя гарады і мястэчкі захавалі сярэдневяковую забудову, помнікі архітэктуры: Спаса-Еўфрасіньнеўскую царкву XI стагодзьдзя і Сафійскі сабор у Полацку, Каложскую царкву ў Гродне, замкі ў Міры і Нясьвіжы, Навагрудку і Крэве, Лідзе і Гальшанах. Адзін пералік помнікаў, гістарычных сядзібаў заняў-бы некалькі старонак. Усё гэта будзе для вас даступна ў час падарожжа. Прыгадаем, што ў сьпісе культурна-гістарычнай спадчыны сьвету, складзе- ным ЮНЭСКА, сёньня значыцца Мірскі замак і ўнікальная Белавежская пушча, населеная зубрамі, аленямі, дзікамі... Сьпіс, спадзяемся, будзе папоўнены.

Прыехаўшы ў Беларусь, вы абавязкава сустрэнеце гасьціннасьць і прыязнасьць, рэдкую ў сёньняшнім сьвеце здольнасьць з разуменьнем і павагай адносіцца да чужых перакананьняў. Зьвярніцеся да любога сустрэчнага — і ў адказ вы ўбачыце добразычлівую ўсьмешку, гатоўнасьць дапамагчы. Тут вас пачастуюць традыцыйнымі баршчом і халадніком, мачанкай і верашчакай, бульбай у гаршчэчках і вэнджанымі вуграмі, кісялём і квасам, а калі вы трапіце ў Дадуткі ля Менску — то яшчэ і самагонам.

У Беларусі вам можа здацца, што тут, у сэрцы Эўропы, час запаволіў свой прысьпешаны бег. Прырода тут застаецца натуральнай, людзі — чалавечнымі, а каштоўнасьці — вечнымі. Гэта асабліва вам кінецца ў вочы на фоне глабалізацыі, якая паскорана робіць жыцьцё стандартным.

Ну а калі вы беларус, прадстаўнік той чвэрці ўсіх беларусаў, якія пражываюць за межамі сваёй краіны, калі вы паляк, рускі, яўрэй, татарын, летувіс, але адначасова ўраджэнец Беларусі ці нашчадак ураджэнцаў, то вы зможаце наведаць родныя мясьціны, пакланіцца зямлі сваіх продкаў, асэнсаваць свае карэньні, скласьці (з дапамогай архівістаў) свой радавод.

"Белінтурыст", нацыянальны турыстычны канцэрн Беларусі, будзе рады магчымасьці пазнаёміцца з вамі і зьдзейсьніць вашу мару — наведаць сваю радзіму. Галоўная мэта нашай дзейнасьці — рэалізацыя задум і інтарэсаў кожнага падарожніка, турыста, які хоча адкрыць Беларусь з новага, не бачанага раней, нечаканага боку. Якія-б ні былі вашы мэты — адукацыйныя, пазнавальныя, культуралагічныя, спартыўныя, паляўнічыя ці дзелавыя, — мы заўсёды дапаможам вам арганізаваць і правесьці патрэбныя сустрэчы, атрымаць асалоду ад непаўторнай прыроды, карысна, цікава і весела правесьці час. Якасьць нашых паслуг праверана і знакамітымі кліентамі, і звычайнымі аматарамі падарожжаў.

Сёньня "Белінтурыст" адраджае і разьвівае даўнюю традыцыю наведваньня Беларусі ў адпаведнасьці з веравызнаньнем кожнага госьця — праваслаўнага ці каталіка, іудзея ці мусульманіна. Наша шматканфэсійная і талерантная краіна ганарыцца матэрыяльнымі помнікамі і духоўнай спадчынай кожнага веравызнаньня, якое здаўна прыжылося на нашай зямлі.

Мы перакананыя, што прыўкрасная, як пісаў Уладзімір Караткевіч, наша краіна з непаўторнай прыродай, старажытнай матэрыяльнай і духоўнай спадчынай, гасьціннымі і добрасардэчнымі людзьмі зьяўляецца якраз тым месцам на зямлі, якое несумненна вам варта наведаць.

"Белінтурыст" працуе на міжнародным турыстычным рынку ўжо амаль 50 гадоў. Мы працягваем традыцыі і выкарыстоўваем вопыт нашых папя- рэднікаў, успрымаем усё новае і заўсёды гатовыя дапамагчы вам наведаць нашу непаўторную краіну — Беларусь.

Мы гарантуем высокую якасьць паслуг, камфорт і гасьціннасьць!

*Марыя Філіповіч,* генэральны дырэктар "Белінтурыст"

Адрас: Беларусь, 220004, Менск, праспект Машэрава, 19. Тэль. (+375 17) 226 9700.

* * *

Друкуем гэтую "рэкляму" па рэкамэндацыі шаноўнага праф. А. Мальдзіса, хоць зьмест гэтае пісаніны выклікае шмат пытаньняў і заўвагаў...

*********************************************************

# Вярнуць паясы на радзіму

Прафесар кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта Валянцін Рабцэвіч лічыць, што «унікальны паясны набор XV стагоддзя, знойдзены ў Беларусі і прададзены расійскай камерцыйнай фірме за бесцань, павінен быць вернуты дзяржаве». Гэту думка прафесар выказаў у інтэрв'ю «Інтэрфаксу».

На яго думку, «некалькі гадоў назад шэрагам чыноўнікаў з міністэрства культуры быў арганізаваны продаж адной з камерцыйных расійскіх фірмаў гэтай унікальнай знаходкі, якая па сваёй значнасці для гісторыі Беларусі стаіць на другім месцы пасля Крыжа Ефрасінні Полацкай».

Прафесар таксама паведаміў, што «рэчавая частка знойдзенага скарбу папярэдне была ацэненая па ніжняму кошту лота на аўкцыёне Сотбіс — 80 тысяч долараў». В. Рабцэвіч таксама паведаміў, што «гэты скарб, знойдзены ў Беларусі, пры афіцыйнай ацэнцы спецыялістаў у галіне археалогіі, нумізматыцы, у тым ліку і экспертаў з Нацыянальнага банка быў кваліфікаваны як рэліквія сусветнага значэння». Археолагі і нумізматы, якія ацэньвалі гістарычную каштоўнасць знаходкі, прыйшлі да высновы, што «гэты парадны паясны набор быў перададзены ў дар князю Вітаўту ад крымскага хана ў першай трэці XV стагоддзя», паведаміў прафесар. Ён таксама сказаў, што «гэты скарб, аналагаў якому няма ў свеце, быў прададзены камерцыйнай фірме за 5 тысяч долараў, а некалькі тысяч старадаўніх манет разышліся па руках». Разам з тым В. Рабцэвіч паведаміў, што «ў шэрагу гісторыкаў ёсць упэўненасць, што 6186 манет з гэтага скарбу знаходзяцца ў Беларусі».

Прафесар таксама выказаў неўразуменне ў сувязі з тым, што «найкаштоўнейшая знаходка, якая па ўсіх законах павінна знаходзіцца ў дзяржаўным музеі, ляжыць у сейфе камерцыйнай фірмы». У дадзенай сувязі ён сказаў, што «неабходна перагледзець рашэнне суда, згодна з якім здзелка аб продажы міністэрствам культуры адной з камерцыйных фірмаў са 100-працэнтным расійскім капіталам, размешчанай у Мінску, найкаштоўнейшай знаходкі была прызнаная законнай».

## Міхась Міцкевіч...

У 1974 годзе супрацоўнікі Літаратурнага музэя імя Якуба Коласа выдалі альбом, у якім было багата здымкаў і цікавая, разнастайная інфармацыя пра вялікую, таленавітую сямью Міцкевічаў, зь якой выйшаў і славуты беларускі пясьняр – Якуб Колас, аднак на 20-й старонцы альбому засталася белая пляма. Сярод здымкаў сясьцёр і братоў Міцкевічаў няма Міхася, малодшага брата паэта. Да пачатку 90-х ягонае імя нідзе ня ўзгадвалася, ды й псэўданім - Антось Галіна, пад якім Міхась Міцкевіч працаваў як празаік, публіцыст, перакладчык - беларускаму чытачу быў практычна невядомы...

*********************************************